ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XI

№ 5
Май 1937 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 7.
Тэлефон рэдакцыі па камутатару
20000, даб. 50.



# К ДВАЦЦАЦІПЯЦІГОДДЗЮ „ПРАВДЫ“

## ЦК ВКП(б)—„Праўде“

«Праўдзе»—баявому органу большэвіцкай партыі, нястомнаму барацьбіту за справу марксізма-ленінізма, вернаму захоўніку большэвіцкіх традыцый—у дзень яе слаўнага дваццаціпяцігоддзя большэвіцкае прывітанне.

Гісторыя ленінскай «Праўды» непарыўна звязана з гісторыяй большэвізма. Народжаная на хвалі рэвалюцыйнага ўздыму ў 1912 годзе, «Праўда» адыграла віднейшую ролю ў барацьбе за згуртаванне сіл большэвізма і рабочага класа, за перамогу дыктатуры пролетарыята і трыумф соцыялізма.

ЦК ВКП(б) упэўнен, што «Праўда» будзе і надалей высока несці сцяг Маркса—Энгельса—Леніна, згуртоўваючы мільённыя масы партыйных і непартыйных большэвікоў, дапамагаючы ім і ўсім працоўным нашай радзімы авалодваць большэвізмам, ведучы іх па шляху рашучай барацьбы з ворагамі народу,—за перамогу комунізма.

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ УСЕСАЮЗНАЙ
КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (большэвікоў)

## ЦК КП(б)Б—„Правде“

«Правде»—нястомнаму барацьбіту за ідэі Леніна—Сталіна, у дзень 25-годдзя большэвікі Беларусі і ўвесь беларускі народ шлюць палкае большэвіцкае прывітанне. Створаная вялікімі настаўнікамі чалавецтва—Леніным і Сталіным, «Правда» на працягу чвэрці века з гонарам нясе высока ўзняты неперамажны сцяг марксізма-ленінізма. Астрыём большэвіцкага друкаванага слова «Правда» смяротна паражае ўсіх ворагаў комунізма, якім-бы сцягам яны ні прыкрываліся. На працягу чвэрці века «Правда» была і астаецца стойкім барацьбітом за ленінска-сталінскую прынцыповасць, за ідэйную чыстату большэвізма, сапраўды баявым арганізатарам рабочага класа і працоўнага сялянства.

Большэвікі Беларусі цвёрда вераць, што ленінска-сталінская «Правда» пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта партыі і любімага правадыра—таварыша Сталіна будзе і ў далейшым высока несці ўсёперамагаючы сцяг комунізма.

Сакратар ЦК КП(б)Б ШАРАНГОВІЧ.

---

# Неапублікаваны артыкул В. І. Леніна

„Рабочая Газета"—папулярны орган нашай партыі, які выдаваўся ў Парыжы з 12 лістапада 1910 г. па 12 жніўня 1912 г. (усяго вышла 9 нумароў). „Рабочая Газета" аснавана і рэдагавалася Леніным. Напісаны Уладзімірам Ільічом у кастрычніку 1910 г. праект Аб'явы аб выданні „Рабочей Газеты" не быў ім дан у друк, і друкуецца тут упершыню.

*Інстытут Маркса—Энгельса—Леніна пры ЦК ВКП(б)*

# Аб'ява аб выданні „Рабочей Газеты"

**(Кастрычнік 1910 г.)**

Цяжкі крызіс рабочага руху і соцыял-дэмакратычнай партыі ў Расіі ўсё яшчэ працягваецца. Распад партыйных арганізацый, амаль павальнае бегства з іх інтэлігенцыі, разброд і хістанні сярод застаўшыхся вернымі соцыял-дэмакратыі, смутак і апатыя сярод даволі шырокіх слаёў передавога пролетарыята, няўпэўненасць у тым, дзе шлях выхаду з гэтага становішча,—такавы тыя рысы, якімі адметна сучаснае становішча. Не мала знаходзіцца маладушных і малавераў сярод соцыял-дэмакратаў, якія гатовы адчаяцца ў магчымасці разабрацца ў пануючай блытаніне, адчаяцца ў задачы аднаўлення і ўмацавання партыі, Р.С.Д.Р.П. з яе рэволюцыйнымі задачамі і традыцыямі, гатовы махнуць рукой і замкнуцца ў асабістае жыццё або ў вузкія, дробныя гурткі, занятыя адной «культурнай» работай і т. п.

Крызіс працягваецца, але яго канец ужо ясна відаць цяпер, дарога к выхаду ўпаўне намечана і выпрабавана партыяй, разброд і хістанні адліліся ўжо ў даволі акрэсленыя і вельмі акрэсленым чынам ацэненыя партыяй плыні, напрамкі, фракцыі,—а акрэсленасць антыпартыйных плыней, ясная ацэнка іх ёсць ужо палова збаўлення ад разброду і хістанняў.

Каб не паддавацца адчаю і расчараванню, неабходна толькі зразумець усю глыбіню крыніц крызісу. Праз гэты крызіс нельга пераскочыць, яго нельга абыйсці, яго можна толькі зжыць ва ўпартай барацьбе, бо гэты крызіс не выпадковы, а пароджаны **асобым** этапам і **эканамічнага** і палітычнага развіцця Расіі. Самадзяржаўе царуе, як і раней. Яшчэ грубей гвалты. Яшчэ мацней бяспраўе. Яшчэ наглей эканамічны гнёт. Але самадзяржаўе не можа трымацца **толькі** старымі сродкамі. Яно **вымушана** рабіць новую спробу, спробу адкрытага саюза з чорнасоценнымі памешчыкамі-прыгоннікамі, з акцябрысцкімі капіталістамі, саюза ў Думе і праз Думу. Усім, хто не страціў здольнасці думаць, відавочна безнадзейнасць гэтай спробы, відавочна нарастанне новага рэволюцыйнага крызісу. Але гэты рэволюцыйны крызіс падрыхтоўваецца ў новай абстаноўцы, пры нязмерна большай

свядомасці, згуртаванасці, арганізаванасці класаў і партый, якіх да рэвалюцыі 1905 г. не было. Рускі лібералізм з дабрадушнай, летуценнай, рыхлай і сырой апазіцыі добрых пажаданняўператварыўся ў моцную, парламенцкі вышкаленую партыю інтэлігентных буржуа, якія з'яуляюцца свядомымі ворагамі социялістычнага пролетарыята і рэвалюцыйнай расправы сялянскіх мас з п.п. прыгоннікамі. Кляньчыць уступак у манархіі, пагражаць ёй рэволюцыяю (ненавіснай і страшнай для самога ліберала), вечна здраджваць вызваленчай барацьбе і перабягаць на бок ворага—вось немінучы, у сілу класавай прыроды немінучы, удзел ліберальнай, канстытуцыйна-дэмакратычнай, партыі. Рускае сялянства даказала сваю здольнасць да масавай рэволюцыйнай барацьбы, калі яна пачата пролетарыятам, і сваю ўласцівасць бясконца хістацца паміж лібералізмам і социялдэмакратыяй. Рускі рабочы клас даказаў, што ён адзіны да канца рэволюцыйны клас, адзіны кіраўнік у барацьбе за (буржуазную нават) свабоду. І цяпер вялікая задача працягвання барацьбы за свабоду можа быць вырашана і будзе вырашана толькі рэволюцыйнай барацьбой пролетарыята, які захапляе за сабою масы працоўных і эксплаатуемых. Дзейнічаючы ў новай абстаноўцы, сярод больш свядомых і больш згуртаваных ворагаў, рабочы клас павінен перабудаваць і сваю партыю, Р.С.Д.Р.П. На месца кіраўніка-інтэлігента ён вылучае кіраўнікоў з рабочага асяроддзя. Расце новы тып с.д. рабочага партыйца, які самастойна вядзе усе справы партыі і здольны згуртаваць, аб'яднаць, арганізаваць удзесяцёра і ва сто раз большыя, у параўнанні з папярэднім, пролетарскія масы.

Да гэтага новага рабочага і звяртаемся мы ў першую галаву з нашай **Рабочай Газетай.** Гэты рабочы вырас з таго ўзросту, калі яму магло падабацца, каб з ім гутарылі сюсюкаючы, каб яго кармілі малочнай кашыцай. Яму трэба ведаць усё аб палітычных задачах партыі, аб яе будаўніцтве, аб унутрыпартыйнай барацьбе. Яму не страшна неприкрашаная праўда аб партыі, умацаваннем, аднаўленнем і перабудоваю якой ён заняты. Яму не дапамагаюць, а прыносяць шкоду тыя агульнарэволюцыйныя фразы, тыя саладжава-прымірэнцкія воклічы, якія ён знаходзіць у зборніках «Вперед» або ў газеце Троцкага «Правде», не знаходзячы ні там, ні тут яснага, дакладнага, прамога выкладання партыйнай лініі і партыйнага становішча.

Гэтае партыйнае становішча вельмі цяжкае, але галоўная цяжкасць заключаецца не ў тым, што партыя страшэнна аслаблена і арганізацыі часта зусім разбіты, і не ў тым, што абвострана ўнутрыпартыйная барацьба фракцый, а ў тым, што передавы слой социялдэмакратычных рабочых недастаткова ясна ўсвядоміў сутнасць і значэнне гэтай барацьбы, недастаткова згуртаваўся для паспяховага вядзення яе, недастаткова самастойна і недастаткова энергічна ўмяшаўся ў яе для стварэння, падтрымкі, умацавання таго **партыйнага ядра,** якое выводзіць Р.С.Д.Р.П. з разброду, развалу і хістанняў на цвёрдую дарогу.

Гэта дарога намечана ўпаўне рашэннямі снежаньскай 1908 года канферэнцыі, развітымі ў рашэннях пленума Ц.К. 1910 года. Гэтае ядро складаецца з таго саюза артадаксальных большэвікоў (праціўнікаў адзавізма і буржуазнай філасофіі) і партыйных меншавікоў (праціўнікаў ліквідатарства), які зараз вядзе, на справе, а не ў сілу фармальных толькі адносін, вядзе галоўную работу ў Р.С.Д.Р.П.

Рабочым гавораць, што гэты саюз толькі ўзмацняе і абвастрае фракцыйную барацьбу, барацьбу з ліквідатарамі і адзавістамі «замест» таго, каб змагацца з ліквідатарствам і адзавізмам. Гэта—пустая фраза,

гэта адно сюсюканне, якое мяркуе ў рабочым не дарослага чалавека, а дзіця. Непрыемна тая праўда, што пры слабасці партыі, пры разбітасці арганізацый, пры немінучасці замежнай базы ўсякая плынь лёгка складае фактычна зусім незалежную і самастойную ад партыі замежную фракцыю, але гэтую праўду смешна (або злачынна) скрываць ад с.-д. рабочага, які павінен перабудаваць **сваю** партыю на аснове **акрэсленай,** дакладнай, яснай партыйнай лініі. Самыя нежаданыя **формы** фракцыйнай барацьбы пануюць у нас зараз, гэта бясспрэчна, але іменна для таго, каб перарабіць **формы** гэтай барацьбы, неабходна перадавым рабочым не моршчыць пагардліва нос, не адмахвацца фразай ад непрыемнай (для дылетанта, для госця ў партыі) задачы перапрацоўкі непрыемных форм непрыемнай барацьбы, а **зразумець** сутнасць і значэнне гэтай барацьбы і **паставіць** работу на месцах так, каб па **кожнаму** пытанню соцыялістычнай прапаганды, палітычнай агітацыі, прафесіянальнага руху, кааперацыйнай работы і т. д. і т. п. **вызначаць** тую грань, за якою пачынаецца адхіленне **ад** соцыялдэмакратыі ў ліберальнае ліквідатарства або поўанархічны адзавізм, ультыматызм і т. п., весці **партыйную справу** ў правільнай лініі, вызначаемай гэтымі гранямі. Адной з галоўных задач **Рабочай Газеты** ставім мы— дапамагчы рабочым у вызначэнні гэтых граней па кожнаму з важнейшых **канкрэтных** пытанняў сучаснай рускай рэчаіснасці.

Рабочым гавораць: іменна аб'яднаўчая спроба пленума (поўнага сходу) Ц. К. у студзені 1910 г. даказала бясплоднасць і бязвыхаднасць унутрыпартыйнай фракцыйнай барацьбы, якая моў «сарвала» аб'яднанне. Гавораць так людзі або неасвядомленыя або зусім няздольныя думаць або **скрываючыя** свае сапраўдныя мэты з дапамогаю тых ці іншых звонкіх, мілагучных і нічога не гаворачых фраз. Пленум «расчараваў» толькі тых, хто баяўся глядзець праўдзе ў вочы і цешыў сябе ілюзіямі. Як ні вяліка была часам «прымірэнчая каша» на пленуме, а ў выніку атрымалася якраз тое аб'яднанне, якое толькі і магчыма, якое толькі і патрэбна. Калі ліквідатары і адзавісты **падпісалі** рэзалюцыю аб барацьбе з ліквідатарствам і адзавізмам, а на другі дзень яшчэ «старанней» узяліся за старое, то гэта толькі даказала немагчымасць партыі разлічваць на непартыйныя элементы, толькі паказала ясней, якавы гэтыя элементы. Партыя ёсць добраахвотны саюз, і аб'яднанне магчыма і карысна толькі тады, калі яднаюцца **людзі, якія хочуць і могуць весці хоць колькі-небудзь** добрасумленна агульную партыйную лінію, **вярней:** якія **зацікаўлены** (сваімі ідэямі, сваімі тэндэнцыямі) вядзеннем **агульнай** партыйнай лініі. Аб'яднанне немагчыма і шкодна, калі яно спрабуе заблытаць і зацямніць усведамленне гэтай лініі, калі яно спрабуе звязаць фіктыўнай сувяззю тых, хто цягне партыю рашуча па антыпартыйнаму напрамку. І аб'яднанне паміж **асноўнымі** групамі большэвізма і меншавізма дасягнута пленумам і ўмацавана, калі не дзякуючы пленуму, то праз пленум.

Рабочы, які не хоча, каб з ім гаварылі сюсюкаючы, не можа не разумець, што ліквідатарства і адзавізм такія-ж не выпадковыя, глыбока заходзячыя сваімі карэннямі напрамкі, як большэвізм і меншавізм. Толькі выдумшчыкі пабасенак «для рабочых» тлумачаць розніцу гэтых фракцый «інтэлігенцкімі» спрэчкамі. На справе гэтыя два напрамкі, якія наклалі свой адбітак на ўсю гісторыю расійскай рэволюцыі, на ўсе першыя гады (і ва многіх адносінах самыя важныя гады) масавага рабочага руху ў Расіі, пароджаны самым працэсам эканамічнай і палітычнай перабудовы Расіі з прыгонніцкай у буржуазную

краіну, пароджаны **тымі** ўплывамі розных буржуазных класаў, якія на пролетарыят дзейнічалі, або вярней: той абстаноўкай розных слаёў буржуазіі, у якой пролетарыят дзейнічаў. Адсюль выцякае, што немагчыма аб'яднанне соцыял-дэмакратыі ў Расіі шляхам зніштажэння аднаго з двух напрамкаў, якія склаліся ў эпоху найбольш адкрытых, найбольш шырокіх, масавых, свабодных, гістарычна-важных дзеянняў рабочага класа ў рэволюцыі. Але адсюль выцякае таксама, што не ў зычлівых фразах аб адзінстве, аб зніштажэнні фракцый і т. п., а толькі ва ўнутраным развіцці двух фракцый закладзены асновы рэальнага збліжэння іх. Іменна такое збліжэнне і перажывае партыя рабочага класа з таго часу, як мы, большэвікі, вясной 1909 г. канчаткова пахавалі «адзавізм», а партыйныя меншавікі, з Плеханавым на чале, пачалі не менш рашучую барацьбу з ліквідатарствам. Што свядомыя рабочыя ў **абодвух** фракцыях у велізарнай большасці стаяць на баку праціўнікаў адзавізма і ліквідатарства, гэта бясспрэчна. Таму, як-бы ні цяжка, часамі трудна і заўсёды непрыемна ні была ўнутрыпартыйная барацьба на гэтай глебе, мы не павінны забываць **сутнасць** з'явы з-за **формы** яе. З-за дрэў не бачаць лесу, хто не бачыць у аснове гэтай барацьбы (немінучай пры даным стане партыі ў форме барацьбы фракцый) працэсу **згуртавання** асноўнага партыйнага ядра свядомых с. д. рабочых.

Мэтам такога згуртавання сапраўднага с. д. ядра будзе служыць і **Рабочая Газета**, якую асноўваем мы, большэвікі, заручыўшыся згодай партыйных меншавікоў (з Плеханавым на чале) на падтрымку нашага выдання. Гэта выданне вымушана з'явіцца на свет, як фракцыйнае выданне, як фракцыйнае прадпрыемства большэвікоў. Знойдуцца, бадай, людзі, якія і тут за дрэвамі не заўважаць лесу і закрычаць аб звароце **«назад»** да фракцыйнасці. Перадаўшы падрабязна наш погляд на сутнасць і значэнне сапраўды адбываючагася, сапраўды важнага і неабходнага партыйнага аб'яднання, мы ўжо тым самым паказалі цану падобным пярэчанням, якія **на справе** азначалі-б толькі **заблытванне** пытання аб аб'яднанні і **прыкрыццё** тых ці іншых фракцыйных мэт. А мы **хочам больш за ўсё**, каб **Рабочая Газета** дапамагла рабочым з поўнай яснасцю і да канца зразумець усё партыйнае становішча і ўсе партыйныя задачы.

Прыступаючы да выдання **Рабочай Газеты**, мы разлічваем на дапамогу і Ц. К. нашай партыі і мясцовых арганізацый і паасобных груп свядомых рабочых, якія адарваліся ў даную мінуту ад партыі. Мы разлічваем на дапамогу Ц. К., ведаючы, што на працягу раду месяцаў яму не ўдавалася паставіць сваю работу **правільна** ў Расіі, не ўдавалася іменна таму, што акрамя большэвікоў і партыйных меншавікоў ён не сустракаў **нідзе** садзейнасці, а нярэдка сустракаў прамое процідзеянне іншых фракцый. Гэта цяжкая паласа ў жыцці Ц. К. пройдзе і, каб яна прашла хутчэй, мы павінны не проста «чакаць», пакуль Ц. К. адновіцца, пакуль ён узмацнее і т. д., а **неадкладна** прыступаць па ініцыятыве паасобных груп і паасобных мясцовых арганізацый, да наладжвання—спачатку няхай у самых скромных памерах—той іменна справы ўмацавання партыйнай лініі і **сапраўднага** партыйнага адзінства, над якім больш за ўсё працуе і Ц. К. Мы разлічваем на дапамогу мясцовых арганізацый і паасобных груп рабочых, бо выключна іх актыўная работа над газетай, выключна іх падтрымка, іх водзывы, іх артыкулы, матэрыялы, звесткі і заўвагі могуць паставіць на ногі і забяспечыць вядзенне **Рабочай Газеты.**

*І. Сталін*

# Лонданскі з'езд Расійскай Соцыял-Дэмакратычнай Рабочай Партыі[1]

*(Запіскі дэлегата)*

Лонданскі з'езд закончыўся. Наперакор чаканням ліберальных пісак, розных там Вергежскіх і Кусковых,—з'езд даў нам не раскол, а далейшае згуртаванне партыі, далейшае аб'яднанне перадавых рабочых усёй Расіі ў адну непадзельную партыю. Гэта быў сапраўдны ўсерасійскі аб'яднаўчы з'езд: бо на ім упершыню былі прадстаўлены найбольш шырока і поўна нашы польскія, бундаўскія і латышскія таварышы, на ім упершыню яны прынялі актыўны ўдзел у работах партыйнага з'езда і, стала быць, упершыню звязалі найбольш непасрэдна лёс сваіх арганізацый з лёсам усёй партыі. У гэтым сэнсе Лонданскі з'езд значна рушыў наперад справу згуртавання і ўмацавання Расійскай Соцыял-Дэмакратычнай Рабочай Партыі.

Такі першы і важны вынік Лонданскага з'езда.

Але гэтым яшчэ не вычэрпваецца значэнне Лонданскага з'езда. Справа ў тым, што, наперакор жаданню тых-жа ліберальных пісак, з'езд закончыўся перамогай «большэвізма», перамогай рэволюцыйнай соцыял-дэмакратыі над апартуністычным крылом нашай партыі, над «меншавізмам». Усім вядомы, зразумела, нашы рознагалоссі па пытанню аб ролі розных класаў і партый у нашай рэволюцыі і аб нашых да іх адносінах. Вядома таксама і тое, што афіцыяльны цэнтр партыі, меншавіцкі па свайму складу, у цэлым радзе выступленняў становіўся ў супярэчнасць з партыяй у цэлым.

Успомніце хоць-бы: гісторыю з лозунгам Цэнтральнага Камітэта аб адказным кадэцкім міністэрстве, адвергнутым партыяй у час пер-

---

1) Гэты артыкул таварыша Сталіна, напісаны неўзабаве пасля V з'езда, упершыню быў надрукован у 1907 годзе ў першых двух нумарах большэвіцкай газеты „Бакинский пролетарий" (№ 1 ад 20 чэрвеня і № 2 ад 10 ліпеня) за подпісам: „Коба Іванавіч". Артыкул быў снабжон паметкай: „Продолжение следует". Аднак па „незалежных" ад аўтара прычынах (узмацніўшаяся к другой палове 1907 года слежка шпікаў, затым арышт і ссылка) артыкул так і не быў закончан.

**Рэдакцыя.**

шай Думы; гісторыю з лозунгам таго-ж ЦК аб «аднаўленні сесіі Думы» пасля разгону першай Думы, таксама адвергнутым партыяй; гісторыю з вядомым заклікам ЦК да ўсеагульнай забастоўкі па поваду разгону першай Думы, таксама адвергнутым партыяй... Неабходна было палажыць канец гэтаму ненармальнаму становішчу. А для гэтага ў сваю чаргу неабходна было падвесці вынік фактычным перамогам партыі над апартуністычным ЦК, перамогам, напаўняючым гісторыю ўнутранага развіцця нашай партыі за ўвесь прайшоўшы год. І вось, Лонданскі з'езд падвёў вынік усім гэтым перамогам *рэволюцыйнай* соцыял-дэмакратыі, і, замацаваўшы за ёй перамогу, ён прыняў тактыку гэтай соцыял-дэмакратыі.

Стала быць, з гэтага часу партыя будзе праводзіць строга класавую палітыку соцыялістычнага пролетарыята. Чырвоны сцяг пролетарыята не будзе больш схіляцца перад краснабаямі лібералізма. Непадыходзячыя пролетарыяту інтэлігенцкія хістанні атрымалі смяротны ўдар.

Такі другі, не менш важны вынік Лонданскага з'езда нашай партыі.

Фактычнае аб'яднанне перадавых рабочых усёй Расіі ў адзіную ўсерасійскую партыю пад сцягам *рэволюцыйнай* соцыял-дэмакратыі— такі сэнс Лонданскага з'езда, такі яго агульны характар.

Пяройдзем цяпер да больш падрабязнай характарыстыкі з'езда.

## I. Склад з'езда

Усяго на з'ездзе прысутнічала каля 330 дэлегатаў. З іх 302 былі з правам рашаючага голасу—прадстаўнікі больш чым 150.000 членаў партыі, астатнія—дарадчыя. Па фракцыях размяркоўваліся прыблізна наступным чынам (толькі рашаючыя): 92 большэвікі, 85 меншавікоў, 54 бундаўцы, 45 палякаў і 26 латышоў.

З пункту погляду грамадскага становішча членаў з'езда (рабочыя і нерабочыя) з'езд прадстаўляў наступны малюнак: рабочых фізічнай працы было ўсяго 116; канторшчыкаў і прыказчыкаў—24; астатнія—нерабочыя. Прычым рабочыя фізічнай працы па фракцыях размяркоўваліся наступным чынам: у большэвіцкай фракцыі—38 (36 проц.); у меншавіцкай—30 (31 проц.); у палякаў—27 (61 проц.); у латышоў—12 (40 проц.); у бундаўцаў—9 (15 проц.). А прафесіянальныя рэволюцыянеры размяркоўваліся па фракцыях наступным чынам: у большэвіцкай фракцыі—18 (17 проц.); у меншавіцкай—22 (22 проц.); у палякаў—5 (11 проц.); у латышоў—2 (6 проц.); у бундаўцаў—9 (15 проц.).

Мы ўсе былі «здзіўлены» гэтай статыстыкай. Як? Меншавікі так многа крычалі аб інтэлігенцкім складзе нашай партыі, яны дзень і ноч лаялі большэвікоў інтэлігентамі, яны пагражалі прагнаць усіх інтэлігентаў з партыі, яны ўвесь час трэціравалі прафесіянальных рэво-



люцыянераў—і раптам у іх ва фракцыі аказалася значна менш рабочых, чым у «інтэлігентаў»-большэвікоў! У іх аказалася значна больш прафесіянальных рэволюцыянераў, чым у большэвікоў! Але мы тлумачылі меншавіцкія крыкі тым, што «у каго што баліць, той аб тым і крычыць»...

Яшчэ больш цікавыя лічбы аб складзе з'езда з пункту погляду «тэрытарыяльнага размеркавання» дэлегатаў. Выяснілася, што вялікія групы меншавіцкіх дэлегатаў пасылаюцца галоўным чынам сялянскімі і рамесніцкімі раёнамі: Гурыя (9 дэлег.), Тіфліс (10 дэлег.), Маларасійская сялянская арганізацыя «Спілка» (здаецца, 12 дэлег.), Бунд (велізарная большасць—меншавіцкая) і, як выключэнне,—Данецкі басейн (7 чал.). Тым часам, як вялікія групы большэвіцкіх дэлегатаў пасылаюцца выключна буйна-прамысловымі раёнамі: Пецербург (12 дэлег.), Масква (13 або 14 дэлег.), Урал (21 дэлег.), Іванава-Вазнесенск (11 дэлег.), Польшча (45 дэлег.).

Відавочна, тактыка большэвікоў з'яўляецца тактыкай буйна-прамысловых пролетарыяў, тактыкай тых раёнаў, дзе класавыя супярэчнасці асабліва ясны і класавая барацьба асабліва рэзка. Большэвізм—гэта тактыка сапраўдных пролетарыяў.

З другога боку, не менш відавочна і тое, што тактыка меншавікоў з'яўляецца пераважна тактыкай рамесніцкіх рабочых і сялянскіх поўпролетарыяў, тактыкай тых раёнаў, дзе класавыя супярэчнасці не зусім ясны і класавая барацьба замаскавана. Меншавізм—гэта тактыка поўбуржуазных элементаў пролетарыята.

Так гавораць лічбы.

І гэта не цяжка зразумець: нельга сур'ёзна гаварыць сярод лодзінскіх, маскоўскіх або іванава-вазнесенскіх рабочых аб блоках з той самай ліберальнай буржуазіяй, члены якой вядуць з імі жорсткую барацьбу, то і справа «караючы» іх частковымі разлікамі і масавымі лакаутамі—там меншавізм не знойдзе сабе сімпатый; там патрэбен большэвізм, тактыка непрымірымай пролетарскай класавай барацьбы. І наадварот, надта цяжка прывіць ідэю класавай барацьбы гурыйскім сялянам або якім-небудзь шклоўскім рамеснікам, якія не адчуваюць вострых сістэматычных udараў класавай барацьбы і таму ахвотна ідуць на ўсякія пагадненні супроць «агульнага ворага»—там пакуль не патрэбен большэвізм, там патрэбен меншавізм, бо там усё прасякнута атмасферай пагадненняў і кампрамісаў.

Не менш цікавы склад з'езда з пункту погляду нацыянальнасцей. Статыстыка паказала, што большасць меншавіцкай фракцыі складаюць яўрэі (не лічачы, вядома, бундаўцаў), далей ідуць грузіны, потым рускія. Затое велізарную большасць большэвіцкай фракцыі складаюць рускія, далей ідуць яўрэі (не лічачы, вядома, палякаў і латышоў), затым грузіны і т. д. Па гэтаму поваду нехта з большэві-

коў заўважыў жартаўліва (здаецца, тав. Алексінскі), што меншавікі— яўрэйская фракцыя, большэвікі—сапраўды-руская, стала быць, не шкодзіла-б нам, большэвікам, зрабіць у партыі пагром.

А такі склад фракцый не цяжка растлумачыць: ачагамі большэвізма з'яўляюцца галоўным чынам буйна-прамысловыя раёны, раёны чыста-рускія, за выключэннем Польшчы, тады як меншавіцкія раёны, раёны дробнай вытворчасці, з'яўляюцца ў той-жа час раёнамі яўрэяў, грузін і т. д.

Што-ж датычыць плыней, якія намеціліся на з'ездзе, то трэба заўважыць, што фармальнае дзяленне з'езда на 5 фракцый (большэвікі, меншавікі, палякі і т. д.) захавала вядомую сілу, праўда, нязначную, толькі да абмеркавання пытанняў прынцыповага характару (пытанне аб непролетарскіх партыях, аб рабочым з'ездзе і т. д.). З пытанняў прынцыповых фармальная групіроўка была фактычна адкінута і пры галасаваннях з'езд звычайна падзяляўся на дзве часткі: большэвікоў і меншавікоў. Так званага цэнтра, або балота, не было на з'ездзе. Тав. Троцкі аказаўся «прыгожай непатрэбнасцю». Прычым усе палякі акрэслена прымыкалі да большэвікоў. Велізарная большасць латышоў таксама акрэслена падтрымлівала большэвікоў. Бунд, які фактычна заўсёды падтрымліваў велізарнай большасцю сваіх дэлегатаў меншавікоў, фармальна вёў у вышэйшай ступені двухсэнсавую палітыку, якая выклікала ўсмешку з аднаго боку, раздражэнне з другога. Тав. Роза Люксембург па-мастацку метка ахарактарызавала гэту палітыку Бунда, сказаўшы, што палітыка Бунда не ёсць палітыка спелай палітычнай арганізацыі, якая ўплывае на масы, што—гэта палітыка таргашоў, якія вечна выглядаюць і вечна чакаюць з надзеяй: а можа заўтра цукар падзешавее. З бундаўцаў большэвікоў падтрымлівалі толькі 8—10 дэлегатаў, і то не заўсёды.

Наогул перавага, і досыць-такі значная перавага, была на баку большэвікоў.

Такім чынам, з'езд быў большэвіцкі, хоць і не рэзка большэвіцкі. З меншавіцкіх рэзалюцый прайшла толькі рэзалюцыя аб партызанскіх выступленнях, і то зусім выпадкова: большэвікі на гэты раз не прынялі бою, вярней не захацелі давесці яго да канца, проста з жадання «даць хоць раз парадавацца тав. меншавікам»...

## II. Парадак дня. Справаздача ЦК. Справаздача Думскай фракцыі

З пункту погляду палітычных плыней на з'ездзе, работы з'езда можна было-б падзяліць на дзве часткі.

Першая частка: спрэчкі па пытаннях фармальных, накшталт парадку дня з'езда, справаздач ЦК і справаздачы Думскай фракцыі, пытаннях, маючых глыбокі палітычны сэнс, але звязаных або звязвае-

мых з «гонарам» той ці іншай фракцыі, з думкай аб тым, «як-бы не пакрыўдзіць» тую ці іншую фракцыю, «як-бы не выклікаць раскол»,— і таму называемых пытаннямі фармальнымі. Гэта частка з'езда прайшла найбольш бурна і паглынула найбольшую колькасць часу. А адбылося гэта таму, што меркаванні прынцыпу адсоўваліся назад меркаваннямі «маралі» («як-бы не пакрыўдзіць»), стала быць, строга вызначаныя групіроўкі не ствараліся, нельга было адразу здагадацца «чыя возьме», і фракцыі, у надзеі пацягнуць за сабой «нейтральна-карэктных», аддаваліся шалёнай барацьбе за перавагу.

Другая частка: спрэчкі па пытаннях прынцыповых накшталт пытання аб непралетарскіх партыях, рабочым з'ездзе і т. д. Тут ужо адсутнічалі меркаванні «маралі», групіроўкі адбываліся пэўныя, па строга вызначаных прынцыповых плынях, суадносіны сіл паміж фракцыямі высняляліся адразу, і таму гэта частка з'езда была найбольш спакойнай і пладатворнай,—яўны довад у карысць таго, што прынцыповасць у спрэчках—найлепшая гарантыя пладатворнасці і спакою работ з'езда.

Пяройдзем да кароткай характарыстыкі першай часткі работ з'езда.

Пасля прамовы тав. Плеханава, які адкрыў з'езд і адзначыў у сваёй прамове неабходнасць пагадненняў «ад выпадку да выпадку» з «прагрэсіўнымі элементамі» буржуазнага грамадства, з'езд выбраў прэзідыум з пяці (па аднаму з фракцый), выбраў мандатную камісію і перайшоў да выпрацоўкі парадку дня. Характэрна, што меншавікі на гэтым з'ездзе, акурат так сама, як і на леташнім, аб'яднаўчым, самым заўзятым чынам выступілі супроць прапановы большэвікоў—унесці ў парадак дня пытанні аб ацэнцы моманту і аб класавых задачах пролетарыята ў нашай рэволюцыі. Ці ідзе рэволюцыя на ўздым або яна ідзе на ўбыль, і адпаведна з гэтым—ці трэба яе «ліквідаваць» або давесці да канца; якавы класавыя задачы пролетарыята ў нашай рэволюцыі, што праводзяць рэзкую грань паміж ім і астатнімі класамі рускага грамадства,—вось якіх пытанняў баяцца тав. меншавікі. Ад іх яны ўцякаюць, як цень ад сонца, яны не хочуць вынесці на святло карэнні нашых рознагалоссяў. Чаму? Таму, што ў самой фракцыі меншавікоў існуюць глыбокія рознагалоссі па гэтых пытаннях; таму, што меншавізм не ёсць цэльная плынь, меншавізм—гэта зброд плыней, якія непрыметны ў час фракцыйнай барацьбы з большэвізмам, але адразу-ж прарываюцца пры прынцыповай пастаноўцы пытанняў моманту і нашай тактыкі. Меншавікі не хочуць выявіць гэту ўнутраную слабасць сваёй фракцыі. Большэвікі ведалі гэта і, у інтарэсах большай прынцыповасці спрэчак, настойвалі на ўнясенні ў парадак дня вышэйадзначаных пытанняў. Меншавікі, бачачы, што прынцыповасць забівае іх, пачалі ўпорстваваць, далі зразумець «карэктным

таварышам», што яны «пакрыўдзяцца»,—і з'езд не ўнёс у парадак дня пытанне аб моманце і т. д. Урэшце прынялі наступны парадак дня: справаздача ЦК, справаздача Думскай фракцыі, аб адносінах да непролетарскіх партый, аб Думе, аб рабочым з'ездзе, аб прафесіянальных саюзах, аб партызанскіх выступленнях, крызісы, лакауты і беспрацоўе, Штутгарцкі міжнародны кангрэс, арганізацыйныя пытанні.

---

Па пытанню аб справаздачы ЦК галоўнымі дакладчыкамі выступілі тав. Мартаў (ад меншавікоў) і тав. Радавой (ад большэвікоў). Даклад Мартава быў уласна не даклад з сур'ёзным асвятленнем з'яў, а задушэўны расказ аб тым, як нявінны ЦК прыняўся было кіраваць партыяй і затым Думскай фракцыяй, і як «жудасныя» большэвікі перашкаджалі яму дзейнічаць, прыстаючы сваёй прынцыповасцю. Не прынятыя потым партыяй лозунгі ЦК аб адказным кадэцкім міністэрстве, аб «аднаўленні сесіі Думы» і т. д. і т. п. Мартаў апраўдваў тым, што момант быў няпэўны і ў час зацішша нельга было высоўваць іншыя лозунгі. Няўдалы заклік ЦК да ўсеагульнай забастоўкі, а потым да частковых выступленняў непасрэдна пасля разгону першай Думы Мартаў апраўдваў той-жа няпэўнасцю становішча і немагчымасцю дакладна вызначыць настрой мас. Вельмі мала гаварыў аб ролі ЦК у расколе Пецербургскай арганізацыі. Затое надта многа гаварыў аб канферэнцыі ваенных і баявых арганізацый, наладжанай па ініцыятыве вядомай групы большэвікоў і ўнёсшай, па думцы Мартава, дэзарганізацыю і анархію ў партыйныя арганізацыі. У канцы даклада Мартаў заклікаў з'езд прыняць пад увагу цяжкія ўмовы работы па кіраўніцтву партыяй, з прычыны асаблівай складанасці і заблытанасці моманту, і не быць строгім у адносінах да ЦК. Відавочна сам Мартаў прызнаваў за ЦК сур'ёзныя грахі.

Даклад тав. Радавога быў зусім іншага характару. Па яго думцы, ЦК партыі абавязан: 1) абараняць і праводзіць праграму партыі, 2) ажыццяўляць тактычныя дырэктывы, даныя яму з'ездам партыі, 3) ахоўваць цэласць партыі, 4) яднаць станоўчую работу партыі. Тым часам ЦК не выканаў ні аднаго з гэтых абавязкаў. Замест таго, каб абараняць і праводзіць праграму партыі, ЦК па поваду вядомага аграрнага звароту першай Думы прапаноўваў Думскай фракцыі соцыял-дэмакратаў, у інтарэсах адзінства апазіцыі, у інтарэсах прыцягнення кадэтаў, не ўносіць у думскі зварот вядомага пункта нашай аграрнай праграмы аб канфіскацыі ўсёй (памешчыцкай) зямлі, а абмежавацца простай заявай аб адчужэнні зямлі без агаворкі: з выкупам або без выкупу.

Падумайце толькі: ЦК партыі прапаноўваў выкінуць важнейшы пункт праграмы партыі аб канфіскацыі зямлі. ЦК парушаў праграму

партыі! ЦК, як парушальнік праграмы,—ці можаце сабе ўявіць гэту нечуваную ганьбу?

Далей. Замест таго, каб праводзіць у жыццё хоць-бы дырэктывы аб'яднаўчага з'езда; замест таго, каб сістэматычна паглыбляць барацьбу партый унутры Думы ў мэтах унясення большай свядомасці ў барацьбу класаў па-за Думай; замест таго, каб ажыццяўляць строга класавую незалежную палітыку пролетарыята,—ЦК высунуў лозунгі аб адказным кадэцкім міністэрстве, аб «аднаўленні сесіі Думы», «за Думу супроць камарыльі» і т. д. і т. д., лозунгі, якія стушоўваюць барацьбу партыі ў Думе, змазваюць класавыя супярэчнасці па-за Думай, сціраюць усякую грань паміж баявой палітыкай пролетарыята і згодніцкай палітыкай ліберальнай буржуазіі, прыспасабляюць першую да другой. І калі адзін з членаў Цэнтральнага Органа, стала быць і Цэнтральнага Камітэта, тав. Плеханаў, пайшоў яшчэ далей па шляху пагаднення з кадэтамі і прапанаваў партыі ўвайсці ў блок з ліберальнай буржуазіяй, адкінуўшы лозунг Устаноўчага схода і выставіўшы прыемлемы для ліберальнай буржуазіі лозунг «поўнаўладнай Думы»,—ЦК не толькі не пратэставаў супроць ганьбячай партыю выхадкі тав. Плеханава, але нават згаджаўся з ёй, не асмеліўшыся, між іншым, афіцыяльна выказаць сваю згоду. Вось як парушаў ЦК партыі элементарныя патрабаванні незалежнай класавай палітыкі пролетарыята і пастаноў аб'яднаўчага з'езда!

ЦК, які зацямняў класавую самасвядомасць пролетарыята; ЦК, які падначальваў палітыку пролетарыята палітыцы ліберальнай буржуазіі; ЦК, які схіляў сцяг пролетарыята перад шарлатанамі кадэцкага лібералізма—вось да чаго давялі нас апартуністы меншавізма!

Мы ўжо не гаворым аб тым, як ЦК не толькі не ахоўваў адзінства і дысцыпліну партыі, а сістэматычна парушаў іх, узяўшы на сябе ініцыятыву расколу ў Пецербургскай арганізацыі.

Не хочам распаўсюджвацца таксама аб тым, што ЦК не яднаў работу партыі—гэта ясна само сабою.

Чым усё гэта тлумачыцца, усе гэтыя памылкі ЦК? Вядома, не «жудаснымі» асобамі, якія засядалі ў ЦК, а тым, што меншавізм, які напаўняў тады ЦК, няздолен кіраваць партыяй, ён канчаткова абанкроціўся, як палітычная плынь. З гэтага пункту погляду ўся гісторыя ЦК з'яўляецца гісторыяй правалу меншавізма. І калі нас папракаюць тав. меншавікі, гаворачы, што мы «перашкаджалі» ЦК, мы «прыставалі» да яго і т. д. і т. д., мы не можам не адказаць гэтым маралізуючым таварышам: так, таварышы, мы «перашкаджалі» ЦК парушаць нашу праграму, мы «перашкаджалі» яму прыспасабляць тактыку пролетарыята да густаў ліберальнай буржуазіі і будзем перашкаджаць надалей, бо ў гэтым наш свяшчэнны абавязак...

Так прыблізна гаварыў тав. Радавой.

Са спрэчак выяснілася, што большая частка таварышоў, нават некаторыя бундаўцы, падтрымліваюць пункт погляду тав. Радавога. І калі ўсё-такі не прайшла рэзалюцыя большэвікоў, якая адзначала памылкі ЦК, то таму, што моцна дзейнічалі на таварышоў меркаванні: «як-бы не выклікаць расколу». Не прайшла, вядома, і меншавіцкая рэзалюцыя аб давер'і ЦК. Прайшоў просты пераход да чарговых спраў без ацэнкі дзейнасці ЦК...

---

Спрэчкі па пытанню аб справаздачы Думскай фракцыі прадстаўлялі ўвогуле паўтарэнне спрэчак па папярэдняму пытанню. Яно і зразумела: Думская фракцыя дзейнічала пад прамым кіраўніцтвам ЦК і, натуральна, крытыка ці абарона ЦК з'яўлялася ў той-жа час, крытыкай ці абаронай Думскай фракцыі.

Цікава была заўвага другога дакладчыка тав. Алексінскага (першым дакладчыкам быў тав. Цэрэтэлі), аб тым, што лозунг Думскай фракцыі, у большасці сваёй меншавіцкай, аб адзінстве апазіцыі ў Думе, аб нераскалванні апазіцыі і неабходнасці ісці разам з кадэтамі—гэты меншавіцкі лозунг, паводле выражэння тав. Алексінскага, пацярпеў у Думе поўны крах: бо па самых важных пытаннях накшталт пытанняў аб бюджэце, арміі і т. д. кадэты ішлі разам са Сталыпіным, і соцыял-дэмакратам-меншавікам даводзілася змагацца рука аб руку з дэпутатамі ад сялян супроць урада і кадэтаў. Меншавікам даводзілася на справе канстатаваць крах сваёй пазіцыі і праводзіць у Думе лозунг большэвікоў аб неабходнасці весці за сабой дэпутатаў ад сялян у барацьбе супроць правых і кадэтаў.

Не менш цікава заўвага польскіх таварышоў аб недапушчальнасці з боку Думскай фракцыі ісці на агульныя сходы з народаўцамі, гэтымі чорнасоценцамі Польшчы, якія не раз арганізоўвалі і працягваюць арганізоўваць цяпер разню соцыялістаў Польшчы. На гэта два лідэры каўказскіх меншавікоў адзін за другім адказалі, што для Думскай фракцыі важна не тое, што робяць партыі ў сябе дома,—а тое, як яны трымаюць сябе ў Думе, а народаўцы трымаюць сябе ў Думе больш ці менш ліберальна. Выходзіла, што партыі трэба характарызаваць не па таму, што яны *робяць* па-за Думай, а па таму, што яны *гавораць* у Думе. Далей гэтага апартунізму няма куды ісці...

Большасць прамоўцаў згаджалася з пунктам погляду тав. Алексінскага, але рэзалюцыі ўсё-такі не было прынята ніякай і па гэтаму пытанню, зноў па тых-жа меркаваннях: «не пакрыўдзіць». Адклаўшы пытанне аб рэзалюцыі, з'езд прама перайшоў да наступнага пытання.

## III. Аб непралетарскіх партыях

Ад пытанняў фармальных мы пераходзім да пытанняў прынцыповых, да пытанняў нашых рознагалоссяў.

Пытанні нашых тактычных рознагалоссяў—гэта пытанні аб магчымых лёсах нашай рэволюцыі і аб ролі розных класаў і партый рускага грамадства ў гэтай рэволюцыі. Што наша рэволюцыя буржуазна, што яна павінна скончыцца разгромам прыгонных, а не капіталістычных парадкаў, што яна можа ўвянчацца толькі дэмакратычнай рэспублікай,—у гэтым, здаецца, усе згодны ў нашай партыі. Далей, што наша рэволюцыя ўвогуле і цалкам ідзе да ўздыму, а не да страты і што нашай задачай з'яўляецца не «ліквідацыя» рэволюцыі, а давядзенне яе да канца,—у гэтым таксама, па крайняй меры фармальна, усе згодны, бо меншавікі, як фракцыя, нідзе яшчэ не заяўлялі аб адваротным. Але якім чынам давесці да канца нашу рэволюцыю? Якава роля пролетарыята, сялянства, ліберальнай буржуазіі ў гэтай рэволюцыі? Пры якім спалучэнні змагаючыхся сіл можна было-б давесці да канца цякучую рэволюцыю? З кімісці, каго біць і т. д. і т. д.

Вось дзе пачынаюцца ў нас рознагалоссі.

*Думка меншавікоў*. Пакольki наша рэволюцыя буржуазна, то адзіна буржуазія і можа быць правадыром рэволюцыі. Буржуазія была правадыром вялікай рэволюцыі ва Францыі, яна была правадыром рэволюцый іншых дзяржаў Еўропы—яна-ж павінна быць правадыром і нашай рускай рэволюцыі. Пролетарыят—галоўны барацьбіт рэволюцыі, але ён павінен ісці за буржуазіяй і штурхаць яе наперад. Сялянства таксама рэволюцыйная сіла, але ў яго вельмі многа рэакцыйнага і таму пролетарыяту з ім значна радзей прыдзецца выступаць сумесна, чым з ліберальна-дэмакратычнай буржуазіяй. Буржуазія з'яўляецца больш надзейным саюзнікам пролетарыята, чым сялянства. Вакол ліберальна-дэмакратычнай буржуазіі, як вакол правадыра, павінны згуртоўвацца ўсе змагаючыяся сілы. Таму нашы адносіны да буржуазных партый павінны вызначацца не рэволюцыйным палажэннем: разам з сялянствам супроць урада і ліберальнай буржуазіі на чале з пролетарыятам,—а эпартуністычным палажэннем: разам з усёй апазіцыяй супроць урада на чале з ліберальнай буржуазіяй. Адсюль тактыка пагадненняў з ліберaламі.

Такава думка меншавікоў.

*Думка большэвікоў*. Наша рэволюцыя на самай справе буржуазна, але гэта яшчэ не значыць, што правадыром яе з'явіцца наша ліберальная буржуазія. У 18-м стагоддзі французская буржуазія была правадыром французскай рэволюцыі, але чаму? Таму, што французскі пролетарыят быў слабы, ён не выступаў самастойна, ён не выстаўляў сваіх класавых патрабаванняў, у яго не было ні класавай свядомасці, ні арганізацыі, ён ішоў тады ў хвасце ў буржуазіі, і буржуазія карысталася ім як зброяй для сваіх буржуазных мэтаў. Як бачыце, буржуазія не мела патрэбы тады ў саюзніку ў асобе царскай улады супроць пролетарыята—пролетарыят сам быў яе саюзнікам-слугой—і таму яна

магла быць тады рэволюцыйнай, ісці нават на чале рэволюцыі. Зусім іншае заўважваецца ў нас, у Расіі. Рускі пролетарыят далёка нельга назваць слабым; ён ужо некалькі год выступае ўпаўне самастойна, выстаўляючы свае класавыя патрабаванні; ён дастаткова ўзброен класавай самасвядомасцю, каб разумець свае інтарэсы; ён згуртован у сваю партыю; у яго мацнейшая ў Расіі партыя са сваёй праграмай і тактычна-арганізацыйнымі прынцыпамі; на чале з гэтай партыяй ён ўжо атрымаў рад бліскучых перамог над буржуазіяй... Ці можа пролетарыят здавальняцца роляй хваста ліберальнай буржуазіі, роляй мізэрнай зброі ў руках гэтай буржуазіі? Ці можа, ці павінен ён ісці за гэтай буржуазіяй, зрабіўшы яе сваім правадыром? Ці можа ён не быць правадыром рэволюцыі? А паглядзіце, што адбываецца ў лагеры нашай ліберальнай буржуазіі: наша буржуазія, запалоханая рэволюцыйнасцю пролетарыята, замест таго, каб ісці на чале рэволюцыі, кідаецца ў абдымкі контр-рэволюцыі, уступае з ёю ў саюз супроць пролетарыята. А яе партыя, партыя кадэтаў, адкрыта, перад тварам ўсяго свету, уступае ў пагадненне са Сталыпіным, галасуе за бюджэт і армію ў карысць царызма, супроць народнай рэволюцыі. Ці не ясна, што руская ліберальная буржуазія прадстаўляе сабою сілу антырэволюцыйную, з якою трэба весці самую бязлітасную вайну? І ці не праў быў тав. Каўцкі, гаворачы, што там, дзе пролетарыят выступае самастойна, буржуазія перастае быць рэволюцыйнай?..

Ітак: руская ліберальная буржуазія антырэволюцыйна; яна не можа быць ні рухавіком, ні, тым больш, правадыром рэволюцыі; яна з'яўляецца заклятым ворагам рэволюцыі, і з ёю трэба весці ўпартую барацьбу.

Адзіным правадыром нашай рэволюцыі, які зацікаўлен і можа павесці за сабой рэволюцыйныя сілы Расіі на штурм царскага самадзяржаўя,—з'яўляецца пролетарыят. Толькі пролетарыят згуртуе вакол сябе рэволюцыйныя элементы краіны, толькі ён давядзе да канца нашу рэволюцыю. Задачай соцыял-дэмакратыі з'яўляецца—зрабіць усё магчымае для падрыхтоўкі пролетарыята да ролі правадыра рэволюцыі.

У гэтым гвозд большэвіцкага пункту погляду.

На пытанне: хто-ж можа з'явіцца надзейным саюзнікам пролетарыята ў справе давядзення да канца нашай рэволюцыі—большэвікі адказваюць: адзіным колькі-небудзь надзейным і моцным саюзнікам пролетарыята з'яўляецца рэволюцыйнае сялянства. Не здрадніцкая ліберальная буржуазія, а рэволюцыйнае сялянства будзе біцца разам з пролетарыятам супроць усіх устояў прыгонных парадкаў.

Адпаведна з гэтым нашы адносіны да буржуазных партый павінны вызначацца палажэннем: разам з рэволюцыйным сялянствам супроць царызма і ліберальнай буржуазіі на чале з пролетарыятам. Ад-

сюль—неабходнасць барацьбы з гегемоніяй (прэдвадзіцельства) кадэцкай буржуазіі і, стала быць, недапушчальнасць пагадненняў з кадэтамі.

Такава думка большэвікоў.

У рамках гэтых двух пазіцый вярцеліся прамовы дакладчыкаў, Леніна і Мартынава, і ўсіх астатніх прамоўцаў.

Тав. Мартынаў канчаткова «паглыбіў» пункт погляду меншавікоў, катэгарычна адмаўляючы дапушчальнасць гегемоніі пролетарыята і таксама катэгарычна абараняючы ідэю блока з кадэтамі.

Астатнія прамоўцы, іх велізарная большасць, выказваліся ў духу большэвіцкай пазіцыі.

Асабліва цікавы прамовы тав. Розы Люксембург, якая перадала з'езду прывітанне ад імя германскіх соцыял-дэмакратаў і развіла погляд нашых германскіх таварышоў на нашы рознагалоссі. (Мы тут звязваем абедзве прамовы Р. Л., сказаныя ў розны час.) Поўнасцю згаджаючыся з большэвікамі па пытаннях: аб ролі пролетарыята, як правадыра рэволюцыі, аб ролі ліберальнай буржуазіі, як антырэволюцыйнай сілы і т. д. і т. д.—Р. Люксембург крытыкавала лідэраў меншавізма, Плеханава і Аксельрод, называючы іх апартуністамі і параўноўваючы іх пазіцыю з пазіцыяй жарэсістаў ва Францыі. Я ведаю, гаварыла Люксембург, што і ў большэвікоў ёсць некаторыя промахі, дзіўнасці, залішняя цвёрдакаменнасць, але я іх ўпаўне разумею і апраўдваю: нельга не быць цвёрдакаменным пры відзе расплыўчатай студзеністай масы меншавіцкага апартунізма. Тая-ж залішняя цвёрдакаменнасць заўважалася ў гедыстаў ва Францыі, лідэр якіх, тав. Гед абвяшчаў у вядомай выбарчай афішы: «не смець ні аднаму буржуа галасаваць за мяне, бо я буду адстайваць у парламенце толькі інтарэсы пролетарыяў супроць усіх буржуа». І не гледзячы на гэта, не гледзячы на гэтыя рэзкасці, мы, германскія соцыял-дэмакраты, заўсёды стаялі на старане гедыстаў у іх барацьбе супроць здраднікаў марксізма, супроць жарэсістаў. Тое-ж самае трэба сказаць наконт большэвікоў, якіх мы, германскія соцыял-дэмакраты, будзем падтрымліваць у іх барацьбе з апартуністамі меншавікамі...

Так прыблізна гаварыла тав. Роза Люксембург.

Яшчэ больш цікава славутае пісьмо, прысланае з'езду Цэнтральным Камітэтам Германскай Соцыял-Дэмакратычнай Партыі і прачытанае Розай Люксембург. Цікава яно тым, што раячы партыі *змагацца* з лібералізмам і прызнаючы асаблівую ролю рускага пролетарыята, як правадыра рускай рэволюцыі,—яно тым самым прызнае ўсе асноўныя палажэнні большэвізма.

Такім чынам станавілася ясным, што найбольш выпрабаваная і найбольш рэволюцыйная ў Еўропе германская соцыял-дэмакратыя адкрыта і ясна падтрымлівае большэвікоў, як сапраўдных марксістаў, у іх барацьбе *супроць* здраднікаў марксізма, *супроць* меншавікоў.

Цікавы таксама некаторыя месцы ў прамове тав. Тышко, прадстаўніка польскай дэлегацыі ў прэзідыуме. Абедзве фракцыі запэўніваюць нас, гаварыў тав. Тышко, што яны цвёрда стаяць на пункце погляду марксізма. І не ўсякаму лёгка зразумець: хто-ж, нарэшце, стаіць на гэтым пункце погляду, большэвікі ці меншавікі... «Гэта мы стаім на пункце погляду марксізма»—перапыняюць «злева» некалькі меншавікоў. «Не, таварышы»,—адказаў ім Тышко,—«вы не стаіце, а *ляжыце* на ім: бо ўся ваша бездапаможнасць у справе кіраўніцтва класавай барацьбой пролетарыята, той факт, што вы ўмееце завучваць вялікія словы вялікага Маркса, але не ўмееце іх прымяняць,—усё гэта гаворыць аб тым, што вы не стаіце, а ляжыце на пункце погляду марксізма».

Гэта было па-мастацку метка.

На самай справе, вазьміце хоць наступны факт. Меншавікі часта гавораць, што задачай соцыял-дэмакратыі заўсёды і ўсюды з'яўляецца ператварэнне пролетарыята ў самастойную палітычную сілу. Ці верна гэта? Безумоўна верна. Гэта—вялікія словы Маркса, якія заўсёды павінен памятаць ўсякі марксіст. Але як іх прымяняюць тав. меншавікі? Ці садзейнічаюць яны фактычнаму вылучэнню пролетарыята з масы акружаючых яго буржуазных элементаў у самастойны незалежны клас? Ці згуртоўваюць яны рэволюцыйныя элементы вакол пролетарыята і ці рыхтуюць яны пролетарыят да ролі правадыра рэволюцыі? Факты паказваюць, што нічога падобнага меншавікі не робяць. Наадварот: меншавікі раяць пролетарыяту як найчасцей нададжваць пагадненні з ліберальнай буржуазіяй,—і, тым самым, садзейнічаць не вылучэнню пролетарыята ў самастойны клас, а змешванню яго з буржуазіяй; меншавікі раяць пролетарыяту адмовіцца ад ролі правадыра рэволюцыі, уступіць гэту ролю буржуазіі, ісці за буржуазіяй,—і, тым самым, садзейнічаюць не ператварэнню пролетарыята ў самастойную палітычную сілу,—а ператварэнню яго ў хвосцік буржуазіі... Гэта значыць, меншавікі робяць якраз адваротнае таму, што яны павінны былі-б рабіць, выходзячы з правільнага марксісцкага палажэння.

Так, праў быў тав. Тышко, калі сказаў, што меншавікі не стаяць, а ляжаць на пункце погляду марксізма.

Па сканчэнні спрэчак былі прапанаваны два праекты рэзалюцыі: меншавіцкі і большэвіцкі. З іх велізарнай большасцю галасоў быў прынят за аснову праект большэвікоў.

Далей пашлі папраўкі да праекта. Было ўнесена каля 80 паправак. Уносіліся яны галоўным чынам да двух пунктаў праекта: да пункта аб пролетарыяце, як правадыру рэволюцыі, і да другога пункта—аб кадэтах, як антырэволюцыйнай сіле. Гэта была самая цікавая частка спрэчак, бо тут асабліва рэзка выясніліся фізіяноміі фракцый. Першая важная папраўка была ўнесена тав. Мартавым. Ён патрабаваў замяніць



словы: «пролетарыят, як *правадыр* рэволюцыі» словамі: «пролетарыят, як *авангард* рэволюцыі». Матывavaў ён тым, што слова «авангард» дакладней выражае мысль. Яму пярэчыў тав. Алексінскі. Ён гаварыў, што справа не ў дакладнасці, а ў двух процілеглых пунктах погляду, якія сказваюцца ў гэтым пункце: бо «авангард» і «правадыр»—два зусім розныя разуменні. Быць авангардам (перадавым атрадам)—гэта значыць біцца ў перадавых радах, займаць найбольш абстрэльваемыя пункты, праліваць кроў, але ў той-жа час *быць кіруемым другімі*, у даным выпадку, буржуазнымі дэмакратамі: авангард ніколі не кіруе агульнай барацьбой, але авангардам заўсёды кіруюць. Наадварот: быць правадыром—гэта значыць не толькі біцца ў перадавых радах, *але і кіраваць агульнай барацьбой, накіроўваць* яе да сваёй мэты. Мы, большэвікі, не хочам, каб пролетарыятам кіравалі буржуазныя дэмакраты,—мы хочам, каб пролетарыят сам кіраваў усёй барацьбой народу і накіроўваў яе да дэмакратычнай рэспублікі.

У выніку, папраўка Мартава была правалена.

Усе іншыя папраўкі такога-ж характару былі таксама правалены.

Другая група паправак накіравана была супроць пункта аб кадэтах. Меншавікі прапаноўвалі прызнаць, што кадэты яшчэ не сталі на шлях контр-рэволюцыі. Але з'езд не прыняў гэтай прапановы, і ўсе папраўкі гэтага характару былі адвергнуты. Далей прапаноўвалі меншавікі дапусціць у вядомых выпадках хоць-бы тэхнічныя пагадненні з кадэтамі. З'езд не прыняў і гэтай прапановы, праваліўшы адпаведныя папраўкі.

Нарэшце прагаласавалі рэзалюцыю ў цэлым і аказалася, што 159 галасоў—за большэвіцкую рэзалюцыю, 104—супроць, а астатнія ўстрымаліся.

Велізарнай большасцю галасоў з'езд прыняў рэзалюцыю большэвікоў.

Ад гэтага часу пункт погляду большэвікоў стаў пунктам погляду партыі.

Апрача таго, гэта галасаванне дало два важныя вынікі:

Па-першае, яно паклала канец фармальнаму, штучнаму падзелу з'езда на 5 фракцый (большэвікі, меншавікі, палякі, латышы, бундаўцы) і адкрыла новы, прынцыповы падзел: на большэвікоў (уключаючы сюды ўсіх палякаў і большасць латышоў) і меншавікоў (уключаючы амаль усіх бундаўцаў).

Па-другое, галасаванне гэта дало найбольш дакладную статыстыку размеркавання рабочых дэлегатаў па фракцыях: выяснілася, што ў большэвіцкай фракцыі не 38, а 77 рабочых (38 плюс 27 палякаў, плюс 12 латышоў), а ў меншавіцкай фракцыі не 30 рабочых, а 39 (30 плюс 9 бундаўцаў). Меншавіцкая фракцыя аказалася фракцыяй інтэлігенцкай.

## IV. Аб рабочым з'ездзе

Перш чым перайсці да характарыстыкі спрэчак па пытанню аб рабочым з'ездзе, неабходна пазнаёміцца з гісторыяй пытання[1]. Справа ў тым, што пытанне гэта з'яўляецца надта заблытаным і нявыясненым. У той час, як па іншых пунктах нашых рознагалоссяў у партыі ўжо ёсць дзве рэзка вызначаныя плыні: большэвіцкая і меншавіцкая,—па пытанню аб рабочым з'ездзе мы маем не дзве, а цэлую кучу плыней надта нявыясненых і супярэчлівых. Праўда, большэвікі выступаюць згуртавана і пэўна: яны наогул супроць рабочага з'езда. Затое сярод меншавікоў—паўнейшы хаос і блытаніна: яны падзяліліся на мноства груп, і кожная з іх пяе па-свойму, не слухаючы іншых. У той час, як пецербургскія меншавікі, на чале з Аксельродам, прапануюць рабочы з'езд для *стварэння партыі*,—маскоўскія меншавікі, на чале з Эль, прапануюць яго не ў інтарэсах партыі, *а з мэтай стварыць беспартыйны «агульнарускі рабочы саюз»*. Паўднёвыя меншавікі ідуць яшчэ далей і на чале з Ларыным заклікаюць склікаць рабочы з'езд у мэтах стварэння не партыі і не «рабочага з'езда»,—*а больш шырокага «працоўнага саюза»*, які мог-бы ахапіць, апрача ўсіх пролетарскіх элементаў, і эсэраўскія, поўбуржуазныя, «працоўныя» элементы. Я ўжо не гавару аб іншых, менш уплывовых групах і асобах, накшталт одэскай і закаспійскай груп і накшталт юрадзівых «аўтароў» смешнай брашуры—так званых «Брадзягі» і «Шуры».

Такава блытаніна, якая пануе ў радах меншавікоў.

Але як склікаць рабочы з'езд, як яго арганізаваць, да чаго прыўрочыць яго скліканне, каго запрасіць на з'езд, каму ўзяць на сябе ініцыятыву склікання з'езда?

Па ўсіх гэтых пытаннях сярод меншавікоў ідзе такая-ж блытаніна, як і па пытанню аб мэце з'езда.

У той час, як адны з іх прапануюць звязаць выбары на рабочы з'езд з выбарамі ў Думу і, такім чынам, «захватным шляхам» арганізаваць рабочы з'езд,—другія прапануюць пакласціся на «папусцілельства» з боку ўрада, у крайнім выпадку запрасіць у яго «дазвол», а трэція раяць адправіць дэлегатаў за граніцу, будзь іх хоць 3—4 тысячы, і там нелегальна правесці рабочы з'езд.

У той час, як адны з меншавікоў прапануюць даць прадстаўніцтва на з'езд толькі афармленым рабочым арганізацыям, другія раяць прыцягнуць на з'езд прадстаўнікоў усяго наогул арганізаванага і неарганізаванага пролетарыята, які налічвае ў сваіх радах не менш 10 мільёнаў членаў.

[1]) Гэта тым больш неабходна, што тав. меншавікі, перасяліўшыся ў рэдакцыю буржуазных газет, распаўсюджваюць небыліцы аб мінулым і сучасным гэтага пытання (гл. артыкул аб „Рабочым з'ездзе" у „Товарище", належачы пяру віднага меншавіка і перадрукаваны ў „Бакинском Дне").

У той час, як адны з меншавікоў прапануюць склікаць рабочы з'езд па ініцыятыве с.-д. партыі з удзелам інтэлігентаў, другія раяць адкінуць у бок і партыю і інтэлігентаў, і склікаць з'езд толькі па ініцыятыве саміх рабочых без усякага ўдзелу інтэлігентаў.

У той час, як адны з меншавікоў настайваюць на неадкладным скліканні рабочага з'езда, другія прапануюць адкласці яго на нявызначаны час, абмяжоўваючыся пакуль агітацыяй за ідэю рабочага з'езда.

Ну, а як быць з існуючай Соцыял-Дэмакратычнай Рабочай Партыяй, *якая вось ужо некалькі год кіруе барацьбой пролетарыята, згуртавала ў сваіх радах 150.000 членаў, мела ўжо 5 з'ездаў і т. д. і т. п.?* «Пахерыць яе к чорту», ці як-небудзь інакш?

На гэта ўсе меншавікі, ад Аксельрода да Ларына, аднагалосна адказваюць, што *ў нас няма пролетарскай партыі*. «У тым-то і справа, што ў нас няма партыі»—гаварылі нам на з'ездзе меншавікі—«у *нас ёсць толькі арганізацыя дробнабуржуазнай інтэлігенцыі*», якую трэба замяніць партыяй пры дапамозе рабочага з'езда. Так заявіў на партыйным з'ездзе дакладчык ад меншавікоў, тав. Аксельрод.

Але дазвольце, як-жа так? Значыць, усе гэтыя з'езды нашай партыі, ад першага (1898 г.) да апошняга (1907 г.), у арганізацыі якіх тав. меншавікі прымалі энергічнейшы ўдзел; уся гэта каласальная трата пролетарскіх грошай і сіл, трата, неабходная для арганізацыі з'ездаў, трата, у якой меншавікі так сама вінаваты, як і большэвікі,—усё гэта, значыць, адзін толькі абман і фарысейства?!

Значыць, усе гэтыя баявыя заклікі партыі да пролетарыята, заклікі, падпісаныя і меншавікамі; усе гэтыя забастоўкі і паўстанні за 1905-6-7 г.г., разыграўшыяся на чале з партыяй, часта па ініцыятыве партыі; усе гэтыя перамогі пролетарыята на чале з нашай партыяй; усе гэтыя тысячныя афяры пролетарыята, паўшыя на вуліцах Пецербурга, Масквы і т. д., замураўленыя ў Сібіры, загубленыя ў турмах *у імя* партыі, *пад сцягам* партыі,—усё гэта толькі камедыя і абман?

І значыць, у нас няма партыі? У нас ёсць толькі «арганізацыя дробнабуржуазнай інтэлігенцыі»?

Гэта была, вядома, прамая няпраўда, абураючая, наглая няпраўда.

Гэтым, мабыць, і тлумачыцца тое бязмежнае абурэнне, якое выклікала вышэйупомненая заява Аксельрода сярод пецербургскіх і маскоўскіх дэлегатаў-рабочых. Ускочыўшы са сваіх месц, яны энергічна адказвалі дакладчыку Аксельроду: «гэта ты, сядзячы за граніцай,—буржуй, а не мы; мы—рабочыя, і ў нас ёсць свая соцыялдэмакратычная партыя, якую мы не дазволім прынізіць»...

Але, дапусцім, што рабочы з'езд адбудзецца, уявім сабе, што ён ужо адбыўся. Існуючую с.-д. партыю, стала быць, здалі ў архіў, склікалі так ці інакш рабочы з'езд і хочам арганізаваць на ім не то «ра-

бочы», не то «працоўны» саюз. Што-ж будзе далей? Якую праграму прыме гэты з'езд? Якава будзе фізіяномія рабочага з'езда?

Адны з меншавікоў адказваюць, што рабочы з'езд мог-бы прыняць праграму соцыял-дэмакратыі з некаторымі, вядома, урэзкамі, але тут-жа яны дадаюць, што ён мог-бы і не прыняць праграмы соцыял-дэмакратаў, што, па іх думцы, не прадстаўляе для пролетарыята асаблівай бяды. Другія адказваюць больш рашуча: паколькі наш пролетарыят моцна прасякнут дробнабуржуазнымі імкненнямі, то, па ўсёй магчымасці, рабочы з'езд прыме не соцыял-дэмакратычную, а *дробнабуржуазную дэмакратычную праграму*. На рабочым з'ездзе пролетарыят страціць соцыял-дэмакратычную праграму, але затое ён набудзе рабочую арганізацыю, звязваючую ўсіх рабочых у адзін саюз. Так гаворыць, напрыклад, глава маскоўскіх меншавікоў Г. Чэрэванін (гл. «Проблемы тактыкі»).

Ітак: «саюз рабочых без соцыял-дэмакратычнай праграмы»—такі магчымы рэзультат рабочага з'езда.

Так, па крайняй меры, думаюць самі меншавікі.

Відавочна, нязгодныя адзін з другім меншавікі ў некаторых пытаннях аб мэтах і спосабах склікання рабочага з'езда, яны згодны ў тым, што «у нас няма партыі, а ёсць толькі арганізацыя дробнабуржуазнай інтэлігенцыі, *якую трэба здаць у архіў*»...

У гэтых іменна рамках і вярцеўся даклад Аксельрода.

З даклада Аксельрода выяснілася, што агітацыя за рабочы з'езд практычна немінуча звядзецца да агітацыі *супроць* партыі, да вайны з ёю.

А практычная работа па скліканню рабочага з'езда таксама немінуча звядзецца да практычнай работы па дэзарганізацыі і разлажэнню нашай цяперашняй партыі.

Тым часам, меншавікі—вуснамі свайго дакладчыка, а таксама ў сваім праекце рэзалюцыі—прасілі з'езд *забараніць агітацыю* супроць спроб, накіраваных да арганізацыі рабочага з'езда, г. зн. спроб, якія вядуць да дэзарганізацыі партыі.

І цікава: у прамовах меншавіцкіх прамоўцаў (за выключэннем Плеханава, які ўласна аб рабочым з'ездзе нічога не сказаў) чырвонай ніццю праходзілі лозунгі: далоў партыю, далоў соцыял-дэмакратыю—няхай жыве беспартыйнасць, няхай жыве несоцыял-дэмакратычны «рабочы саюз». Гэтыя лозунгі адкрыта не выстаўляліся прамоўцамі, але яны сквазілі ў іх прамовах. Недарма ўсе буржуазныя пісьменнікі, ад сіндыкалістаў і эсэраў да кадэтаў і акцябрыстаў,—недарма ўсе яны так горача выказваюцца за рабочы з'езд: усе-ж яны ворагі нашай партыі, а практычная работа па скліканню рабочага з'езда магла-б значна аслабіць і дэзарганізаваць партыю. Як-жа ім не вітаць «ідэю рабочага з'езда»?

Зусім іншае гаварылі прамоўцы большэвікі.

Дакладчык ад большэвікоў тав. Ліндаў, ахарактарызаваўшы коратка галоўнейшыя плыні сярод саміх меншавікоў, перайшоў да выяснення ўмоў, парадзіўшых ідэю рабочага з'езда. Агітацыя за рабочы з'езд пачалася ў 1905 годзе, да кастрычніцкіх дзён, у момант рэпрэсій. У кастрычніцка-лістападаўскія дні яна спынілася. У наступныя месяцы новых рэпрэсій рабоча-з'ездаўская агітацыя зноў ажывілася. У час першай Думы, у дні адноснай свабоды, агітацыя прыціхла. Потым, пасля разгону Думы, зноў узмацнілася і т. д. Вывад ясны: у дні адноснай свабоды, калі партыя мае магчымасць свабодна расшырацца, агітацыя за рабочы з'езд у мэтах стварэння «шырокай беспартыйнай партыі» натуральна траціць глебу; і наадварот, у дні рэпрэсій, калі прыліў новых членаў у партыю змяняецца адлівам, агітацыя за рабочы з'езд, як за штучную меру для расшырэння або для замены вузкай партыі «шырокай беспартыйнай», знаходзіць сабе пэўную глебу. Але само сабою зразумела, што ніякія штучныя меры не дапамогуць справе: бо для сапраўднага пашырэння партыі патрэбна палітычная свабода, а не рабочы з'езд, які сам адчувае патрэбу ў такой свабодзе.

Далей. Ідэя рабочага з'езда, узятая ў яе канкрэтным выглядзе, фальшыва ў корані: бо яна апіраецца не на факты, а на нявернае палажэнне аб тым, што «ў нас няма партыі». Справа ў тым, што ў нас ёсць пролетарская партыя, яна гучна гаворыць аб сваім існаванні, яна занадта сур'ёзна дае аб сабе адчуваць ворагам пролетарыята,—аб гэтым вельмі добра ведаюць самі меншавікі—і іменна таму, што ў нас ёсць ужо такая партыя, іменна таму ідэя рабочага з'езда з'яўляецца ў корані фальшывай. Вядома, калі-б у нас не было партыі, якая налічвае звыш 150 тысяч перадавых пролетарыяў і вядзе за сабою сотні тысяч барацьбітоў; калі-б мы прадстаўлялі сабой маленькую кучку малаўплывовых людзей накшталт германскіх соцыял-дэмакратаў 60 гадоў або французскіх соцыялістаў 70 гадоў мінулага века,—мы-б самі тады пастараліся склікаць рабочы з'езд з мэтай выціснуць з яго соцыял-дэмакратычную партыю. Але ў тым-то і справа, што мы ўжо маем партыю, сапраўдную пролетарскую партыю, якая карыстаецца сярод мас велізарным уплывам, і для таго, каб склікаць рабочы з'езд, для таго, каб стварыць фантастычную «беспартыйную партыю», нам немінуча прыдзецца перш за ўсё «пакончыць» з існуючай партыяй, перш за ўсё разбурыць яе.

Вось чаму работа па скліканню рабочага з'езда немінуча звядзецца на практыцы да работы па дэзарганізацыі партыі. А ці ўдасца ўзамен калі-небудзь стварыць «шырокую беспартыйную партыю», ды і ці трэба яе стварыць—гэта яшчэ пытанне.

Вось чаму ворагі нашай партыі, розныя кадэты і акцябрысты, так старанна хваляць меншавікоў за агітацыю ў карысць рабочага з'езда.

Вось чаму думаюць большэвікі, што работа па скліканню рабочага з'езда небяспечна, шкодна: бо яна дыскрэдытуе партыю ў вачах мас і падначальвае іх уплыву буржуазнай дэмакратыі.

Так прыблізна гаварыў тав. Ліндаў.

За рабочы з'езд, супроць с.-д. партыі, або за партыю супроць рабочага з'езда?

Так стаяла пытанне на з'ездзе.

Рабочыя дэлегаты большэвікі адразу зразумелі пытанне і энергічна выступалі «у абарону партыі»: «Мы патрыёты партыі»,—гаварылі яны—«мы любім сваю партыю і мы не дадзім дыскрэдытаваць яе стомленым інтэлігентам».

Цікава, што прадстаўніца германскай соц.-дэмакратыі, тав. Роза Люксембург, цалкам згаджалася з большэвікамі. «Мы,—гаварыла яна,—германскія соцыял-дэмакраты, не можам зразумець смешную разгубленасць тав. меншавікоў, вобмацкам шукаючых масу, у той час, як маса сама шукае партыю і нястрымна ільне да яе»...

Са спрэчак выяснілася, што велізарная большасць прамоўцаў падтрымлівае большэвікоў.

Па сканчэнні спрэчак былі пастаўлены на галасы два праекты рэзалюцыі: большэвікоў і меншавікоў. З іх за аснову быў прыняты праект большэвікоў. Папраўкі прынцыповага характару амаль усе былі адвергнуты. Прынялі толькі адну больш-менш сур'ёзную папраўку супроць абмежавання свабоды абмеркавання пытання аб рабочым з'ездзе. Рэзалюцыя ў цэлым гаварыла аб тым, што «ідэя рабочага з'езда вядзе да дэзарганізацыі партыі», «да падначалення шырокіх рабочых мас уплыву буржуазнай дэмакратыі», і як такая шкодна для пролетарыята. Прычым рэзалюцыя строга адрознівала рабочы з'езд ад советаў рабочых дэпутатаў і іх з'ездаў, якія не толькі не дэзарганізуюць партыю, не толькі не канкуруюць з ёю, а, наадварот, умацоўваюць партыю, ідучы за ёю і дапамагаючы ёй у рашэнні практычных пытанняў у моманты рэволюцыйнага ўздыму.

Нарэшце рэзалюцыя ў цэлым была прынята большасцю 165 супроць 94. Астатнія ўстрымаліся.

Такім чынам з'езд адверг ідэю рабочага з'езда, як шкодную, антыпартыйную.

Галасаванне па гэтаму пытанню адкрыла нам наступную важную з'яву. Аказалася, што са 114 рабочых дэлегатаў, якія ўдзельнічалі ў галасаванні, за рабочы з'езд галасавалі толькі 25. Астатнія галасавалі супроць. У процантных адносінах 22 проц. рабочых дэлегатаў галасавала за рабочы з'езд, 78 проц.—супроць. І што асабліва важна: з 94 дэлегатаў, галасаваўшых за рабочы з'езд, рабочых аказалася толькі 26 проц., інтэлігентаў—74 проц.

А меншавікі-ж увесь час крычалі, што ідэя рабочага з'езда ёсць

рабочая ідэя, што толькі «інтэліґенты» большэвікі процідзейнічаюць скліканню з'езда і інш. Калі меркаваць па гэтаму галасаванню, то трэба было-б хутчэй прызнаць, што ідэя рабочага з'езда ёсць, наадварот, ідэя інтэлігенцкіх фантазёраў...

Нават-жа меншавікі рабочыя, як відаць, не галасавалі за рабочы з'езд: з 39 рабочых дэлегатаў (30 м-коў+9 бундаўцаў) галасавала толькі 24 чалавекі.

Баку, 1907 год.

# Пад знакам разгортвання большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі большэвікі Беларусі ідуць да XVI з'езда КП(б)Б

Ад часу XV з'езда КП(б)Б і XVII з'езда ВКП(б) прайшло тры гады. Тэрмін не вялікі. Але ў нашай краіне за гэты невялікі тэрмін адбыліся велізарнага гістарычнага значэння соцыяльна-эканамічныя зрухі, якія замацавалі канчатковую перамогу соцыялізма. Совецкі народ пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на чале з таварышом Сталіным за апошнія тры гады дасягнуў велізарных поспехаў у эканамічным і культурным будаўніцтве, ва ўмацаванні абароназдольнасці нашай краіны. Пад мудрым кіраўніцтвам таварыша Сталіна наша соцыялістычная радзіма ператворана ў непрыступную крэпасць соцыялізма.

Вынікі перамог соцыялізма назаўсёды замацаваны прынятай і зацверджанай надзвычайным VIII з'ездам Советаў СССР Сталінскай Канстытуцыяй, якая ператварыла нашу краіну ў самую дэмакратычную ў свеце.

Гістарычныя перамогі, дасягнутыя працоўнымі масамі нашай краіны, не прышлі самі па сабе. Яны здабыты ў бязлітаснай класавай барацьбе з рэшткамі разгромленых капіталістычных класаў, у барацьбе з дыверсантамі, шпіёнамі, шкоднікамі з трацкісцка-зіноўеўскай фашысцкай банды, з правымі рэстаўратарамі капіталізма, з усімі шпіёнамі і дыверсантамі нямецка-польскага фашызма і японскага імперыялізма.

Партыя большэвікоў пад мудрым кіраўніцтвам вялікага Сталіна выкрыла подлыя намеры падонкаў чалавечага грамадства з лагера трацкізма і правых рэстаўратараў. Воляй совецкага народу знішчаны фашысцкія псы і драпежнікі з трацкісцка-зіноўеўскай банды, якія разам з нямецкім фашызмам і японскім імперыялізмам рыхтавалі ваенны напад на радзіму соцыялізма.

На вылазку фашысцкіх агентаў і здраднікаў радзімы гераічны совецкі народ, кіруемы партыяй Леніна—Сталіна і яе Цэнтральным Камітэтам на чале з таварышом Сталіным, адказаў і адказвае новым уздымам вытворчага энтузіязму, накіраванага на датэрміновае выкананне плана апошняга года другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

КП(б)Б, як складаная частка вялікай ленінска-сталінскай партыі пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна, за перыяд паміж XV і XVI з'ездамі таксама дасягнула велізарных поспехаў на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва. Беларуская ССР, як неадлучная частка неасяжнага Совецкага Саюза, ідзе ўнагу з усімі брацкімі рэспублікамі. Пры брацкай дапамозе ўсяго Совецкага Саюза з адсталай, прыгнечанай калоніі царызма яна ператворана ў адну з перадавых індустрыяльна-калгасных рэспублік. У БССР створана магутная

індустрыя, паасобныя галіны якой маюць усесаюзнае значэнне. Сельская гаспадарка калектывізавана на 87,3 проц. Калгасны лад у БССР, як і ва ўсім Совецкім Саюзе, перамог канчаткова і беспаваротна. Вянцом перамогі соцыялізма ў Совецкай Беларусі з'яўляецца новая Сталінская Канстытуцыя БССР.

Гэтыя перамогі і поспехі дасягнуты ў жорсткай класавай барацьбе з ворагамі партыі, совецкай улады і соцыялізма.

КП(б)Б і яе ЦК за перыяд ад XV да XVI з'ездаў (1934—1937 гг.) правяла агромную работу па ачыстцы сваіх радоў ад замаскаваўшыхся ворагаў з трацкісцка-фашысцкай банды забойц і іх прыспешнікаў правых, ад агентаў беларускага нацыянал-фашызма і іншых двурушніцкіх класава-варожых контррэволюцыйных элементаў.

Праведзеныя па ініцыятыве таварыша Сталіна праверка і абмен партыйных дакументаў дапамаглі выкрыць нямала ворагаў, якія шляхам двурушніцтва і прамога абману пралезлі ў рады партыі. КП(б)Б выгнала са сваіх радоў ворагаў народу і соцыялізма, навяла парадак ва ўласным партыйным доме, значна ўзняла актыўнасць і рэволюцыйную пільнасць комуністаў і яшчэ цясней згуртавалася вакол ЦК ВКП(б) і свайго правадыра—таварыша Сталіна.

У сувязі з працэсам над трацкісцка-зіноўеўскай бандай рэстаўратараў капіталізма, на аснове далейшага ўздыму большэвіцкай рэволюцыйнай пільнасці і непрымірымасці да класавых ворагаў КП(б)Б выкрыла і выгнала са сваіх радоў значную колькасць прамых агентаў і пасобнікаў фашызма, якія, скарыстоўваючы прытупленне большэвіцкай пільнасці паасобных партарганізацый і іх кіраўнікоў, здолелі абмануць партыю ў час праверкі і абмену партыйных дакументаў і засталіся ў яе радах.

Большэвіцкая крытыка і самакрытыка, што разгарнулася на справаздачна-выбарчых сходах, садзейнічала далейшаму ўздыму рэволюцыйнай пільнасці і выкрыццю прытаіўшыхся класавых ворагаў, двурушнікаў і разлажыўшыхся элементаў. Гэта яшчэ больш умацавала боездольнасць і маналітнасць радоў КП(б)Б.

К XVI з'езду КП(б)Б ідзе згуртаванымі радамі, як адзін з баявых атрадаў вялікай ленінска-сталінскай партыі, як непахісны барацьбіт за справу соцыялізма і комунізма, у цесным саюзе з усімі компартыямі неасяжнай краіны соцыялізма.

* * *

Падрыхтоўка да XVI з'езда КП(б)Б праходзіць пад знакам рэалізацыі рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна, пад знакам разгортвання большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі. А недахопаў у рабоце партыйных арганізацый яшчэ вельмі многа.

Справаздачна-выбарчыя сходы пярвічных раённых партарганізацый з усёй нагляднасцю пацвердзілі правільнасць рашэнняў Пленума і ўказанняў таварыша Сталіна аб тым, што ў нас яшчэ ёсць выпадкі парушэння асноўнага прынцыпу большэвізма—дэмакратычнага цэнтралізма. На справаздачна-выбарчых сходах выявіўся рад фактаў грубейшага парушэння статута партыі аб выбарнасці партыйных органаў, адрыву кіруючых партыйных работнікаў ад партыйнай масы, празмернага захаплення гаспадарчымі пытаннямі, факты палітычнай бесклапотнасці, парушэння праў комуніста, нячулых адносін да паасоб-

ных членаў партыі, заціск крытыкі і самакрытыкі. Усё гэта садзейнічала страце густу да партыйнай работы, страце большэвіцкай рэволюцыйнай пільнасці ў паасобных партарганізацыях.

Чым іншым, як не стратай рэволюцыйнай пільнасці тлумачыцца той факт, што ў Наркамземе, у Наркомасветы і іх сістэмах да апошняга часу лічыліся членамі партыі агалцелыя контррэволюцыянеры, шкоднікі, шпіёны польскай дэфензівы і нямецкага Гестапо, беларускія нацыянал-фашысты і іншыя класава-варожыя элементы, у апошні час выкрытыя НКУС і ЦК КП(б)Б.

Страта большэвіцкай пільнасці, грубы заціск крытыкі і самакрытыкі, падхалімства і ўгодніцтва ў партыйных арганізацыях Наркамзема і Наркомасветы былі выкарыстаны шпіёнска-дыверсійнымі і шкодніцкімі элементамі для сваёй гнуснай контррэволюцыйнай работы.

«Мы жывем у напружанай міжнароднай абстаноўцы. Фашызм усімі сіламі ідзе на развязванне вайны, і хмары на гарызонце згушчаюцца з кожным днём. У такі перыяд асабліва інтэнсіўнай становіцца работа замежных разведак. У тылы Совецкага Саюза буржуазныя дзяржавы засылаюць удвойчы і ўтройчы больш шпіёнаў і дыверсантаў, чым у тылы іншых дзяржаў. Значыць, наша пільнасць да ворагаў павінна быць узмоцнена ў сто разоў, значыць, трэба ўзброіць кожнага комуніста большэвізмам, навучыць нашых работнікаў распазнаваць шпіёнаў і шкоднікаў, хутка выкрываць ворага» [1]).

Факт выкрыцця нямецка-польскіх шпіёнаў і дыверсантаў у Наркамземе, Наркомасветы і радзе іншых арганізацый з выключнаю сілай пацвярджае правільнасць указанняў таварыша Сталіна аб тым, што нашы партыйныя таварышы забылі, што Совецкая ўлада пакуль што перамагла толькі на адной шостай частцы свету, а на астатніх пяці шостых свету пакуль яшчэ існуюць капіталістычныя дзяржавы.

> «Яны забылі, што Совецкі Саюз знаходзіцца ў абстаноўцы капіталістычнага акружэння... Капіталістычнае акружэнне—гэта не пустая фраза, гэта вельмі рэальная і непрыемная з'ява. Капіталістычнае акружэнне—гэта значыць, што ёсць адна краіна, Совецкі Саюз, якая ўстанавіла ў сябе соцыялістычныя парадкі, і ёсць, апрача таго, многа краін—буржуазныя краіны, якія прадаўжаюць весці капіталістычны вобраз жыцця і якія акружаюць Совецкі Саюз, чакаючы выпадку для таго, каб напасці на яго, разбіць яго або, ва ўсякім выпадку—падарваць яго магутнасць і аслабіць яго.
>
> ...Ці не ясна, што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы, засылаемыя ў нашы тылы агентамі замежных дзяржаў?» **(Сталін).**

Забыццё аб капіталістычным акружэнні прывяло да таго, што ў БССР доўгі час беспакарана арудвалі польска-нямецкія шпіёны і дыверсанты, што яны да апошняга часу лічыліся членамі партыі і займалі адказныя пасты. З гэтых фактаў уся КП(б)Б, кожны партыйны кіраўнік і кожны комуніст павінны зрабіць для сябе сур'ёзныя палітычныя вывады. Мы заўсёды павінны памятаць аб тым, што працуем на мяжы з капіталістычнымі дзяржавамі, якія ўвесь час імкнуцца перакінуць у нашы тылы сваіх агентаў для падрыўной работы і вербаваць сабе шпіёнаў сярод няўстойлівых элементаў у нашай краіне.

[1]) З перадавіцы „Праўды" ад 5/VI—37 г.

Скарыстоўваючы страту большэвіцкай рэволюцыйнай пільнасці ў Менгаркоме КП(б)Б, доўгі час абманваў партыю і заставаўся нявыкрытым двурушнік і прахадзімец—Хадасевіч П. І. Гэты двурушнік, хітра маскуючыся, утойваў ад партыі свой сапраўдны твар і пралез на адказную партыйную работу. Каб паказаць сябе актыўным барацьбітом за Совецкую ўладу, за перамогу Кастрычніцкай рэволюцыі, Хадасевіч заўсёды ў анкетах і іншых партыйных дакументах указваў, што ў час грамадзянскай вайны ён служыў у радах Чырвонай Арміі на чэхаславацкім і польскім фронтах. На справе-ж гэты прахадзімец, будучы ў 1919 годзе мабілізаваным у Чырвоную Армію, хутка дэзертаваў і застаўся на тэрыторыі, занятай белапалякамі.

Пры праверцы і абмене партыйных дакументаў, будучы сакратаром Менскага гаркома партыі, сам Хадасевіч, каб не быць выкрытым у ашуканстве партыі, унёс папраўкі ў свае партыйныя дакументы аб часе ўступлення ў партыю.

Гэты двурушнік і прахадзімец выкрыт толькі ў апошні час на Менскай гарадской партыйнай канферэнцыі пры абмеркаванні кандыдатур у склад членаў Гаркома КП(б)Б. Рашэннем ЦК КП(б)Б Хадасевіч, як двурушнік і дэзертыр з Чырвонай Арміі, выключан з радоў партыі. Адначасова ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове «...прызнае, што ў выніку адсутнасці неабходнай большэвіцкай пільнасці ў адносінах Хадасевіча пры наяўнасці сігналаў,—Хадасевіч П. І. астаўся нявыкрытым нават пры праверцы і абмене партыйных дакументаў».

Справа Хадасевіча абавязвае Менгарком, комуністаў Менскай партыйнай арганізацыі і ўсю КП(б)Б зрабіць для сябе сур'ёзны палітычны вывад, мабілізаваць партыйную арганізацыю на далейшае павышэнне рэволюцыйнай пільнасці і навучыць комуністаў распазнаваць ворагаў народу, як-бы яны ні маскаваліся.

Задача ўсёй КП(б)Б і кожнага комуніста—не супакойвацца тым, што главары шпіёнска-дыверсійных груп выкрыты і ізаляваны, а да канца выкрываць і выкарчоўваць іх пасобнікаў, ператварыць БССР ў непрыступную крэпасць, у несакрушальны фарпост Совецкага Саюза на яго заходніх граніцах.

«Вораг перш за ўсё імкнецца пралезці ў партыйныя арганізацыі, у партыйны апарат. Тут ён прабуе авалодаць дзяржаўнымі і партыйнымі тайнамі, адсюль ён лёгка можа папярэдзіць сваіх саўдзельнікаў аб рыхтуючыхся планах, указаць на найбольш угражаемыя месцы. Вораг актывізуецца таксама ў сувязі з надыходзячымі выбарамі ў Вярхоўны Совет. Тая ачышчальная работа, якая праведзена за апошні час пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта, выявіла і выкрыла нямала ворагаў, але было-б найвялікшай памылкай лічыць, што гэта работа ўжо закончана» [1]).

Наша задача—яшчэ шырэй разгарнуць большэвіцкую крытыку і самакрытыку, павысіць рэволюцыйную пільнасць, выхаваць усю партыйную масу і народы Совецкай Беларусі ў духу большэвіцкай непрымірымасці да ворагаў соцыялізма.

* * *

Справаздачна-выбарчыя сходы пярвічных арганізацый КП(б)Б, раённыя сходы і канферэнцыі праходзілі пры высокай палітычнай актыўнасці партыйных мас, з удзелам амаль усіх членаў партый-

[1]) З перадавіцы „Праўды“ ад 5/VI—37 г.

ных арганізацый. Па Гомельскаму раёну на сходах удзельнічала 95,5 проц. комуністаў, па Быхаўскаму—98 проц., Рагачоўскаму—96 проц., Кагановіцкаму раёну горада Менска—96 проц. і т. д. У сходах не прынялі ўдзелу толькі тыя комуністы, якія былі ў службовай камандзіроўцы, хворыя і па іншых уважлівых прычынах.

Справаздачна-выбарчыя сходы абверглі тэрмін «маўчальнік». Гэты надуманы тэрмін з'яўляўся вынікам заціску крытыкі і самакрытыкі. Варта было па-сапраўднаму разгарнуць крытыку і самакрытыку, не гледзячы на асобы, як адпаў і самы тэрмін «маўчальнік».

Узброеныя рашэннямі Пленума ЦК ВКП(б) і ўказаннямі таварыша Сталіна, комуністы шырока разгарнулі большэвіцкую крытыку і самакрытыку, ускрылі буйнейшыя недахопы ў рабоце парткомаў, парторгаў, райкомаў і гаркомаў партыі.

Асабліва жорсткай крытыцы падвергліся тыя кіраўнікі, якія адарваліся ад партыйнай масы, не забяспечылі большэвіцкага кіраўніцтва партпрапагандай і палітагітацыяй, праявілі палітычную слепату, заціскалі крытыку і самакрытыку. У рашэннях, вынесеных па справаздачных дакладах, комуністы далі большэвіцкую ацэнку кіраўніцтву і стану партыйнай работы сваіх партарганізацый і вызначылі канкрэтныя меры для ліквідацыі дапушчаных у рабоце грубейшых памылак і недахопаў.

Пры выбарах кіруючых партыйных органаў не было агульнага падыходу. Кожная высунутая кандыдатура падвяргалася ўсебаковаму абмеркаванню: ці заслугоўвае даны таварыш давер'я партыйнай масы, ці здолен ажыццявіць генеральную лінію партыі, ці справіцца з тымі задачамі, якія стаяць перад партыяй і кожнай партыйнай арганізацыяй.

Замест адарваўшыхся ад мас, абюракраціўшыхся, няздольных забяспечыць большэвіцкае кіраўніцтва работнікаў у кіруючыя партыйныя органы высунуты новыя, вырасшыя на рабоце партыйныя кадры. Сярод 2061 члена парткома 387 абраны ўпершыню. У цэлым склад членаў парткома па КП(б)Б адноўлен на 49,8 проц., склад сакратароў парткомаў і парторгаў—на 35,5 проц. Упершыню сакратарамі парткомаў і парторгамі абрана 411 чал.

Гэтыя лічбы сведчаць аб велізарным рэзерве, які да апошняга часу не заўважалі райкомы і гаркомы партыі. Звычайна, калі сакратар парткома ці парторг пераводзіўся на другую работу, замену шукалі ў іншых партарганізацыях, а нярэдка прасілі ЦК КП(б)Б «даць людзей».

У склад райкомаў і гаркомаў партыі высунута шмат новых людзей з радавых растучых комуністаў. Па 59 раёнах, скончыўшых выбары, з 792 членаў райкомаў і гаркомаў партыі 367 чалавек, або 46,3 проц.,—людзі новыя. У 13 раёнах абраны новыя першыя сакратары РК КП(б)Б, правераныя і працаздольныя таварышы. Вынікі выбараў паказалі, што справа не ў тым, што няма рэзерваў, а ў няведанні людзей, няўменні і нежаданні многіх кіруючых партыйных работнікаў сур'ёзна заняцца вывучэннем і вырошчваннем новых, большэвіцкі загартаваных партыйных кадраў. Кожны райком і гарком партыі, кожная пярвічная партарганізацыя павінны зрабіць з гэтага сур'ёзныя вывады, глыбока вывучаць членаў сваёй арганізацыі, выхоўваць і вырошчваць новыя партыйныя кадры, уцягваючы іх у актыўную партыйную работу. Разважанням і балбатні аб адсутнасці партыйных кадраў трэба пакласці канец.

* * *

Практыка паказвае, што ў паасобных раёнах новаабраныя таварышы прадастаўлены самім сабе. Неабходна памятаць, што толькі пры штодзеннай канкрэтнай дапамозе і кіраўніцтве райкомаў і гаркомаў можна забяспечыць далейшы рост гэтых таварышоў і ліквідацыю ўскрытых на справаздачна-выбарчых сходах недахопаў работы. Інструктары райкомаў і гаркомаў партыі не павінны быць простымі наглядальнікамі і гастралёрамі, а сапраўднымі арганізатарамі перабудовы партыйнай работы пярвічных партарганізацый у раёне свайго абслугоўвання. Яны павінны апраўдаць сваю назву і выканаць ускладзеныя на іх задачы. Сакратары райкомаў і гаркомаў абавязаны наладзіць сталы кантроль і кіраўніцтва работай інструктароў.

Не менш важная задача—уцягнуць у актыўную работу ў першы раз абраных у склад бюро і пленума комуністаў, а таксама ўсіх членаў бюро і пленума райкомаў і гаркомаў партыі.

Бюро і сакратары РК і ГК павінны цесна звязацца з партыйнымі масамі, канкрэтна кіраваць і дапамагаць рабоце пярвічных партарганізацый, уцягнуць усіх комуністаў у партыйнае жыццё, разгарнуць большэвіцкую крытыку і самакрытыку, узняць рэволюцыйную пільнасць усіх комуністаў, выхоўваючы іх у духу большэвіцкай непрымірымасці да ворагаў народу. У гэтым—зарука таго, што партарганізацыі ліквідуюць недахопы і прарывы ў сваёй рабоце, ускрытыя справаздачна-выбарчымі сходамі, выканаюць рашэнні Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна.

Доўг і абавязак кожнага партыйнага кіраўніка, кожнага комуніста, на якім-бы ўчастку ён ні працаваў,—выканаць лозунг партыі і таварыша Сталіна аб аўладанні большэвізмам, бязлітасна змагацца з палітычнай бесклапотнасцю, парушэннем статута партыі, заціскам крытыкі і самакрытыкі.

* * *

Партыйная арганізацыя КП(б)Б к свайму XVI з'езду прыходзіць пад сцягам Леніна—Сталіна адзінай і маналітнай. Большэвіцкая крытыка, што разгарнулася на справаздачна-выбарчых сходах, значна ўмацавала яе рады, яшчэ больш згуртавала яе вакол ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна. КП(б)Б і надалей застанецца непахісным барацьбітом за справу Леніна—Сталіна, за справу комунізма.

---

**Г. Рубінштэйн**

Заг. АКПО ЦК КП(б) Беларусі

# Развіваць далей актыўнасць партыйных мас

Выбары парторганаў пярвічных партарганізацый у Беларусі закончаны. Закончаны таксама выбары райкомаў партыі ў 59 райпартарганізацыях з 93.

Справаздачна-выбарчыя сходы пярвічных партарганізацый і райпартсходы сведчаць аб высокім уздыме палітычнай актыўнасці партыйных мас у партарганізацыях КП(б) Беларусі.

Комуністы, узброеныя рашэннямі Пленума ЦК ВКП(б) і ўказаннямі таварыша Сталіна на Пленуме ЦК ВКП(б), шырока разгортваючы большэвіцкую крытыку і самакрытыку, рашуча і да канца ўскрываюць буйнейшыя недахопы ў рабоце партыйных арганізацый, вызначаюць канкрэтныя шляхі перабудовы партыйнай работы і далейшага павышэння боездольнасці нашай партыйнай арганізацыі. З якой сур'ёзнасцю комуністы аднесліся да справаздач сваіх партыйных органаў, сведчыць наведванне комуністамі справаздачна-выбарчых партыйных сходаў. У 1704 пярвічных партарганізацыях з'явілася на справаздачна-выбарчыя сходы 16.660 членаў і кандыдатаў партыі з 17.290, якія лічацца на ўчоце ў даных пярвічных партыйных арганізацыях. Калі ўлічыць камандзіроўкі, захворванні і т. д., то яўка на партсходы будзе стопроцантная. Гэтыя даныя тым больш паказальны, што ў сельскіх партыйных арганізацыях наведванне партыйных сходаў да гэтага часу было вельмі нізкім і ледзь дасягала 55—60 проц. комуністаў.

Вядома, што ў вялікай колькасці пярвічных партыйных арганізацый нашы кіруючыя партыйныя работнікі аказаліся перад «невырашальнай» задачай: як дабіцца таго, каб комуністы актыўна ўдзельнічалі на партыйных сходах? Для комуністаў, якія не выступалі на партыйных сходах, быў вынайдзен нават спецыяльны тэрмін—«маўчальнікі». Нашы кіруючыя работнікі ў поце твару свайго працавалі над вырашэннем «праблемы», як прымусіць «маўчальнікаў» загаварыць на партыйных сходах. Варта было толькі выступіць аднаму з комуністаў, да гэтага часу не выступаўшаму на партыйных сходах, як пярвічныя партарганізацыі і райкомы партыі з пераможным выглядам абвяшчалі аб сур'ёзных дасягненнях у партыйна-палітычнай рабоце. Справаздачна-выбарчыя сходы пярвічных партыйных арганізацый з усёй рэзкасцю паказалі, што «праблема» так званых маўчальнікаў—прадукт адсутнасці большэвіцкай крытыкі ў партыйных арганізацыях, рэзультат парушэння ўнутрыпартыйнай дэмакратыі і ўшчамлення законных правоў членаў партыі ў кантролі

над работай кіруючага партыйнага органа. Цяпер стала зусім відавочна, што толькі казёншчына і элементы бюракратызма, унесеныя ў партыйную работу, парушэнне ўнутрыпартыйнай дэмакратыі звязвалі палітычную актыўнасць члена партыі. Яркім прыкладам таго з'яўляюцца справаздачна-выбарчыя партыйныя сходы. Ажыццяўляючы рашэнні Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна аб разгортванні большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, аб найстражэйшым захаванні ўнутрыпартыйнай дэмакратыі і тайных выбараў, партыйныя арганізацыі Беларусі дабіліся нябачанай да гэтага часу палітычнай актыўнасці членаў партыі. Сама сабою знятай аказалася «праблема маўчальнікаў». На партыйных сходах пераважная большасць комуністаў выступіла па справаздачы парткомаў. Комуністы па справаздачных дакладах парткомаў выступалі па 3—4 разы.

З 55 комуністаў, якія прысутнічалі на партсходзе завода імя Кірава (Гомель), па справаздачы парткома выступіла 45 чал., у партарганізацыі фабрыкі імя Фрунзе (Менск) з 28 комуністаў выступілі па справаздачы парткома 24, у партарганізацыі райспажыўсаюза (Крычаў) з 13 комуністаў па справаздачы выказалася 13, у партарганізацыі Магілеўскай шоўкавай фабрыкі са 140 комуністаў выступіла ў спрэчках 75, на райпартсходзе Лоеўскай партарганізацыі ў спрэчках выступіла 64 комуністы з 80 прысутных. Асабліва высока была актыўнасць пры абмеркаванні кандыдатаў у кіруючыя партыйныя органы. Даволі адзначыць, што на райпартсходзе Добрушскай партыйнай арганізацыі па кандыдатуры дырэктара папяровай фабрыкі Гансіна, высунутага ў склад райкома, выказалася 32 чалавекі, а на райпартсходзе ў Глускай партарганізацыі па кандыдатуры старшыні РВК Фейгіна, якая была выстаўлена ў райком, выказаўся 41 чалавек. У рэзультаце абмеркавання кандыдатура Фейгіна была знята са спісу. Гэтыя прыклады не адзінкавы. Не гледзячы на самую вострую крытыку работы кіруючых партыйных кадраў—сакратароў райкомаў, парткомаў, парторгаў,—вынікі выбараў паказваюць, што асноўныя кіруючыя партыйныя кадры карыстаюцца давер'ем і аўтарытэтам у партыйных масах. З 282 выбраных сакратароў парткомаў 197 старых, з 1208 нававыбраных парторгаў 795 былі раней парторгамі. Гэтыя папярэднія вынікі выбараў у кіруючыя партыйныя органы таксама сведчаць аб высокай свядомасці комуністаў, аб засваенні комуністамі ўказання таварыша Сталіна: «навучаць кадры на іх уласных памылках».

Шырокае разгортванне крытыкі і тайныя выбары далі магчымасць партыйнай арганізацыі выкрыць і адхіліць ад кіруючай партыйнай работы партыйныя кадры, якія збанкроціліся, страцілі сувязь з масамі, абюракраціліся. Забалаціраванымі аказаліся першы і другі сакратары Добрушскай райпартарганізацыі—тав. Бангайціс і тав. Паўловіч, першы сакратар Даманавіцкай райпартарганізацыі Калбасаў, другі сакратар Багушэўскай райпартарганізацыі Масалкоў. Асноўнымі матывамі, па якіх гэтыя кіруючыя работнікі былі забалаціраваны, гэта—адрыў ад мас, палітычная слепата, правал партыйна-палітычнай работы і няздольнасць гэтых кіраўнікоў забяспечыць перабудову работы на аснове рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна.

На сходзе Добрушскай партарганізацыі работніца Цыганкова гаварыла:

«Мяне, як члена райкома, ніколі і нікуды не выклікалі, не гутарылі са мной, мяне вывелі са складу Пленума райкома ў маю ад-

сутнасць, і я нават не ведаю за што. Райком партыі і тав. Бангайціс не цікавяцца жыццём комуністаў».

На гэтым-жа партсходзе комуніст. Мялешка гаварыў:

«Райком партыі адарваўся ад мас, у райкоме ведаюць стаханаўцаў па спісу, а не ў твар».

Комуніст Власенка гаварыў, што «трацкіст Ліхтэнштэйн карыстаўся апякунствам у райкоме, райком адарваўся ад рабочых і калгасных мас, комуністы маўчалі таму, што райком заціскаў крытыку». Не дзіўна, што першы і другі сакратары ў гэтай партыйнай арганізацыі аказаліся забалацціраванымі.

Замест адарваўшыхся ад мас, абюракраціўшыхся кадраў на кіруючую партыйную работу былі высунуты вырасшыя, звязаныя з шырокімі партыйнымі масамі работнікі.

Важнейшай асаблівасцю праведзеных выбараў у кіруючыя партыйныя органы з'яўляецца тое, што на кіруючую партыйную работу былі высунуты вырасшыя, аўтарытэтныя ў масах кадры з беларусаў. З 282 сакратароў парткомаў выбрана 138 беларусаў, з 1208 парторгаў выбрана беларусаў 713. У склад кіруючых партыйных органаў пярвічных партарганізацый выбрана 13 ордэнаносцаў. У Багушэўскай партарганізацыі замест забалацціраванага за правал работы і адарванасць ад мас другога сакратара РК тав. Масалкова раённы партыйны сход выбраў другім сакратаром РК інструктара гэтага-ж райкома тав. Дзянісава, беларуса, які палітычна вырас, звязан з масамі і добра сябе паказаў на рабоце інструктара райкома.

Склад членаў партыйных камітэтаў аказаўся ў рэзультаце выбараў значна абноўленым. З 1132 членаў парткомаў не былі членамі парткомаў мінулага складу 544 чалавекі. У склад партыйных камітэтаў замест кааптаваных раней членаў парткомаў, якія не былі звязаны з масамі, якіх комуністы не ведалі, якія фармальна лічыліся ў парткоме, але не працавалі, комуністы высунулі аўтарытэтных у масах, растучых таварышоў.

Партыйныя арганізацыі Беларусі выходзяць з выбараў значна ўмацаванымі. Ускрыўшы на аснове большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі буйнейшыя недахопы ў партыйна-палітычнай рабоце, партыйныя арганізацыі Беларусі намецілі канкрэтныя меры па выпраўленню памылак і хутчэйшай перабудове работы. У рашэннях, прынятых па справаздачных дакладах райкомаў, парткомаў і парторгаў, адбіўся вопыт шырокіх партыйных мас, бо гэтыя рашэнні ў большасці сваёй складзены не штатнымі дакладчыкамі, а сфармуляваны і прыняты самой партыйнай масай. Гэтыя рашэнні з'яўляюцца канкрэтнай праграмай перабудовы партыйнай работы.

Важнейшая задача, якая сёння стаіць перад кіруючымі партыйнымі органамі,—гэта дакладнае і хуткае правядзенне ў жыццё гэтых указанняў партыйных мас. Аднак, гэтага мы яшчэ ў партарганізацыях Беларусі не маем. Нававыбраныя райкомы партыі, парткомы і парторгі раскачваюцца вельмі марудна.

З дня выбараў раду партыйных камітэтаў і парторгаў прайшоў ужо цэлы месяц, аднак мы ў нашых партыйных арганізацыях не маем ні аднаго выпадку, калі-б сакратар парткома або парторг адчытаўся перад партыйным сходам аб канкрэтных мерах, якія прыняты парткомам або парторгам па рашэннях справаздачна-выбарчых партыйных сходаў. Ствараецца пагроза, што ўказанні партыйных мас нававыбраным парткомам не будуць выкананы. Тут неабходны дзейсны штодзенны кантроль самой партыйнай масы. Комуністы па-

вінны патрабаваць ад новавыбраных партыйных камітэтаў і парторгаў неадкладнай справаздачы аб тым, як выконваюцца прынятыя партыйнымі арганізацыямі рашэнні па справаздачных дакладах. Іменна гэта з'яўляецца сур'ёзнейшай гарантыяй таго, што рашэнні Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна будуць выкананы, і нашы партыйныя арганізацыі хутка перабудуюцца. Гэта мае яшчэ асаблівае значэнне таму, што на справаздачна-выбарчых сходах комуністы ўскрылі рад фактаў шкодніцтва, выкрылі дзеянні варожых людзей, якія яшчэ і зараз застаюцца ў совецка-гаспадарчых органах, унеслі рад каштоўнейшых прапаноў па ліквідацыі прарываў і недахопаў у рабоце не толькі партыйнага, але і совецка-гаспадарчага апарата. Неабходна патрабаваць ад новавыбраных партыйных камітэтаў, каб яны неадкладна рэагавалі на гэтыя факты, неадкладна выканалі ўказанні партыйных мас.

У ходзе выбараў кіруючых парторганаў КП(б)Беларусі дабілася нябачанага яшчэ росту палітычнай актыўнасці партыйных мас. Аднак было-б горшым відам апартунізма, калі-б нашы партыйныя арганізацыі на гэтым супакоіліся. Не супакойвацца трэба, а на аснове далейшага разгортвання крытыкі і самакрытыкі, найстражэйшага захавання ўнутрыпартыйнай дэмакратыі трэба далей развіваць палітычную актыўнасць партыйных мас.

---

Д. Юркоў

# Лютаўскі Пленум ЦК ВКП(б) і задачы друку

Да самага нядаўняга часу для газет БССР характэрна было наступнае размеркаванне газетнай плошчы. На першай паласе змяшчалася перадавіца і «пустапарожнія і ташнатворныя рапарты аб поспехах», на другой і трэцяй паласе ў вялікіх дозах змяшчаліся заметкі аб сельскай гаспадарцы, аб гаспадарчых справах у калгасе. Рэдка прамільгне заметка аб калгасным сходзе, дый то худасочная. Яшчэ радзей—заметка аб горадзе і, нарэшце, дзе-небудзь на задворках,—заметка на партыйныя тэмы. Чацвертая паласа адводзілася пад інфармацыю замежную і саюзную.

Цяжка з гэтага малюнку выдзеліць якую-небудзь газету, нават рэспубліканскую. Усе яны падобны адна на другую. Усім газетам уласціва была пагарда да пытання партыйнай работы. Раённыя і рэспубліканскія газеты не знаходзілі тэм аб партыйнай рабоце. Тлумачыцца гэта, вядома, не тым, што няма такіх тэм, а стратай густу да партыйна-масавай работы, да яе арганізацыі, яе кадраў.

Газетныя работнікі засталіся глухімі да неаднаразовых указанняў партыі, заснаваных на ўроках выкрыцця трацкісцкіх і іншых шкоднікаў.

ЦК ВКП(б) патрабаваў ад партыйных камітэтаў, ад органаў друку выхоўваць у членаў партыі пільнасць, уменне распазнаваць ворагаў. «Неад'емнай якасцю кожнага большэвіка ў сучасных умовах,—гаварылася ў пісьме ЦК ВКП(б) ад 29 ліпеня 1936 г.,—павінна быць уменне распазнаваць ворага партыі, як-бы добра ён ні быў замаскаваны».

Таварыш Сталін з крыштальнай чоткасцю растлумачыў змест гэтага ўказання ЦК ВКП(б).

Яно заклікала да таго, каб «ліквідаваць,— гаварыў таварыш Сталін,—слабасць партыйна-арганізацыйнай работы і ператварыць партыю ў непрыступную крэпасць, куды не мог-бы пранікнуць ні адзін двурушнік».

Яно заклікала да таго, каб «пакончыць з недаацэнкай партыйна-палітычнай работы і зрабіць рашучы паварот у бок усямернага ўзмацнення такой работы, у бок узмацнення палітычнай пільнасці». **(Сталін).**

Так было пастаўлена пытанне яшчэ ў сярэдзіне 1936 г. Так яно павінна вырашацца нашым друкам і зараз.

* * *

На старонках газет можна было сустрэць указанні аб тым, што класавая барацьба з рэшткамі разгромленых класаў набывае ўсё больш жорсткія формы. Але мала, надта мала адводзілася месца аналізу галоўных канкрэтных форм класавай барацьбы. Асноўным недахопам

ў гэтай галіне было тое, што не раскрываліся сувязі варожых элементаў у СССР з капіталістычным акружэннем. На практыцы гэта прыводзіла да недаацэнкі сіл ворага і пераацэнкі ўласных сіл.

> «Трэба мець на ўвазе, што астаткі разбітых класаў у СССР не адзінокі. Яны маюць прамое падтрыманне з боку нашых ворагаў за межамі СССР. Памылкова было-б думаць, што сфера класавай барацьбы абмежавана граніцамі СССР. Калі адзін канец класавай барацьбы мае сваё дзеянне ў рамках СССР, то другі яе канец працягваецца ў межы акружаючых нас буржуазных дзяржаў. Аб гэтым не могуць не ведаць астаткі разбітых класаў. І іменна таму, што яны аб гэтым ведаюць, яны будуць і ў далейшым прадаўжаць свае адчайныя вылазкі.
>
> Так вучыць нас гісторыя. Так вучыць нас ленінізм.
>
> Неабходна памятаць усё гэта і быць на-чаку». **(Сталін).**

Соцыялізм у СССР перамог. Эксплаатататарскія класы знішчаны. База іх існавання ліквідавана. Але разгромлены вораг адчайна змагаецца за зварот права эксплаатаваць працоўных, панаваць над імі.

Гісторыя развіцця рэволюцыйнага руху вучыць нас, што авангард раней панаваўшага класа, нават пасля яго канчатковага паражэння, яшчэ доўгі час змагаецца за зварот страчанай улады. Амаль 150 год прайшло з таго часу, як ва Францыі звергнута манархія, але манархісты ва Францыі існуюць яшчэ і зараз.

Тым больш правільна меркаваць, што буржуазія, якая страціла ўладу ў СССР усяго толькі 20 год назад, будзе яшчэ доўгі час біцца за аднаўленне сваёй улады. Жывіць яе надзеі, надае ёй сілы, пасылае сродкі і кадры капіталістычнае акружэнне.

Капіталістычнае акружэнне—рэальны факт. Друк БССР многа гаворыць аб гэтым факце, але не раскрывае чытачу яго сапраўднага значэння. Капіталістычны свет чакае выпадку, каб напасці на нашу краіну. Капіталістычны свет штодзенна працуе над тым, каб аслабіць магутнасць Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. «Аб гэтым асноўным факце забылі нашы таварышы. А іменна ён-жа і вызначае аснову ўзаемаадносін паміж капіталістычным акружэннем і Совецкім Саюзам» **(Сталін).**

Уся гісторыя развіцця СССР пацвярджае гэта. З першых дзён совецкай улады буржуазія паведала ўсяму свету, што яна не на жыццё, а на смерць будзе змагацца супроць СССР. Гэта запісана і ў дыпламатычных дакументах і ў мільёнах буржуазных газетных артыкулаў. Гэта пацверджана правакацыямі за граніцай, серыяй забойстваў нашых дыпламатаў, тысячамі шкодніцкіх актаў, падпалаў, забойстваў нашых людзей рукою фашысцкай разведкі, якая дзейнічае на тэрыторыі СССР.

Меч вайны спачатку трымалі Францыя і Польшча, потым Англія, зараз ён перайшоў да Германіі і Японіі. Мяняліся краіны—непасрэдныя арганізатары вайны, але не было такога моманту ў гісторыі Совецкай дзяржавы, калі-б ніхто не пагражаў ёй, не рыхтаваў супроць яе вайны.

Цяпер войн не аб'яўляюць. Аб вайне не папярэджваюць. Змяняюцца метады барацьбы, але нічога не змяняецца ў асноўным факце: падрыхтоўка вайны супроць СССР па-ранейшаму з'яўляецца галоўным, рашаючым фактарам міжнароднай палітыкі капіталістычнага свету.

Шпіянаж, дыверсія, забойства—важнейшыя сродкі падрыхтоўкі

вайны. Гэтымі сродкамі карыстаўся феадальны свет. Яны ўдасканалены і страшэнна развіты пры капіталізме. Фашызм—тэрарыстычная дыктатура буржуазіі. Па прыродзе сваёй фашызм не можа абыходзіцца без шпіянажу, дыверсіі і забойстваў. Шлях да ўлады фашысты праклалі пры дапамозе шпіянажу і забойстваў. І зараз, калі яны прышлі да ўлады ў радзе краін, апарат разведкі дасягнуў гіганцкіх памераў. Арсенал зброі, якім карыстаецца разведка,—тонкі шпіянаж, дыверсія, забойства.

Трацкісцкія шкоднікі былі знаходкай для замежных разведак. Злая нянавісць да перамогі соцыялізма ў СССР, школа подласці, пройдзеная трацкістамі і зіноўеўцамі ў падполлі Іуды Троцкага, ліцамер'е, агіднае двурушніцтва, якія прывілі трацкісцкім кадрам бандыты з вялікай дарогі, хамелеоны Зіноўеў, Пятакоў, Радэк, Бухарын—усе гэтыя якасці як нельга больш падыходзілі для службы ў япона-нямецкай фашысцкай разведцы. Наяўнасць у іх партбілетаў, якія давалі магчымасць пранікаць у нашы ўстановы, рабіла з гэтай зграі асабліва каштоўныя кадры для Гестапо і японскай разведкі.

Некаторыя партыйныя і совецкія кіраўнікі былі здзіўлены гэтым фактам. Аднак дзівіцца не было чаму, бо трацкісты ідэйна даўно нічым не адрозніваюцца ад кіраўнікоў Гестапо. Таварыш Сталін у сваім пісьме ў журнал «Пролетарская революция» указаў, што ўжо ў 1927 годзе, стварыўшы падпольныя друкарні, арганізуючы дэманстрацыі супроць совецкай улады, ўзброіўшы буржуазію контррэволюцыйнай тэорыяй немагчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне, трацкізм стаў перадавым атрадам контррэволюцыйнай буржуазіі.

Большэвікам Беларусі, нашаму раённаму друку і рэспубліканскаму друку былі вядомы такія факты, калі людзі з партыйнымі білетамі ў кішэні працавалі на карысць замежных дзяржаў. Так званыя беларускія нацыянал-дэмакраты, а па сутнасці ад'яўленыя фашысты, з першага дня перамогі Кастрычніка працавалі для польскай дэфензівы, прыкрываючыся партбілетам. Такой у прыватнасці была БКА. Вось чаму асабліва нельга даравань работнікам друку БССР «сляпое давер'е да людзей, выпадкова атрымаўшых партыйны білет».

У нашым друку няма недахопу ў заявах аб абавязках працоўных БССР у адносінах да працоўных Саюза, аб пагранічным становішчы Беларускай ССР. БССР,—гаворыць партыя,—фарпост СССР на заходнім рубяжы з капіталістычным светам. У выпадку вайны гэты фарпост першым прыме ўдар ворага.

Нядаўна вышла ў выданні Соцэкдзяржвыдавецтва кніжка Эрнста Генры—англійскага даследчыка. Ён вельмі ўважліва і дэтальна рысуе падрыхтоўку вайны Гітлера супроць СССР. І гэты сведка не пакідае ніякага сумнення ў тым, што Беларусь у планах Гітлера займае віднае месца. Полацк, Віцебск, Орша, Менск, як сведчыць Эрнст Генры, будуць першачарговымі аб'ектамі ваеннага нападу.

Аб падрыхтоўцы ваеннага нападу на СССР і на БССР, як перадавы фарпост Совецкага Саюза на яго заходніх межах, мы маем не мала фактаў. Для гэтай мэты фашысцкая Польшча заключыла ваенны саюз з гітлераўскай Германіяй. Не мала ворагаў працуе над аслабленнем магутнасці БССР па заданню польскай дэфензівы і Гестапо.

Для падрыўной работы ў БССР замежныя разведкі выкарыстоўваюць усе свае атрады. Трацкісцкія шкоднікі, правыя, нацдэмы, эсэры, бундаўцы, проста агенты Гестапо і дэфензівы—уся гэта под-

лая зграя з'яўляецца не толькі ідэйна адзінаю бандай, але нярэдка і арганізацыйна працуе рука ў руку.

> «Зразумела, што гэтых ворагаў прыдзецца граміць і карчаваць бязлітасна, як ворагаў рабочага класа, як здраднікаў нашай радзімы» **(Сталін)**.

Гэта абавязвае КП(б)Б і ўвесь беларускі народ яшчэ больш умацаваць абараназдольнасць нашай радзімы, быць заўсёды гатовым адказаць сакрушальным ударам падпальшчыкам вайны і фашысцкім інтэрвентам, калі яны паспрабуюць напасці на нашу соцыялістычную радзіму.

* * *

Працэсы «ленінградскага цэнтра», «Зіноўева і Каменева», «антысовецкага паралельнага трацкісцкага цэнтра», бясспрэчна, садзейнічалі павышэнню рэволюцыйнай пільнасці працоўных СССР. Разгромлены два трацкісцкія цэнтры, але вораг яшчэ не знішчан.

Трацкісцкія і бухарынскія шкоднікі стварылі складаную сетку шпіянажу, глыбока законспіраваўшы сваю агентуру.

Таварыш Сталін на лютаўскім Пленуме ЦК ВКП(б), падводзячы вынікі дакладам і спрэчкам, сказаў:

> «Відаць, што мы маем тут справу з наступнымі трыма асноўнымі фактамі.
>
> Па-першае, шкодніцкая і дыверсійна-шпіёнская работа агентаў замежных дзяржаў, у ліку якіх даволі актыўную ролю адыгрывалі трацкісты, закранула ў той ці іншай ступені ўсе ці амаль усе нашы арганізацыі, як гаспадарчыя, так і адміністрацыйныя і партыйныя.
>
> Па-другое, агенты замежных дзяржаў, у тым ліку трацкісты, праніклі не толькі ў нізавыя арганізацыі, але і на некаторыя адказныя пасты.
>
> Па-трэцяе, некаторыя нашы кіруючыя таварышы, як у цэнтры, так і на месцах, не толькі не здолелі разглядзець сапраўдны твар гэтых шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў, забойцаў, але аказаліся да таго бесклапотнымі, благадушнымі і наіўнымі, што нярэдка самі садзейнічалі прасоўванню агентаў замежных дзяржаў на тыя або іншыя адказныя пасты» **(Сталін)**.

У БССР вораг галоўны свой удар накіраваў на тыя ўчасткі і галіны гаспадаркі, ад якіх, перш за ўсё, залежыць наша мабілізаванасць, хуткасць перасоўвання рэсурсаў. Чыгункі, размешчаныя на тэрыторыі БССР, водны транспарт і конегадоўля былі тымі галінамі, дзе вораг праявіў выключную актыўнасць.

Вораг не пагарджае ніякай пасадай, абы толькі мець магчымасць шкодзіць, ён не разбіраецца і ў месцы работы, абы шпіёнскія звесткі былі каштоўны некаторым замежным дзяржавам. Вядомы выпадкі, калі гэтая подлая зграя прыстройвалася на пасады вартаўнікоў, прыбіральшчыц і т. п.

Няправільна было-б думаць, што вораг імкнецца пранікнуць толькі на аб'екты, якія маюць непасрэдна абароннае значэнне. Ён арудуе і на прадпрыемствах, якія такога значэння не маюць, але шкодніцтва на якіх моцна б'е па спажыўцу. Зусім не выпадкова актыўнасць ворага на мясакамбінатах і іншых харчовых прадпрыемствах БССР.

Нельга не адзначыць, што вораг імкнецца пранікнуць і на дробныя прадпрыемствы, бо тут яму лягчэй хавацца. Ён стараецца выкарыстаць іх у якасці плацдарма для пераходу на больш буйныя прадпрыемствы, або ў якасці базы для стварэння кадраў. У выніку слабасці нашага кантролю за гэтымі прадпрыемствамі, невысокага партыйнага ўзроўню масавай работы вораг арудуе тут амаль беспакарана. Асабліва трывожныя сігналы паступаюць з арцелей і леспрамгасаў. Да гэтых устаноў работнікі друку павінны ўважліва прыглядзецца. Партыйныя арганізацыі павінны павысіць увагу да дробных прадпрыемстваў.

У апошні час трывожныя сігналы паступаюць з больніц. Асабліва многа нараканняў на работу радзільных аддзяленняў. Не выключана магчымасць, што вораг рыхтуе арганізаваны ўдар з мэтай кампраметацыі закона аб забароне абортаў.

Вораг вядзе вялікую ідэалагічную падрыхтоўку вайны супроць СССР. Ажыўленне дзейнасці царкоўнікаў звязана іменна з гэтай мэтай.

Школы і вышэйшыя навучальныя ўстановы—арэна разлютаванай барацьбы ворага за ўплыў на моладзь. Нацдэмаўская работа на гэтым участку да канца яшчэ не выкарчавана.

Натуральна, што вырашэнне задач, якія перад намі стаяць, немагчыма без самага рашучага разгрому ворага.

Барацьба з ворагам—элементарны абавязак работнікаў большэвіцкага друку, галоўны змест работы газеты.

Барацьбу гэту трэба правільна арганізаваць. Наш друк, у тым ліку і «Звязда», недастаткова вядуць барацьбу па выкрыццю ворагаў народу і ў той-жа час называюць трацкістамі тых, хто ў мінулым памыляўся, але потым поўнасцю і рашуча адышоў ад трацкістаў.

> «Нельга стрыгчы ўсіх пад адзін грэбень. Такі агульны падыход можа толькі пашкодзіць справе барацьбы з сапраўднымі трацкісцкімі шкоднікамі і шпіёнамі» **(Сталін).**

Нярэдка людзі, на якіх дарэмна быў узведзен паклёп, звяртаюцца ў газету, патрабуючы рэабілітацыі. Аднак рэдактары, хоць ім абсалютна ясна, з кім маюць справу, не змяшчаюць абвяржэння, баючыся паставіць газету нібыта ў нязручнае становішча. Гэта—ілжывае і шкоднае ўяўленне. Газета павінна ўзначаліць барацьбу супроць чыноўніцкіх, бяздушна-бюракратычных адносін да чалавека. Самі-ж газетныя работнікі тым больш не маюць права бяздушна абыходзіцца з людзьмі.

Трэба зразумець, што бяздушныя адносіны да чалавека часта выклікаюць у яго нездаволенасць і азлабленне, чым карыстаецца вораг.

> «Трацкісцкія двурушнікі лоўка падчапляюць такіх азлобленых таварышоў і ўмела цягнуць іх за сабой у балота трацкісцкага шкодніцтва» **(Сталін).**

Вядомы выпадкі, калі да людзей, на якіх быў узведзен дарэмны паклёп, ворагі пасылалі спачатку сваю літаратуру, а потым з'яўляліся самі, каб падчапіць іх на сваю вудачку.

Барацьба з ворагамі—кроўная справа савецкага газетнага работніка. Аднак, няправільна было-б думаць, што выкрыццё ворага можна паставіць сіламі аднаго толькі апарату рэдакцыі. Газета, не звязаная

з масамі, ніколі нічога сур'ёзнага не рабіла і зрабіць не можа. Адарваная ад мас, газета перастае быць той астрэйшай зброяй большэвікоў, з дапамогаю якой партыя выкрывае ворагаў сацыялізма і арганізуе шырокія масы савецкага народу на далейшыя перамогі.

Сёй-той думае, што трымаць сувязь з масамі—гэта значыць часцей арганізоўваць рознага роду нарады. Нарады, вядома, садзейнічаюць умацаванню сувязі з масай. Але ўсё-ж не ў іх справа. Самым сур'ёзным крытэрыем сувязі з'яўляюцца пісьмы працоўных, якія змяшчае газета. Зразумела, што чытач будзе пісаць у газету толькі тады, калі ўбачыць, што яна па-сур'ёзнаму арганізуе самакрытыку нашых недахопаў і мабілізуе масы на іх ліквідацыю.

Большэвіцкая самакрытыка—праверaная зброя партыі ў барацьбе з усякага роду недахопамі арганізацыі работы. Яна садзейнічае выяўленню карэнняў так званых «звычайных недахопаў» і, значыць, знішчае тую каламутную ваду, у якой вораг майстэрскі ловіць рыбу. Яна выкрывае ворагаў і іх пасобнікаў, развіваючы рэволюцыйную пільнасць.

Газеты павінны стаць застрэльшчыкамі і арганізатарамі большэвіцкай самакрытыкі. Тады, і толькі тады, вочы і вушы газеты ўзмоцняцца ў сто раз, тады, і толькі тады, газеты здолеюць прынесці істотную карысць партыі ў выкрыцці і бязлітасным выкарчоўванні ворага.

* * *

> «Асноўным метадам трацкісцкай работы з'яўляецца цяпер не адкрытая і чэсная прапаганда сваіх поглядаў у рабочым класе, а маскіроўка сваіх поглядаў, лісліваe і падхалімскае ўсхваленне поглядаў сваіх праціўнікаў, фарысейскае і фальшывае ўтоптванне ў гразь сваіх уласных поглядаў» **(Сталін).**

Уся складанасць барацьбы з трацкісцкімі і бухарынскімі шкоднікамі заключаецца ў тым, што яны выступаюць супроць трацкізма з грамавымі прамовамі, усяляк усхваляюць генеральную лінію партыі і ў той-жа час спатайка вядуць сваю падрыўную работу супроць партыі і дыктатуры пролетарыята. Распазнаць ворага—не лёгкая задача. Ні адзін мала спрактыкаваны і слаба загартаваны баец, слухаючы з вуснаў трацкісцкіх шкоднікаў дыфірамбы соцыялізму, пападаўся на іх вудачку, збіваўся, прымаў іх за адданых партыйцаў. Загартаваць маладых, яшчэ нявопытных у класавых бойках комуністаў, навучыць іх распазнаваць такіх ворагаў, павысіць іх рэволюцыйную пільнасць—галоўная задача партыйнай работы.

Неабходнасць самага хуткага вырашэння гэтай задачы выклікаецца паваротам у палітычным жыцці нашай краіны, які адбыўся ў сувязі з прыняццем Сталінскай Канстытуцыі, калі да актыўнага палітычнага жыцця далучаецца велізарная маса людзей. Комуністы павінны стаць на чале гэтага павароту.

> «У паваротныя моманты рэволюцыйнага руху,— гаворыць таварыш Сталін,—заўсёды высоўваецца адзін які-небудзь асноўны лозунг, як вузлавы, для таго, каб, ухапіўшыся за яго, выцягнуць праз яго ўвесь ланцуг. Ленін так вучыў нас: адшукайце асноўнае звяно ў ланцугу нашай работы, ухапіцеся за яго і выцягвайце яго для таго, каб праз яго выцягнуць увесь ланцуг і ісці наперад. Гісторыя рэволюцыйнага руху паказвае, што гэта тактыка з'яўляецца адзіна правільнай тактыкай.

У шахцінскі перыяд слабасць нашых людзей заключалася ў іх тэхнічнай адсталасці. Не палітычныя, а тэхнічныя пытанні з'яўляліся тады для нас слабым месцам. Што датычыць нашых палітычных адносін да тагочасных шкоднікаў, то яны былі зусім ясны, як адносіны большэвікоў да палітычна чуждых людзей. Гэту нашу тэхнічную слабасць мы ліквідавалі тым, што далі лозунг аб аўладанні тэхнікай і выхавалі за мінулы перыяд дзесяткі і сотні тысяч тэхнічна падкаваных большэвіцкіх кадраў. Іншая справа цяпер, калі мы маем ўжо тэхнічна падкаваныя большэвіцкія кадры і калі ў ролі шкоднікаў выступаюць не адкрыта чуждыя людзі, якія не маюць к таму-ж ніякіх тэхнічных пераваг у параўнанні з нашымі людзьмі, а людзі, якія маюць партыйны білет і карыстаюцца ўсімі правамі членаў партыі. Цяпер слабасць нашых людзей складае не тэхнічная адсталасць, а палітычная бяспечнасць, сляпое давер'е да людзей, выпадкова атрымаўшых партыйны білет, адсутнасць праверкі людзей не па іх палітычных дэкларацыях, а па рэзультатах іх работы. Цяпер вузлавым пытаннем для нас з'яўляецца не ліквідацыя тэхнічнай адсталасці нашых кадраў, бо яна ў асноўным ужо ліквідавана, а ліквідацыя палітычнай бяспечнасці і палітычнай даверлівасці да шкоднікаў, выпадкова атрымаўшых партыйны білет...

Вось чаму стары лозунг аб аўладанні тэхнікай неабходна цяпер дапоўніць новым лозунгам аб аўладанні большэвізмам, аб палітычным выхаванні кадраў і ліквідацыі нашай палітычнай бяспечнасці».

Задача пастаўлена зусім ясна. З выключнай яснасцю акрэслена галоўнае ў партыйна-масавай рабоце. Гэта—кадры, іх выхаванне, іх навучанне таму, як хутчэй распазнаваць ворага.

Асноўнае ў гэтай рабоце—барацьба «супроць палітычнай бесклапотнасці і палітычнай даверлівасці да шкоднікаў, выпадкова атрымаўшых партыйны білет». Выгнаць ворагаў з партыі, ачысціць яе ад трацкісцкай, бухарынскай і нацдэмаўскай гнілі немагчыма без самакрытыкі, без барацьбы за дакладнае захаванне прынцыпаў дэмакратычнага цэнтралізма, без уліку вопыту мас і прыцягнення іх да актыўнай барацьбы супроць ворага.

Аўладаць большэвізмам—гэта значыць, перш за ўсё, узняць рэволюцыйную пільнасць, навучыць кадры ўменню распазнаваць ворага, у якую-б тогу ён ні прыбіраўся.

Аўладаць большэвізмам—гэта значыць спалучаць гаспадарчыя поспехі з поспехамі партыйнага будаўніцтва і разгорнутай палітычнай работы нашай партыі.

У гэтым спалучэнні—аснова трываласці і непахіснасці пролетарскай дыктатуры, аснова правільнага кіраўніцтва соцыялістычнай дзяржавай рабочых і сялян.

Наш друк павінен адыграць велізарную ролю ў арганізацыі правільнага кіраўніцтва. Бязлітасна змагаючыся супроць бюракратычнага скажэння адзінаначалля, супроць нежадання прыслухоўвацца да голасу мас, улічваць іх вопыт, арганізуючы масавую і сістэматычную праверку выканання рашэнняў партыі і ўрада пры дапамозе мас, друк будзе садзейнічаць загартоўцы кадраў, выхаванню іх у духу большэвізма і дапамагаць партыйным арганізацыям дапаўняць вопыт кіраўніцтва вопытам мас.

У пачатку пасеўнай кампаніі многія партыйныя работнікі шарахнуліся ў бок, ухіліўшыся зусім ад пытанняў арганізацыі пасеўнай. ЦК КП(б)Б выправіў гэту памылку райкомаў. Аднак, яны, замест таго, каб пачаць прывучаць зямельныя органы да самастойнай работы, падбіраць для яе моцных бальшэвікоў, зноў пачалі падмяняць зямельныя органы.

Не скарыстаны для вытлумачэння гэтай справы і раённыя партыйныя канферэнцыі. Гэты промах трэба неадкладна выправіць. Газеты павінны дабівацца, каб райкомы правільна вырашалі праблему кіраўніцтва гаспадаркай. Газеты могуць адыграць у гэтай справе вялікую ролю, крытыкуючы тых гаспадарнікаў, якія па-дзяляцку кіруюць прадпрыемствамі, соўгасамі, МТС і т. п.

Агромную ролю ў аўладанні бальшэвізмам заклікана адыграць прапаганда вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Газеты павінны выступіць не толькі як арганізатары прапаганды марксізма-ленінізма, не толькі як крытыкі пастаноўкі справы прапаганды, але і як прапагандысты, даючы на сваіх старонках матэрыял для слухачоў школ і гурткоў.

Асабліва значную дапамогу газеты могуць аказаць у прапагандзе гісторыі партыі, адзначаючы даты жыцця партыі і важнейшых прац Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна, шляхам апублікавання ў друку гэтых прац, растлумачэння і папулярызацыі іх у спецыяльных артыкулах.

Адна з галоўных задач газеты заключаецца ў рашучым выкрыцці гнілых тэорый, якія дэмабілізуюць комуністаў у барацьбе з ворагам.

Таварыш Сталін звярачвае ўвагу партыі на шэсць такіх тэорый, як асабліва шкодных. Большасць іх прыгатавана ў бухарынскай лабараторыі, частка—у трацкісцкай, частка—у канцылярыях ведамстваў. Але ўсе яны ставяць аднолькавую мэту—аслабіць волю комуністаў і працоўных СССР да барацьбы з япона-нямецкімі трацкісцкімі шкоднікамі. Наш абавязак—бязлітасна выкарчоўваць іх, каб яшчэ хутчэй рухацца наперад па шляху к комунізму.

---

**В. Кнорын**

# Да пытання аб вывучэнні гісторыі ВКП(б)

Гісторыя ВКП(б) займае цэнтральнае месца ў нашай партыйнай прапагандзе. Велізарнае значэнне для нашых партыйных таварышоў мае засваенне палітычнага вопыту нашай партыі. Гэта прызнана ўсімі. Аднак рэзультаты шматгадовага вывучэння гісторыі партыі не могуць нас ні ў якой меры задаволіць: мы не здолелі да гэтага часу зрабіць прапаганду гісторыі ВКП(б) жывым памочнікам члену партыі ў справе вырашэння сучасных палітычных пытанняў, мы не здолелі арганізаваць прапаганду так, каб член партыі зразумеў і засвоіў гістарычныя ўрокі мінулага, а не паасобныя, хоць-бы і даволі яркія эпізоды і факты.

Нашы партыйныя таварышы вывучалі і вывучаюць у сучасны момант гісторыю ВКП(б) галоўным чынам па трох кнігах: Ем. Яраслаўскага—«Очерки по истории ВКП(б)», Н. Папова—«Очерк истории ВКП(б)» і па «Краткой истории ВКП(б)», складзенай брыгадай Гісторыка-партыйнага інстытута чырвонай прафесуры пад рэдакцыяй В. Кнорына. Ні адна з гэтых кніг не здавальняе тым патрабаванням, якія павінны быць прад'яўлены да падручніка па гісторыі ВКП(б). Падручнік з'яўляецца важнейшай прадпасылкай паспяховага вывучэння гісторыі партыі. Ён вызначае поспех прапаганды ў гуртках і школах. Без падручніка ні адна школа не можа працаваць паспяхова. Партыйныя гурткі павышанага тыпу вывучаюць гісторыю партыі толькі па творах Леніна і Сталіна. Аднак нават такім гурткам неабходны падручнік для азнаямлення з храналагічнай паслядоўнасцю гістарычных падзей, з агульнай палітычнай абстаноўкай, у якой дзейнічала партыя.

Таварыш Сталін у пісьме «Аб падручніку гісторыі ВКП(б)» указвае, што «нашы падручнікі па гісторыі ВКП(б) нездавальняючыя па трох галоўных прычынах. Нездавальняючыя або таму, што яны выкладаюць гісторыю ВКП(б) па-за сувяззю з гісторыяй краіны; або таму, што абмяжоўваюцца расказам, простым апісаннем падзей і фактаў барацьбы плыней, не даючы неабходнага марксісцкага тлумачэння; або таму, што хварэюць няправільнасцю канструкцыі, няправільнасцю перыядызацыі падзей».

Гэтыя буйныя недахопы падручнікаў па гісторыі ВКП(б) разам з тым характарызуюць недахопы ўсёй справы прапаганды гісторыі партыі ва ўсіх нашых школах і гуртках знізу даверху. Гэта недахопы праграм па гісторыі ВКП(б) для гурткоў і школ сеткі партыйнай асветы, а таксама ўсёй нашай літаратуры па пытаннях гісторыі партыі. За знішчэнне гэтых недахопаў неабходна ўзяцца з усёй сур'ёзнасцю.

* * *

Гісторыя ВКП(б) ёсць перш за ўсё гісторыя распаўсюджання марксізма ў Расіі, гісторыя развіцця тэорыі, стратэгіі і тактыкі марксізма-ленінізма, стварэння і развіцця на гэтай аснове рэвалюцыйнай арганізацыі пролетарыята, пачынаючы ад плеханаўскай групы «Вызваленне працы» да ўтварэння ў 1903 годзе марксісцкай, сацыял-дэмакратычнай партыі ў Расіі; ад утварэння групы большэвікоў унутры соцыял-дэмакратычнай партыі ў 1903 годзе да стварэння большэвікамі ў 1912 годзе самастойнай РСДРП і, далей, яна з'яўляецца гісторыяй кіраўніцтва большэвікоў барацьбою рабочага класа за перамогу другой рускай рэволюцыі ў лютым 1917 года, за перамогу Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі і заваёву дзяржаўнай улады пролетарыятам, за перамогу над іншаземнымі інтэрвентамі і рускай буржуазіяй у грамадзянскай вайне, за аднаўленне народнай гаспадаркі, індустрыялізацыю краіны, калектывізацыю сельскай гаспадаркі, за завяршэнне пабудовы соцыялізма і правядзенне новай Канстытуцыі.

Гэта вялікая эпапея барацьбы і перамог марксізма-ленінізма, барацьбы і перамог большэвіцкай партыі можа быць зразумела і ацэнена толькі на базе ведання фактаў і падзей усеагульнай гісторыі і гісторыі СССР.

Марксізм узнік на зары капіталістычнага развіцця як вывад з сусветнагістарычнага развіцця чалавечага грамадства, як рэзультат крытыкі капіталізма Марксам і Энгельсам, як абагульненне вопыту ўсяго міжнароднага рабочага руху. На аснове аналіза супярэчнасцей капіталістычнай сістэмы, на аснове вывучэння гісторыі змены соцыяльна-эканамічных фармацый і ўсёй гісторыі наогул Маркс і Энгельс даказалі магчымасць і немінучасць знішчэння капіталістычнага ладу. Маркс і Энгельс ужо ў «Комуністычным маніфесце» прызналі галоўнай задачай пролетарскага руху барацьбу за заваёву дзяржаўнай улады, як сродак соцыялістычнай перабудовы грамадства. Гэта быў вывад з гістарычнага вопыту ўсіх народаў, даказаўшага рашаючую ролю дзяржавы ва ўсіх грамадскіх ператварэннях, а таксама рашаючую ролю дзяржавы як арганізатара нацыянальнага і палітычнага адзінства, культурнага і эканамічнага будаўніцтва.

Сведчаннем выключнай стараннасці, з якою Маркс вывучаў гісторыю ўсіх краін і народаў, з'яўляюцца апублікаваныя ў нумары 24 «Большевика» за 1936 год «Храналагічныя выпіскі» Маркса.

Маркс і Энгельс на аснове вывучэння гісторыі ўсіх краін даказалі, што ва ўсіх краінах на змену прыгонніцкаму ладу прыходзіць капіталізм, які з'яўляецца, у параўнанні з прыгонніцтвам, крокам наперад у чалавечай гісторыі. Народнікі, пагарджаючы вопытам сусветнага развіцця, заяўлялі, што вучэнне Маркса і Энгельса непрыгодна для Расіі, бо Расія—самабытная краіна, з адметным ад іншых краін гаспадарчым ладам, і не пойдзе па таму шляху развіцця, па якому ідзе Заходняя Еўропа. Маркс і Энгельс даказалі, што зямельная абшчына раней існавала ва многіх краінах, а з развіццём культуры распалася і захавалася толькі ў адсталых краінах. Наперакор довадам Маркса, заснаваным на вывучэнні сусветнай гісторыі, народнікі сцвярджалі, што абшчына—гэта руская асаблівасць, што яе трэба захаваць ва што-б там ні стала. Што-ж атрымалася? Заснаванае на трывалым фундаменце гістарычнай навукі, на сусветным вопыце чалавечага грамадства, вучэнне Маркса і Энгельса перамагло, а народнікі, пагарджаўшыя гістарычным вопытам народаў, былі пасаромлены і разбіты.

На трывалай базе марксізма ў 1903 годзе была створана Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя. Марксізм атрымаў буйнейшую перамогу.

Але наша краіна была дробнабуржуазнай. Буржуазія, якая абуджалася да палітычнага жыцця, пачала фармуляваць сваю праграму, свае мэты, сваю тактыку. Буржуазныя погляды праз дробную буржуазію пранікалі ў асяроддзе пралетарыята. Няўстойлівыя слаі пралетарыята разам з дробнабуржуазнымі інтэлігентамі, якія перафарбаваліся пад марксістаў, складалі базу апартунізма. Для таго, каб дробнабуржуазная стыхія не затапіла пралетарскую марксісцкую партыю, неабходна была «арганізацыйная вузда». Такой «вуздою» з'яўляўся першы пункт статута партыі. Але мала таго: каб даць адпор дробнабуржуазнай стыхіі, якая спрабавала затапіць маладую партыю, большэвікі павінны былі арганізавацца ва фракцыю ўнутры партыі. Калі-б большэвікі гэтага не зрабілі, наша партыя загінула-б, ператварыўшыся ў прыдатак буржуазіі.

У першай рускай рэволюцыі паміж двума фракцыямі Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі ішла адкрытая барацьба па пытанню аб адносінах да буржуазіі. Самастойная класавая лінія пралетарыята або падпарадкаванне пралетарыята палітычнаму кіраўніцтву буржуазіі—такава была сутнасць рознагалоссяў паміж большэвікамі і меншавікамі ў перыяд барацьбы за буржуазна-дэмакратычную рэволюцыю ў Расіі.

Ад пралетарскіх рэволюцыянераў-большэвікоў патрабавалася выключнае веданне краіны, яе міжнароднага становішча, становішча і вопыту розных класаў, перспектыў эканамічнага развіцця, каб намеціць стратэгію і тактыку, заснаваную на навуцы і адпавядаючую рускай рэчаіснасці.

Ленін старанна вывучаў гісторыю Расіі, асабліва гісторыю развіцця капіталізма ў Расіі, становішча класаў рускага грамадства. Ён параўноўваў эканамічнае развіццё Расіі з развіццём іншых краін к моманту рэволюцыі ў іх, расстаноўку класавых сіл у першай рускай рэволюцыі, ва французскай буржуазнай рэволюцыі 1789—1793 гадоў і ў рэволюцыях 1848 года. Большэвіцкая тактыка была заснавана на трывалай базе ўліку вопыту сусветнай і рускай гісторыі. У гэтым была яе велізарная сіла. Гэта дало большэвікам упэўненасць у правасце сваёй барацьбы супроць шматлікіх ворагаў.

На трывалай, навуковай базе марксізма большэвікі стварылі свой стратэгічны план вызвалення рабочага класа і барацьбы за соцыялізм.

Гэты стратэгічны план дзеліцца на тры вялікія этапы.

Першы стратэгічны этап барацьбы нашай партыі—гэта барацьба за звяржэнне ўлады самадзяржаўя і класа памешчыкаў. Другі стратэгічны этап—гэта барацьба за звяржэнне ўлады буржуазіі і капіталізма. Трэці стратэгічны этап—гэта барацьба за пабудову соцыялізма ў нашай краіне і забеспячэнне сусветнай перамогі пралетарыята. На кожным з гэтых этапаў партыі прыходзілася высоўваць асобую стратэгію, прымяняць асобую тактыку.

Для таго каб зразумець стратэгію і тактыку большэвікоў на кожным з гэтых этапаў, неабходна ведаць палітычнае і эканамічнае становішча краіны ў той перыяд, яе міжнароднае становішча, становішча класаў, становішча і палітыку ўрада. Без ведання ўсяго гэтага гісторыя партыі, дзейнасць партыйных арганізацый, лозунгі партыі незразумелы.

Адарванае ад гісторыі краіны вывучэнне гісторыі партыі не можа даць яснага ўяўлення аб пабуджэннях, якімі кіравалася партыя, аб змесце і прычынах унутрыпартыйнай барацьбы і яе значэнні.

Узяць для прыкладу рознагалоссі паміж большэвікамі і меншавікамі ў перыяд руска-японскай вайны і першай рускай рэволюцыі. У чым тады была сутнасць рознагалоссяў?

Таварыш Сталін пісаў:

> «Як вядома, адна частка нашай партыі (меншавікі) трымаліся тады таго погляду, што асноўны напрамак руху пролетарыята ў яго барацьбе з царызмам павінен пайсці па лініі блока паміж пролетарыятам і ліберальнай буржуазіяй, пры чым сялянства, як важнейшы рэволюцыйны фактар, выключалася, або амаль выключалася, з плана, а ліберальнай буржуазіі прадастаўлялася кіруючая роля ў агульна-рэволюцыйным руху. Другая частка партыі (большэвікі), наадварот, сцвярджала, што асноўны ўдар павінен пайсці па лініі блока пролетарыята і сялянства, пры чым роля кіраўніка агульна-рэволюцыйнага руху павінна быць прадастаўлена пролетарыяту, а ліберальная буржуазія павінна быць нейтралізавана» [1]).

Барацьба паміж меншавікамі і большэвікамі была настолькі вострай і непрымірымай таму, што ад прыняцця таго ці іншага плана залежаў лёс рэволюцыі. Большэвікі дабіліся перамогі свайго плана.

Таварыш Сталін так характарызаваў план большэвікоў:

> «Мэта—зваліць царызм, ліквідаваць поўнасцю перажыткі сярэдневякоўя. Асноўная сіла рэволюцыі—пролетарыят. Бліжэйшы рэзерв—сялянства. Напрамак асноўнага ўдару: ізаляцыя ліберальна-манархічнай буржуазіі, якая стараецца аўладаць сялянствам і ліквідаваць рэволюцыю шляхам **пагаднення** з царызмам. План размяшчэння сіл: саюз рабочага класа з сялянствам» [2]).

Ці паказана ў дапаможніках па гісторыі ВКП(б) уся складаная абстаноўка ў нашай краіне, у якой складаліся план большэвікоў і план меншавікоў? Не, яна не паказана з дастатковай яснасцю. У «Краткой истории ВКП(б)» пад рэдакцыяй В. Кнорына даны толькі кароценькія ўказанні адносна рознагалоссяў у час земскай кампаніі і аб тактычных рознагалоссях пасля разгрому царскім урадам І дзяржаўнай думы, але больш ці менш яснага выкладання стратэгічнага плана партыі, выкладання сутнасці рознагалоссяў з меншавікамі не дана. У двухтомнай працы Н. Папова «Очерк истории ВКП(б)» няма нават указанняў на земскую кампанію восенню 1904 года, няма звестак аб барацьбе паміж меншавікамі і большэвікамі па гэтаму асноўнаму пытанню партыйнай стратэгіі ў 1906 годзе. У двухтомнай працы Ем. Яраслаўскага «Очерки по истории ВКП(б)» коратка выкладзена сутнасць земскай кампаніі, аднак уся абстаноўка, прывёўшая да буйнейшых рознагалоссяў у партыі, да расколу партыі, з дастатковай яснасцю не выкладзена.

У выніку гэтага ва ўсіх дапаможніках па гісторыі ВКП(б) абстрактна прыпаднесены палажэнні аб рухаючых сілах і т. п., якія прыхо-

---

[1]) І. Сталін. „Да пытання аб стратэгіі і тактыцы рускіх комуністаў". „Правда" ад 14 сакавіка 1923 года.

[2]) І. Сталін. „Пытанні ленінізма", стар. 51—52. 10 выд.

дзіцца завучваць, але якія не могуць навучыць члена партыі канкрэтнаму аналізу гістарычнай абстаноўкі і разуменню стратэгічных мэт і задач партыі.

Гэту цесную сувязь гісторыі краіны і гісторыі партыі, немагчымасць засваення гісторыі ВКП(б) без ведання гісторыі СССР у нас часта ўпускаюць з-пад увагі.

Нездавальняючыя рэзультаты вывучэння гісторыі ВКП(б) тлумачацца тым, што слухачы гурткоў партыйнай асветы недастаткова ведаюць грамадзянскую гісторыю СССР. У падручніках па гісторыі партыі мала што сказана аб грамадзянскай гісторыі, у праграмах няма ўказанняў аб неабходнасці папярэдняга яе вывучэння, прапагандыстам лекцый па грамадзянскай гісторыі не чытаюць.

Зусім ясна, што без ведання фактаў і падзей грамадзянскай гісторыі, без ведання пазіцый усіх класаў і партый у кожнай канкрэтнай гістарычнай сітуацыі незразумелымі застаюцца ўсе спрэчкі ўнутры партыі аб рухаючых сілах рэволюцыі, аб рэволюцыйным урадзе, незразумелы разыходжанні паміж меншавікамі і большэвікамі.

Указанне, зробленае ЦК ВКП(б) у пастановах «Аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час» і «Аб становішчы заняткаў у гуртках па гісторыі партыі завода імя Петроўскага (Днепрапетроўск)», многія зразумелі так, што для таго, каб пазбегнуць фармалізма і схаластыкі, трэба толькі даць больш папулярнае выкладанне, прыводзіць больш фактаў з гісторыі ўнутрыпартыйнай барацьбы, больш біяграфічных даных аб правадырах і дзеячах партыі і т. д. Сёй-той стаў узмоцнена «прыцягваць» да вывучэння гісторыі партыі мастацкую літаратуру, забываючы, што хоць мастацкая літаратура мае вялікае выхаваўчае значэнне, але яна ўсё-ж не гісторыя партыі. Усё гэта не магло яшчэ зрабіць курс гісторыі ВКП(б) больш зразумелым і павучальным.

Схаластыка і фармалізм у справе вывучэння гісторыі партыі, пануючыя ў гуртках і школах, з'яўляюцца вынікам галоўным чынам таго, што гісторыя партыі вывучаецца адарвана ад усеагульнай гісторыі, ад гісторыі СССР, што падзеі з гісторыі партыі не абгрунтоўваюцца ў выкладанні гістарычнай неабходнасцю. Фармалізм і схаластыка не могуць быць зжыты да таго часу, пакуль гісторыя партыі не будзе пастаўлена на трывалую базу ведання грамадзянскай гісторыі. Каб гісторыя партыі стала жывой, павучальнай, а не выглядала як лёгкі і незразумелы расказ аб справах мінулых, трэба даць слухачам асноўныя паняцці аб палітычным і эканамічным становішчы краіны. Таварыш Сталін прапануе аўтарам падручнікаў зрабіць гэта. Неабходна гэта рабіць кожнаму прапагандысту.

Без ведання гісторыі СССР не можа быць сур'ёзнага ведання гісторыі ВКП(б).

* * *

Наша партыя вырасла і ўзмацнела ў жорсткай барацьбе супроць рознага роду дробнабуржуазных плыней у рабочым класе і ў сваіх уласных радах.

Якія крыніцы параджалі гэта багацце плыней і фракцый?

Наша краіна позна ўступіла на шлях капіталістычнага развіцця. Перыяд аж да 1890 года быў перыядам барацьбы буйнакапіталістычнай фабрыкі з саматужнай прамысловасцю за пяршынства, за пануючае становішча. Толькі напярэдадні рэволюцыі 1905 года руская буржуазія ўзмацнела як клас. У нашай краіне побач з класамі капіта-

лістычнага грамадства—буржуазіяй і пролетарыятам—існавалі старыя класы феадальна-прыгонніцкага грамадства—памешчыкі і сялянства.

Пролетарыят складаў нязначную меншасць насельніцтва нашай краіны. У пачатку XX стагоддзя сярод 130-мільённага насельніцтва Расіі было толькі каля 2 мільёнаў рабочых; напярэдадні першай імперыялістычнай вайны—каля $2\frac{1}{2}$ мільёнаў; у 1925 годзе было ўсяго 3—4 мільёны рабочых. Пролетарыят у нашай краіне быў акружан дробнабуржуазным сялянскім морам. Тысяччу ніцей пролетарыята нашай краіны быў звязан са сваім дробнабуржуазным акружэннем. Сотні тысяч пролетарыяў жылі пастаянна ў вёсках. Сотні тысяч мелі сем'і ў вёсках, захоўвалі сваю вясковую гаспадарку. Як моцна была гэта сувязь шырокіх слаёў рабочых з вёскай, паказвае хоць-бы тое, што ў час грамадзянскай вайны сотні тысяч прамысловых рабочых Петраграда і Масквы перасяліліся ў вёску.

Калі гавораць аб дробнабуржуазным характары нашай краіны, то часта забываюць, што яна была дробнабуржуазнай не толькі да Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, але аж да перамогі калектывізацыі, што яшчэ дзесятак год назад існавала каля 25 мільёнаў індывідуальных сялянскіх гаспадарак, што яшчэ 10—15 год назад большая частка гандлю знаходзілася ў руках буржуазіі і дробнай буржуазіі. Забываюць таксама, што дробнабуржуазныя звычкі жывуць і сёння, што гэтыя звычкі і навыкі не могуць быць зжыты за 2—3 гады.

Усяго дзесятак год таму назад у нашай краіне было больш глебы для капіталізма чым для соцыялізма. Толькі за апошняе дзесяцігоддзе змянілася гэта становішча.

Дробнабуржуазным характарам нашай краіны тлумачыцца наяўнасць мноства палітычных плыней у рабочым класе. Меншавікі, эсеры, анархісты, шматлікія нацыянальныя партыі—усе яны спрабавалі пранікнуць у рабочы клас і часамі карысталіся значным уплывам. Умовы рускага царызма не давалі магчымасці большэвікам да канца разграміць ідэалогію гэтых груп і плыней, якія праводзілі дробнабуржуазны і буржуазны ўплыў на рабочы клас. Часта забываюць, што яшчэ доўга пасля Кастрычніка меншавікі карысталіся ўплывам у некаторых праслойках рабочых і толькі ў 1924 годзе адбываліся канферэнцыі былых меншавікоў, якія адыходзілі ад меншавізма, што «Бунд» як масавая арганізацыя быў ліквідован толькі ў 1920 годзе, што анархісты таксама карысталіся ўплывам пасля Кастрычніцкай рэволюцыі і супроць іх прышлося весці ўпартую ідэйную і ваенную барацьбу.

Якую ролю адыгрывалі нядаўнія выхадцы з непролетарскіх слаёў у палітычным жыцці рабочага класа нашай краіны, паказвае, напрыклад, перыяд лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі. Асноўныя кадры пролетарыята былі мабілізаваны на фронт. На заводы пашлі новыя людзі з дробнай буржуазіі, з вёскі. Гэта дробнабуржуазная стыхія захліснула рабочы клас. Большэвікі, якія ў 1912—1914 гадах адыгрывалі рашаючую ролю ў пецербургскім рабочым руху, аказаліся адкінутымі назад. Петраградскім советам рабочых дэпутатаў у сакавіку 1917 года заўладалі меншавікі.

У канцы грамадзянскай вайны шматлікія мабілізацыі на фронт таксама аслабілі рабочы клас. Дробнабуржуазныя элементы ў пачатку аднаўленчага перыяду хлынулі на фабрыкі. Іх уплыў прывёў да раду хістанняў у рабочым асяроддзі і стварыў некаторую базу для трацкістаў. Быстры рост рабочага класа за лік прытоку ў яго асяроддзе

дробнабуржуазных элементаў ствараў на працягу доўгага часу базу для апартунізма.

Калі-б наша развіццё к соцыялізму адбывалася без цяжкасцей, без барацьбы, тады, відаць, уплыў буржуазнай ідэалогіі, буржуазіі быў-бы меншы. Але ў сваёй барацьбе нам прышлося сутыкнуцца з многімі цяжкасцямі, прычым дробнабуржуазная стыхія шалёна супраціўлялася мерапрыемствам дыктатуры пролетарыята. Успомніць хоць-бы Брэсцкі мір! Уся буржуазія лемантавала, што большэвікі—здраднікі, што большэвікі ідуць на пахабны мір. Буржуазны лямант знайшоў водгук у дробнабуржуазным асяроддзі. Кадэтам уторылі правыя і левыя эсеры, меншавікі. У партыі знайшлася тады група людзей на чале з Бухарыным, якая пачала прапагандаваць гэтыя буржуазныя погляды пад сцягам «левага комунізма».

Супраціўленне гарадской дробнай буржуазіі знайшло своеасаблівае адлюстраванне ў «левай» фразе трацкістаў і зіноўеўцаў. Супраціўленне кулака індустрыялізацыі краіны, яшчэ да калектывізацыі, знайшло адлюстраванне ў выступленнях бухарынска-рыкаўскай групы.

І гэта не дзіўна.

> «Нельга лічыць,—гаварыў таварыш Сталін на VII пашыраным Пленуме ВККІ,—што пролетарыят з'яўляецца зусім ізаляваным ад грамадства, што ён стаіць па-за грамадствам. Пролетарыят з'яўляецца часткай грамадства, звязанай з яго рознастайнымі слаямі шматлікімі ніцямі. Але партыя ёсць частка пролетарыята. Таму і партыя не можа быць свабоднай ад сувязей і ўплыву рознастайных слаёў буржуазнага грамадства. Даўленне буржуазіі і яе ідэалогіі на пролетарыят і яго партыю выражаецца ў тым, што буржуазныя ідэі, норавы, звычаі, настроі нярэдка пранікаюць у пролетарыят і яго партыю праз вядомыя слаі пролетарыята, так ці інакш звязаныя з буржуазным грамадствам».

Таварыш Сталін яшчэ ў студзені 1924 года заявіў у палеміцы супроць Троцкага, які сцвярджаў, што групіроўкі ў партыі ўзнікаюць з-за бюракратычнага рэжыму Цэнтральнага камітэта і што, моў, калі-б у нас не было бюракратычнага рэжыму, то не было-б і групіровак:

> «Гэта немарксісцкі падыход, таварышы. Групіроўкі ў нас узнікаюць і будуць узнікаць таму, што мы маем у краіне наяўнасць самых рознастайных форм гаспадаркі—ад зародкавых форм соцыялізма да сярэдневякоўя. Гэта, па-першае. Затым мы маем нэп, г. зн. дапусцілі капіталізм, адраджэнне прыватнага капіталізма, і адраджэнне адпаведных ідэй, якія пранікаюць у партыю. Гэта, па-другое. І, па-трэцяе, таму, што партыя ў нас трохскладаная: ёсць рабочыя, ёсць сяляне, ёсць інтэлігенты ў партыі. Вось прычыны, калі падыйсці да пытання па-марксісцку, прычыны, выцягваючыя з нетраў партыі цэлыя элементы для стварэння групіровак, якія мы павінны часам хірургічнымі мерамі абразаць, а часам у парадку дыскусіі рассасваць іх ідэйным шляхам. Тут не ў рэжыме справа. Калі-б у нас быў максімальна свабодны рэжым, то групировак было-б значна больш»[1]).

У 1926 годзе ў дакладзе на VII пашыраным Пленуме ВККІ «Яшчэ раз аб соцыял-дэмакратычным ухіле ў нашай партыі» таварыш Сталін

1) XIII канферэнцыя РКП(б). Бюлетэнь, стар. 100.

паказаў, што пролетарыят неаднародны, што ў ім ёсць слаі больш устойлівыя і слаі менш устойлівыя супроць буржуазных уплываў.

> «Я думаю,—гаварыў ён,—што пролетарыят, як клас, можна было-б раздзяляць на тры слаі.
>
> Адзін слой, гэта—асноўная маса пролетарыята, яго ядро, яго пастаянная частка, гэта—тая маса «чыстакроўных» пролетарыяў, якая даўно ўжо парвала сувязі з класам капіталістаў. Гэты слой пролетарыята з'яўляецца найбольш надзейнай апорай марксізма.
>
> Другі слой, гэта—нядаўнія выхадцы з непролетарскіх класаў, з сялянства, з мяшчанскіх радоў, з інтэлігенцыі. Гэта—выхадцы з іншых класаў, якія нядаўна толькі ўліліся ў склад пролетарыята і ўнеслі ў рабочы клас свае навыкі, свае звычкі, свае хістанні. Гэты слой прадстаўляе найбольш спрыячую глебу для ўсякіх анархісцкіх, поўанархісцкіх і «ультра-левых» групіровак.
>
> Нарэшце, трэці слой,—гэта рабочая арыстакратыя, верхавінка рабочага класа, найбольш забяспечаная частка пролетарыята з яе імкненнем да кампрамісаў з буржуазіяй, з яе пераважным настроем прыспасаблення да моцных свету, з яе настроем «выйсці ў людзі». Гэты слой прадстаўляе найбольш спрыяючую глебу для адкрытых рэфармістаў і апартуністаў».

Далей, таварыш Сталін гаварыў:

> «Натуральна, што пры кожным павароце ў развіцці класавай барацьбы, пры кожным абвастрэнні барацьбы і ўзмацненні цяжкасцей розніца ў поглядах, у навыках і ў настроях розных слаёў пролетарыята павінна немінуча сказацца ў выглядзе пэўных рознагалоссяў у партыі, а даўленне буржуазіі і яе ідэалогіі немінуча павінна абвастрыць гэтыя рознагалоссі, даўшы ім выхад у выглядзе барацьбы ўнутры пролетарскай партыі».

Таварыш Сталін, указваючы на наяўнасць розных класаў у краіне, розных груп у рабочым класе, даў, так сказаць, «алгебру» прычын з'яўлення антыпартыйных плыней.

Задача гісторыкаў партыі павінна была заключацца ў тым, каб зразумець гэту «алгебру», правільна прымяніць ленінскія, сталінскія палажэнні да тлумачэння кожнага паасобнага гістарычнага факта. Але нашы гісторыкі партыі гэтай задачы не рашылі. Яны абмежаваліся апісаннем барацьбы ўнутры партыі, не даючы фактам марксісцкага тлумачэння або даючы зусім недастатковае тлумачэнне. З'яўленне той ці іншай апартуністычнай групы і плыні ўнутры партыі заставалася навукова не вытлумачаным.

Тое, што ўнутрыпартыйная барацьба ёсць працяг класавай барацьбы ў краіне, што за кожным выступленнем антыпролетарскіх і антыпартыйных плыней стаяць зусім канкрэтныя соцыяльныя сілы ў краіне, упускалася з-пад увагі або выкладалася ў недастатковай меры. Зразумела, што такое выкладанне ўнутрыпартыйнай барацьбы нельга лічыць навуковым, марксісцкім. Зразумела, што пры такім выкладанні гісторыя партыі ператвараецца ў расказы дзядулі для ўнукаў, а не ў навуковую, марксісцкую гісторыю партыі.

Гэты буйнейшы недахоп у выкладанні гісторыі нашай партыі лье ваду на млын нашых ворагаў, якія спрабавалі даказаць, што ўнутрыпартыйная барацьба выклікаецца няўжыўчывым характарам правадыроў партыі, адсутнасцю ўнутрыпартыйнай свабоды і т. д. Вядома, напрыклад, што меншавікі Мартаў, Аксельрод, Плеханаў і іншыя ў

1903—1904 гадах многа паперы спісалі, даказваючы, што Ленін няўжыўчывы, што ён дыктатар, Банапарт і так далей, што з ім працаваць нельга. Вядома, што трацкісты, зіноўеўцы, бухарынцы з падобнай «аргументацыяй» выступалі супроць таварыша Сталіна. Толькі нядаўна стала вядома, што Бухарын у сваёй «школцы» тлумачыў барацьбу партыі з адзавістамі, з Багданавым не ўсім вядомым разрывам Багданава з марксізмам, а тым, што нібы Ленін «не мог ужыцца» з Багданавым, не мог «падзяліць» з ім кіраўніцтва партыяй.

Размовы аб «няўжыўчывасці» таго ці іншага кіраўніка партыі патрэбны былі апартуністам для таго, каб прыкрыць класавую, соцыяльную прыроду сваіх антыпартыйных спраў. Большэвікі заўсёды давалі адпор гэтым немарксісцкім поглядам і дэмагагічным заявам, ускрываючы класавую прыроду апартуністычных груп.

І яшчэ адна крыніца, якая гальванізуе правадыроў разгромленых апартуністычных плыней, ператварае іх пасля разгрому іх масавай базы ў самых подлых дыверсантаў, шпіёнаў, шкоднікаў,—гэта капіталістычнае акружэнне нашай краіны. Класавая барацьба не скончана, бо яна не канчаецца ў адной нашай краіне, а мае працяг заграніцай. Фашысцкія дзяржавы падтрымліваюць і засылаюць да нас у тылы сваіх агентаў. І яшчэ доўга пасля таго, калі глеба для розных плыней у рабочым класе знікне, неабходна будзе весці барацьбу супроць спроб ворагаў пранікнуць у рады нашай партыі. Гэта ўжо барацьба не ідэйная, бо нашы ворагі страцілі ўсякую ідэйнасць—гэта барацьба за знішчэнне ўсіх ворагаў соцыялізма, усіх ворагаў новага грамадскага ладу ў нашай краіне.

* * *

Барацьба большэвікоў з антыбольшэвіцкімі плынямі і фракцыямі, якія вырастаюць з наяўнасці некалькіх класаў і розных праслоек у гэтых класах, з дробнабуржуазнага характару нашай краіны, была прынцыповай барацьбой за ленінізм. Яна была такою жорсткай таму, што прынцыповыя рознагалоссі немінучы ва ўмовах капіталізма і наогул ва ўмовах наяўнасці антаганістычных класаў і могуць быць вырашаны толькі шляхам унутрыпартыйнай барацьбы. Без прынцыповай барацьбы з антыленінскімі плынямі і групамі, без іх перамогі наша партыя немінуча перарадзілася-б, як перарадзіліся соцыял-дэмакратычныя партыі II інтэрнацыянала, якія не прымалі такой барацьбы.

Гэтыя палажэнні таварыш Сталін выказваў неаднаразова. У найбольш поўнай форме ён выказаў іх на VII пашыраным Пленуме ВККІ у снежні 1926 года. На гэтым Пленуме, у звязку з пытаннем аб барацьбе ўнутры нашай партыі, таварыш Сталін указаў, што гісторыя нашай партыі ёсць гісторыя барацьбы супярэчнасцей унутры партыі, гісторыя перамогі гэтых супярэчнасцей і паступовага ўмацавання нашай партыі на аснове перамогі гэтых супярэчнасцей. Адводзячы вядомы «довад», што рускія людзі «занадта драчлівы» і што мноства дыскусій і рознагалоссяў выцякае з нацыянальнай прыроды рускіх людзей, таварыш Сталін гаварыў:

> «Справа тут не ў драчлівасці. Справа тут у наяўнасці прынцыповых рознагалоссяў, узнікаючых у ходзе развіцця партыі, у ходзе барацьбы пролетарыята. Справа тут у тым, што супярэчнасці можна перамагчы толькі шляхам барацьбы за тыя ці іншыя прынцыпы, за тыя ці іншыя мэты ба-

рацьбы, за тыя ці іншыя метады барацьбы, якая вядзе да мэты. Можна і трэбаісці на ўсякія пагадненні з інакшмыслячымі ўнутры партыі па пытаннях бягучай палітыкі, па пытаннях чыста практычнага характару. Але калі пытанні гэтыя звязаны з прынцыповымі рознагалоссямі, то ніякае пагадненне, ніякая «сярэдняя» лінія не можа выратаваць справу. Няма і не можа быць «сярэдняй» лініі ў пытаннях прынцыповага характару. Або адны, або другія прынцыпы павінны быць пакладзены ў аснову работы партыі. «Сярэдняя» лінія па пытаннях прынцыповых ёсць «лінія» засмечвання галоў, «лінія» затушоўвання рознагалоссяў, «лінія» ідэйнага перараджэння партыі, «лінія» ідэйнай смерці партыі».

Па лініі затушоўвання рознагалоссяў і супярэчнасцей, па лініі перараджэння ішлі на працягу многіх год партыі II інтэрнацыянала. Ва ўсіх партыях II інтэрнацыянала час ад часу ўзнікалі рознагалоссі паміж марксістамі і апартуністамі. Аднак марксісты з II інтэрнацыянала ўсяляк спрабавалі скрыць рознагалоссі ў соцыял-дэмакратычных партыях, затушаваць гэтыя рознагалоссі. Паколькі існуючыя рознагалоссі не атрымлівалі вырашэння, апартунізму не давалі адпору, канферэнцыі і з'езды ператвараліся ў пусты маскарад параднай удачлівасці, і апартуністы мелі магчымасць усё больш і больш умацоўвацца. Члены партыі прывучаліся цярпліва адносіцца да ўсіх і ўсялякіх ухілаў. Ідэйны ўзровень партый увесь час зніжаўся. Марксісцкія кіраўнікі (Бебель, Гед і іншыя) усё больш спаўзалі са сваіх марксісцкіх пазіцый. Партыі аказаліся ва ўладзе апартуністаў. II інтэрнацыянал перарадзіўся. Лінія прымірэнцтва да апартуністаў, замазвання рознагалоссяў прывяла да перараджэння партый II інтэрнацыянала.

Па другой лініі ішло развіццё ў РСДРП, дзе Ленін і Сталін вялі нястомную барацьбу супроць усякіх адхіленняў, за прынцыповую яснасць і бальшэвіцкую непрымірымасць. Ленін і Сталін працягвалі рэвалюцыйную традыцыю Маркса і Энгельса, якія, кіруючы пралетарскімі партыямі на Захадзе, выхоўвалі гэтыя партыі ў прынцыповай непрымірымасці да апартунізма.

Энгельс у 1882 годзе пісаў Бернштэйну, які тады быў яшчэ рэвалюцыйным марксістам:

«Як відаць, **усякая** рабочая партыя вялікай краіны можа развівацца толькі ва ўнутранай барацьбе, у поўнай адпаведнасці з законамі дыялектычнага развіцця. Германская партыя стала тым, што яна ёсць, у барацьбе эйзенахцаў і ласальянцаў, дзе самае трэнне адыгрывала галоўную ролю. Адзінства стала магчыма толькі тады, калі наўмысна ўзгадаваны Ласалем у якасці сродку зброд знасіўся, і тут гэта адбылося з нашага боку з занадта вялікай паспешнасцю. Ва Францыі людзі, якія, хоць і афяравалі бакуніскімі тэорыямі, але працягваюць дзейнічаць бакуніскімі метадамі барацьбы і разам з тым хочуць прынесці ў афяру сваім соцыяльным мэтам класавы характар руху, таксама павінны спачатку знасіцца, перш чым зноў стане магчыма адзінства. Жадаць прапаведваць адзінства пры такіх умовах было-б чысцейшым глупствам. Маральнымі пропаведзямі нельга папярэдзіць дзіцячых хвароб, якімі пры сучасных умовах трэба перахварэць»[1]).

1) Архіў К. Маркса і Ф. Энгельса. Кн. 1-я, стар. 324—325. Гіз. 1924.

Большэвіцкая партыя ў сваёй практыцы няўхільна следавала гэтай прынцыповай лініі, атрыманай у спадчыну яе кіраўнікамі ад Маркса і Энгельса. Наша партыя змагалася не гледзячы на асобы супроць усякага апартунізма і працягвання буржуазных уплываў у сваё асяроддзе. Неаднаразова яна адмятала раней буйных кіраўнікоў, якія сышлі з ленінскіх пазіцый. Партыя ад гэтага не толькі не аслабявала, але расла і мацнела. Неаднаразова Ленін заставаўся ў меншасці, нават у адзіноцтве супроць блока апартуністаў (напрыклад на студзеньскім пленуме ў 1910 годзе), аднак большэвіцкіх прынцыпаў Ленін нікому не ўступаў.

Хіба падлягае сумненню вялікая роля Плеханава ў зараджэнні расійскай соцыял-дэмакратыі і яго велізарны аўтарытэт сярод рускіх марксістаў у пачатку дзевяцісотых гадоў? Хіба можна сумнявацца ў тым, што ў дзевяностых гадах XIX стагоддзя і ў пачатку дзевяцісотых гадоў, нават у 1905 годзе, калі Ленін угаварваў Плеханава прыехаць у Расію, Ленін высока ставіў Плеханава як тэарэтыка і прапагандыста марксізма ў Расіі? Але калі ў лістападзе 1903 года Плеханаў пашоў на ўступкі апартуністам, заявіўшы, што трэба пайсці на маленькі апартунізм, каб пазбегнуць расколу (да рэчы, толькі яшчэ ў эміграцкім асяроддзі), што калі дома ёсць сварлівая жонка, то лепш уступіць ёй, каб пазбегнуць непрыемнасцей, калі Плеханаў гэтымі мяшчанскімі меркаваннямі стаў тлумачыць сваё зблiжэнне з меншавікамі, Ленін выступіў супроць яго.

Партыя ў той час рабіла пераход ад падрыхтоўкі барацьбы з царызмам да адкрытай барацьбы за поўны разгром царызма і феадалізма. Партыя павінна была зрабіць паварот ад згоды з лібераламі да смяротнай барацьбы з буржуазіяй. На гэтым павароце, гаварыў таварыш Сталін на XV з'ездзе ВКП(б), з шасцёркі, якая стаяла на чале партыі (Плеханаў, Засуліч, Мартаў, Ленін, Аксельрод, Патрэсаў), пяцёра «выпалі з цялежкі». Ленін застаўся адзіным. Але партыя, не гледзячы на тое, што страціла пяць старых лідэраў, выбралася на дарогу.

Пры новым павароце—ад адкрытай рэволюцыйнай барацьбы з царызмам да работы ва ўмовах сталыпінскай рэакцыі—рад старых большэвікоў адышоў ад большэвізма, пакінуў Леніна і партыю. Ад партыі адышоў Багданаў, які да таго часу быў адным з буйных лідэраў партыі, адышлі Ражкоў, былы член ЦК, Луначарскі і многія іншыя. Людзі тыпу Зіноўева і Каменева занялі прымірэнчую пазіцыю ў адносінах да апартуністаў і якшаліся з Троцкім. Ленін пайшоў супроць іх. Меншавікі крычалі тады аб пагібелі большэвізма. Але большэвікі аказаліся пераможцамі.

У совецкі перыяд, у перыяд барацьбы за індустрыялізацыю краіны, паўсталі адзін за другім супроць ленінскай лініі партыі Троцкі, Зіноўеў, Бухарын і іншыя. Таварыш Сталін, абараняючы прынцыповую лінію ленінізма, павёў барацьбу супроць іх; партыя пашла за Сталіным, абараняючы ленінскую лінію. Таварыш Сталін, узначальваючы нашу партыю, прывёў СССР да канчатковага трыумфу соцыялізма. Хіба ў 1925—1927 гадах не раздаваўся лямант аб тым, што большэвікі загінуць ад унутрыпартыйных рознагалоссяў? Але аказалася, што большэвікі, перамогшы шляхам барацьбы прынцыповыя рознагалоссі, узмацнелі і выраслі.

Таварыш Сталін на XV з'ездзе партыі гаварыў:

«Наша партыя ёсць жывы арганізм. Як і ва ўсякім арганізме, у ёй адбываецца абмен матэрый: старое, аджываючае,—выпадае,

новае, растучае,—жыве і развіваецца. Адыходзяць адны, і ўверсе і ўнізе. Растуць новыя, і ўверсе і ўнізе, ведучы справу наперад. Так расла наша партыя. Так будзе яна расці і ў далейшым».

Таварыш Сталін патрабуе ад нашых партыйных прапагандыстаў, ад гісторыкаў не толькі выкладаць у тоне простага расказу факты жорсткай барацьбы плыняй і фракцый у партыі, але і даць марксісцкае тлумачэнне гэтым фактам. Без марксісцкага тлумачэння фактаў унутрыпартыйнай барацьбы не можа быць сапраўды навуковай гісторыі нашай партыі.

* * *

Важнейшае значэнне для гісторыкаў, для ўсіх прапагандыстаў мае перыядызацыя гісторыі партыі, прапанаваная таварышом Сталіным і зацверджаная ЦК ВКП(б). Правільная, навукова абгрунтаваная перыядызацыя падзей—важнейшая справа. Без такой перыядызацыі падзей нельга гэтыя падзеі растлумачыць. Грубейшым упушчэннем нашых гісторыкаў з'яўляецца тое, што яны не здолелі распрацаваць навуковай, марксісцкай перыядызацыі гісторыі нашай партыі.

Тав. Папоў дзеліць свой «Очерк истории ВКП(б)» на 16 глаў, на 16 гістарычных перыядаў. Ем. Яраслаўскі свой «Очерк истории ВКП(б)» дзеліць больш чым на 20 глаў, якія павінны адпавядаць перыядам ў жыцці партыі. «Краткая история ВКП(б)» пад рэдакцыяй В. Кнорына дзеліцца на 16 перыядаў. Праграма па гісторыі ВКП(б) для гурткоў, якія працуюць па падручніку, дзеліць гісторыю партыі на 15 перыядаў, а праграма для гурткоў па гісторыі ВКП(б) павышанага тыпу дзеліць гісторыю ВКП(б) на 12 перыядаў. Ні ў адным з гэтых выпадкаў перыядызацыя не мае якіх-небудзь навуковых абгрунтаванняў у эканамічным або палітычным развіцці краіны.

Прывядзем некалькі прыкладаў. Ем. Яраслаўскі ў 3-м выданні свайго падручніка назваў першую главу «Кароткі агляд рэволюцыйнага руху XIX века да ўзнікнення першых марксісцкіх арганізацый». Аднак перыяд, які яна ахапляе, мае мала адносін да гісторыі марксізма ў Расіі і яшчэ менш—да гісторыі большэвізма. У «Краткой истории ВКП(б)» пад рэдакцыяй В. Кнорына першая глава называецца «рэволюцыйны рух у Расіі да ўзнікнення большэвізма» і ахапляе перыяд выключна да прыезду Леніна ў Пецербург. Хоць афармленне большэвізма як палітычнай плыні правільна аднесена да 1903 года, але зусім няправільна зараджэнне большэвізма адносіцца да дзевяностых гадоў. Ва ўсіх падручніках ідзе гутарка аб зараджэнні большэвізма там, дзе павінна ісці гутарка аб барацьбе за стварэнне марксісцкай соцыялдэмакратычнай партыі, якая пачалася са з'яўлення плеханаўскай групы «Вызваленне працы». Ва ўсіх падручніках занадта мала значэння надаецца групе «Вызваленне працы» і звычайна пераацэньваецца значэнне I з'езда РСДРП, які ўсё-ж партыі не стварыў.

Буйнейшае значэнне мае тое, як сфармуляваў таварыш Сталін назвы II, III, IV перыядаў у гісторыі партыі: II. Утварэнне Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі і з'яўленне ўнутры партыі фракцый большэвікоў і меншавікоў (1901—1904 гг.). III. Меншавікі і большэвікі ў перыяд руска-японскай вайны і першай рускай рэволюцыі (1904—1907 гг.). IV. Меншавікі і большэвікі ў перыяд сталыпінскай рэакцыі і афармленне большэвікоў у самастойную соцыял-дэмакратычную рабочую партыю (1908—1912 гг.). Тут дакладна ўказваецца,

што РСДРП як марксісцкая партыя была створана ў 1903 годзе, што на працягу 9 год ішла барацьба паміж меншавікамі і большэвікамі, і большэвікі стварылі самастойную РСДРП у 1912 годзе. Перыяд 1903—1912 гадоў, значыць, з'яўляецца перыядам, калі большэвікі і меншавікі фармальна знаходзіліся ў адной партыі, за выключэннем кароткатэрміновага этапа пасля III з'езда РСДРП.

Перыяд ўздыму рабочага руху перад першай імперыялістычнай вайной у існуючых падручніках гісторыі ВКП(б) звычайна пачынаецца з 1910 года. Гэта дата ўзята на аснове таго, што ў канцы 1909 года пачала выходзіць «Звезда» (перыяд «Звезды» і «Правды») і ў 1910 годзе пачалося некаторае ўзмацненне стачачнага руху. Размеры гэтага ўздыму звычайна перапавялічваюцца. Пачаткам гэтага перыяду ў рэчаіснасці з'яўляецца 1912 год. Буйнейшай адзнакаю ўздыму служаць палітычныя стачкі пасля ленскіх падзей. Унутры партыі новы струмень уносіцца рашэннямі Пражскай канферэнцыі, «Праўдой», а потым выбарамі ў IV дзяржаўную думу. Таму фармуляваная таварышом Сталіным назва і час гэтага перыяду—«Партыя большэвікоў у гады ўздыму рабочага руху перад першай імперыялістычнай вайной» (1912—1914 гг.)—з'яўляецца адзіна навуковай і правільнай.

Ва ўсіх існуючых падручніках гісторыі партыі перыяд падрыхтоўкі і правядзення Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі пачынаецца з другой лютаўскай рускай рэволюцыі—прыкладна з 23—24 лютага 1917 года. Вядома, што ў гэты час перад нашай партыяй яшчэ не стаяла задача падрыхтоўкі соцыялістычнай Кастрычніцкай рэволюцыі, а стаяла задача правядзення лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі. Да падрыхтоўкі соцыялістычнай рэволюцыі наша партыя прыступіла па прыездзе ў Расію Леніна, пасля апублікавання яго «Красавіцкіх тэзісаў», пасля прыняцця іх VII партыйнай канферэнцыяй. Другая руская лютаўская рэволюцыя з'явілася ў значнай меры вынікам патрасенняў капіталістычнай сістэмы ў час першай імперыялістычнай вайны. У лютаўскай рэволюцыі ажыццявілася на справе ператварэнне імперыялістычнай вайны ў грамадзянскую. Барацьба за перамогу лютаўскай, другой рускай рэволюцыі і прамая падрыхтоўка гэтай рэволюцыі пачаліся ні ў якім разе не 23 лютага, а значна раней, у час імперыялістычнай вайны. Значыць, зусім ненавукова адрываць лютаўскую рэволюцыю ад перыяда вайны і далучыць яе да перыяда падрыхтоўкі Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Перыяд імперыялістычнай вайны і другой рускай, лютаўскай рэволюцыі (1914 год—люты—сакавік 1917 года), як указвае таварыш Сталін, ёсць адзін перыяд.

Ва ўсіх існуючых падручніках гісторыі партыі перыяд падрыхтоўкі і правядзення Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі заканчваецца 25—26 кастрычніка 1917 года. Але ў гэтыя дні была атрымана перамога толькі ў Петраградзе: рэволюцыя перамагла ў правінцыі пазней (трыумфальнае шэствіе совецкай улады). Асноўныя лозунгі рэволюцыі (выхад з вайны, пераход зямлі да сялян, увядзенне рабочага кантролю над вытворчасцю) былі ажыццёўлены толькі на працягу бліжэйшага поўгоддзя. Значыць, перыяд падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі нельга заканчваць 25 кастрычніка: ён цягнецца з красавіка 1917 года па 1918 год.

Некаторае рознагалоссе існуе ў падручніках і па пытанню аб перыядзе грамадзянскай вайны. Так, Н. Папоў датуе перыяд грамадзянскай вайны з пачатку 1919 года, без якіх-небудзь падстаў выдзяляючы

асобы перыяд Брэста і яго ліквідацыі. Перыяд грамадзянскай вайны трэба датаваць з першай паловы 1918 года па канец 1920 года.

Ва ўсіх падручніках гісторыі ВКП(б) уведзена асобая глава—«Партыя пры пераходзе к нэпу». За ёю ідзе глава «Партыя ў аднаўленчы перыяд», прычым аднаўленчы перыяд, згодна падручнікам, заканчваецца ўжо да XIV партыйнай канферэнцыі, у той час як аднаўленне народнай гаспадаркі працягвалася яшчэ да XIV з'езда партыі. Ясна, што такое дзяленне не мае навуковага абгрунтавання і павінна быць адменена. Нельга чапляцца за тое, што XIV з'езд—гэта з'езд індустрыялізацыі. Перыядызацыю гісторыі партыі нельга будаваць ад з'езда да з'езда. Перыяд пераходу на мірную работу па аднаўленню народнай гаспадаркі неабходна датаваць з пачатку 1921 года да канца 1925 года. Гэта дасць магчымасць прапагандысту найлепшым чынам паказаць вялікае значэнне першага перыяда нэпа.

Перыяд XIV канферэнцыі і XIV з'езда ВКП(б) ва ўсіх падручніках уключан у рэканструкцыйны перыяд або называецца пераходам да рэканструкцыйнага перыяда. Увесь наступны, больш чым дзесяцігадовы этап развіцця партыі ва ўсіх падручніках імянуецца рэканструкцыйным перыядам або дзеліцца па пяцігодках. Аднак больш уважлівы аналіз паказвае, што на працягу гэтага дзесяцігоддзя партыя змагалася пад рознымі лозунгамі, паступова пераходзячы ад рашэння адной задачы да рашэння другой.

У перыяд XIV канферэнцыі і XIV з'езда ВКП(б) партыя жыла яшчэ інтарэсамі аднаўлення народнай гаспадаркі. Яна толькі падрыхтоўвалася да барацьбы за індустрыялізацыю.

Толькі ў пачатку 1926 года партыя перайшла непасрэдна да індустрыялізацыі. У красавіку 1926 года таварыш Сталін у дакладзе актыву Ленінградскай арганізацыі гаварыў:

> «Асноўны факт, які вызначае нашу палітыку, заключаецца ў тым, што ў сваім гаспадарчым развіцці наша краіна ўступіла ў новы перыяд нэпа, у новы перыяд новай эканамічнай палітыкі, у перыяд прамой індустрыялізацыі».

Барацьба з зіноўеўцамі і трацкістамі з гэтага часу ўступіла ў новую, найбольш вострую паласу развіцця. Партыя адстойвала ленінскую лінію пабудовы соцыялізма супроць трацкістаў і зіноўеўцаў, якія імкнуліся павярнуць краіну назад, на шлях капітуляцыі.

Другім этапам унутрыпартыйнай барацьбы за індустрыялізацыю краіны з'явілася барацьба з бухарынцамі (правымі). У некаторых артыкулах, змешчаных у нашым друку, гаворыцца, выходзячы з таго, што правыя былі агентурай кулака, што асноўная барацьба з правымі нібыта ішла па лініі калектывізацыі. Гэта няверна.

Калектывізацыя яшчэ к 1928 году не разгарнулася. Кулак і яго агентура ўнутры партыі супраціўляліся перш за ўсё індустрыялізацыі краіны, супраціўляліся тэмпам і намечанаму партыяй шляху вышукання сродкаў для індустрыялізацыі. Правыя абаранялі кулака ад індустрыялізацыі, каб прадухіліць калектывізацыю. Хоць адчувальныя матэрыяльныя рэзультаты барацьбы партыі за індустрыялізацыю сказаліся пазней, але палітыка індустрыялізацыі ўжо ў 1929 годзе атрымала канчатковую перамогу. Таму таварыш Сталін вызначае перыяд «Партыя бальшэвікоў у барацьбе за соцыялістычную індустрыялізацыю краіны»—1926—1929 гадамі.

Пасля 1929 года—года вялікага пералому—партыя бальшэвікоў прыступіла да рашэння задачы, высунутай XV з'ездам ВКП(б),—да

барацьбы за калектывізацыю сельскай гаспадаркі. 5 студзеня 1930 года ЦК ВКП(б) вынес пастанову аб суцэльнай калектывізацыі. Пачалася вялікая барацьба за соцыялістычную перабудову вёскі. К XVI з'езду гэта задача яшчэ не была вырашана, к канцу першай пяцігодкі яна таксама яшчэ не была вырашана. У 1933 годзе былі створаны палітаддзелы пры МТС. 1933 год з'явіўся годам пералому ў арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў. 1934 год прынёс канчатковае ўмацаванне калгаснага ладу. Таму таварыш Сталін вызначае перыяд «Партыя бальшэвікоў у барацьбе за калектывізацыю сельскай гаспадаркі» 1930—1934 гадамі.

1935 год з'явіўся пачаткам новага перыяду ў гісторыі нашай партыі—перыяда барацьбы за завяршэнне будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і правядзенне новай Канстытуцыі. Задачы гэтага перыяду мы вырашаем у нашай штодзённай рабоце.

* * *

Указанні таварыша Сталіна «Аб падручніку гісторыі ВКП(б)» патрабуюць ад гісторыкаў вялікай навуковай работы. Патрабаванне таварыша Сталіна, высунутае ў пісьме ў рэдакцыю журнала «Пролетарская революция»,—паставіць вывучэнне гісторыі нашай партыі на навуковыя рэйкі—павінна быць выканана.

**«Большевик»**

А. Зюзькоў

# Беларускія нацдэмы—ворагі народу

Комуністычная партыя (большэвікоў) Беларусі на ўсім працягу свайго існавання вяла жорсткую барацьбу супроць усякага нацыяналізма і, у першую чаргу, супроць беларускага нацдэмакратызма, нацфашызма. КП(б)Б вырасла і загартавалася, вырасціла кадры моцных большэвікоў у барацьбе супроць меншавікоў і эсэраў, трацкістаў і зіноўеўцаў, супроць правых рэстаўратараў, супроць усякай нацыяналістычнай сволачы. Партыя большэвікоў выкрыла і разграміла беларускія нацыяналістычныя партыі і арганізацыі—Беларускую Социялістычную Грамаду (БСГ), Беларускую Комуністычную Арганізацыю (БКА)—гэтых прамых агентаў польскіх фашыстаў, беларускіх эсэраў, федэралістаў, «Саюз вызвалення Беларусі» (СВБ), «Беларускі нацыянальны цэнтр» (БНЦ) і т. п. Партыя большэвікоў выкрыла і разграміла яўрэйскіх нацыяналістаў—Бунд, паалейцыён і ўсялякія сіяністскія арганізацыі. І самае важнае—у Совецкай Беларусі, як і ва ўсім Совецкім Саюзе, ліквідавана соцыяльная база, якая жывіла гэтыя партыі і арганізацыі.

Поўная перамога соцыялізма ў СССР знішчыла ўсякую соцыяльную базу, якая жывіла варожыя ленінізму, варожыя краіны Советаў групы, арганізацыі і партыі.

«Але поспехі, як і ўсё на свеце, маюць і свае ценявыя бакі» **(Сталін).** Сёй-той пачаў лічыць, што знішчэнне ў СССР соцыяльнай базы контррэволюцыйных партый і арганізацый ёсць знішчэнне і саміх ворагаў народу і іх груп. «Яны забылі аб тым, што совецкая ўлада перамагла толькі на адной шостай частцы свету, што пяць шостых свету складае ўлада капіталістычных дзяржаў. Яны забылі, што Совецкі Саюз знаходзіцца ў абстаноўцы капіталістычнага акружэння» **(Сталін).** І далей, у дакладзе на Пленуме ЦК ВКП(б) 3 сакавіка 1937 г. «Аб недахопах партыйнай работы і мерах ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў» таварыш Сталін указвае: «Ці не ясна, што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы, засылаемыя ў нашы тылы агентамі замежных дзяржаў».

Гэтыя ўказанні таварыша Сталіна асабліва неабходна заўсёды памятаць нам, працуючым у пагранічнай рэспубліцы, куды вораг з асаблівай упартасцю імкнецца прабрацца і дзе агент замежных разведак знаходзіць сілы для выканання сваіх подлых планаў не толькі сярод трацкісцка-зіноўеўскіх і правых мярзаўцаў, але і сярод беларускай, польскай, яўрэйскай і інш. контррэволюцыйнай нацыяналістычнай сволачы.

Беларускія нацдэмы пачалі сваю дыверсійна-шпіёнскую, правакатарскую дзейнасць яшчэ ў перыяд грамадзянскай вайны спачатку на

службе ў германскіх імперыялістаў, потым у польскіх, а вярней—у тых і другіх. Ці то возьмем мы контррэволюцыйную дзейнасць беларускіх нацдэмаў у час нямецкай акупацыі Беларусі, ці возьмем БКА, арганізаваную Ігнатоўскім з правакатарскімі мэтамі, ці возьмем СВБ і БНЦ,—мы ўбачым адзін твар—твар беларускага нацфашыста, які дзейнічае па заданню замежных разведак. І ў сучасны момант беларускія нацдэмы, якія дзейнічаюць сумесна з польскімі і інш. нацфашыстамі, узначальваюцца і аб'яднаны трацкістамі, з'яўляюцца шпіёнамі, дыверсантамі, тэрарыстамі і шкоднікамі.

Каб паспяхова весці барацьбу супроць беларускіх нацдэмаў, неабходна ведаць ворага, ведаць формы і метады яго работы, ведаць не толькі яго сучаснае, але і мінулае.

З гэтай мэтай мы і прадпрынялі друкаванне серыі артыкулаў, якія паказваюць увесь мінулы крывавы шлях беларускіх нацдэмаў і іх прыспешнікаў.

I

## Беларускі нацыянал-дэмакратызм у перыяд буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў Расіі

Пасля рэформы 1861 года Расія і яе калоніі—нацыянальныя акраіны—хутка прасоўваюцца па капіталістычнаму шляху развіцця. Расце прамысловасць, на арэну класавай барацьбы выступае пролетарыят, які стварыў у пачатку XX века і сваю партыю—партыю большэвікоў.

Канец XIX і пачатак XX вякоў адзначаны па ўсёй Расіі велізарным уздымам рэволюцыйнага руху. Высока ўзнімаюцца і хвалі нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў нацыянальных акраінах Расіі. Гэты нацыянальна-вызваленчы рух, накіраваны ў першую чаргу супроць царызма, у пролетарыяце і яго партыі знаходзіць адзінага свайго кіраўніка.

Правільнай пастаноўкаю нацыянальнага пытання большэвіцкая партыя заваявала давер'е сялянства ўсіх нацыянальнасцей Расіі к пролетарыяту. Гэта забяспечыла адзінства ўсіх рэволюцыйных сіл у барацьбе супроць старога парадку.

Але ў нацыянальных акраінах, у калоніях Расіі, развівалася і мясцовая буржуазія ў горадзе і ў вёсцы. Развіваліся кадры нацыянальнай інтэлігенцыі, якая імкнулася павесці за сабой дробнабуржуазныя масы.

Узнікаюць нацыяналістычныя арганізацыі, нацыянальная афарбоўка якіх была толькі адным са сродкаў ашуканства мас. Гэтыя нацыяналістычныя арганізацыі галоўнейшай сваёй мэтай ставілі ўтрыманне працоўных мас сваёй нацыі пад кіраўніцтвам сваёй буржуазіі. Такімі нацыяналістычнымі арганізацыямі ў Беларусі былі Бунд, Беларуская сацыялістычная грамада і інш.

Беларуская сацыялістычная грамада ўзнікла ў Беларусі ў 1902 годзе. Першая арганізацыя гэтай партыі была ўтворана студэнтамі беларусамі ў Пецербургу і была названа Беларускай рэволюцыйнай партыяй, але ў тым-жа годзе была перайменавана ў Беларускую Рэволюцыйную Грамаду. Першы з'езд Беларускай рэволюцыйнай грамады ў 1903 годзе перайменаваў партыю ў Беларускую Сацыялістычную Граму і прыняў першую праграму БСГ.

Галоўнейшы ўпор у гэтай праграме ставіўся на патрабаванні аўтаноміі для Беларусі ў межах Расіі. Для нацыянальных меншасцей Беларуская сацыялістычная грамада патрабавала нацыянальна-куль-

турнай аўтаноміі. У астатнім праграма БСГ была тыповай народніцкай праграмай, вельмі характэрнай для многіх нацыяналістычных партый эсэраўскага толку. БСГ увесь час так і заставалася партыяй не масавай. Яна складалася галоўным чынам з невялікіх колаў беларускай інтэлігенцыі і мела ўсяго некалькі гурткоў у 1905 годзе па гарадах Беларусі.

Беларускія працоўныя масы ў перыяд першай рускай рэволюцыі таксама, як і пазней, не ішлі за БСГ. Пролетарыят Беларусі, разам з пролетарыятам усёй Расіі, вёў барацьбу супроць самадзяржаўя пад кіраўніцтвам большэвікоў. Даволі ўказаць, што на падзеі 9 студзеня рабочыя Беларусі адказалі паўсяместнымі забастоўкамі, якія даходзілі ў радзе месц да ўзброеных сутычак.

Побач з рабочым рухам у Беларусі шырока развіваўся і аграрны рух па вёсках.

Сялянства Беларусі, якое мела менш паловы апрацоўваемых зямель (больш паловы належала памешчыкам), задыхалася ад малазямелля. З гэтай часткі сялянскіх зямель амаль адна трэцяя частка належала кулакам.

Рэшткі прыгонніцтва, беззямелле, голад, памешчыцкае і паліцэйскае своевольства, сільнейшы нацыянальны гнёт—усё гэта стварыла ўмовы для разгортвання шырокага сялянскага руху ў Беларусі.

Ва ўсіх губерніях Беларусі сялянскія паўстанні дасягнулі больш высокага ўздыму, чым у астатніх губерніях нячорназемнай часткі Расіі. На чале гэтага шырока разгарнуўшагася рабочага і сялянскага руху стаялі большэвікі.

БСГ так і засталася невялікаю групкай нацыяналістычнай інтэлігенцыі, якая не мела ніякага ўплыву на масы, хоць і спрабавала гэты ўплыў набыць, выпускаючы пракламацыі да сялянства, склікаючы сялянскія сходы і т. д.

Рэволюцыйныя падзеі 1905 года спалохалі нацыяналістычную буржуазію. Мясцовая буржуазія лічыла, што ёй лепш дзяліць прыбытак ад эксплаатацыі працоўных мас сваёй нацыянальнасці з рускай буржуазіяй, чым пазбавіцца зусім прыбыткаў у выпадку перамогі рэволюцыі. Буржуазія вельмі добра бачыла, што рэволюцыя не спыніцца на поўдарозе. Таму мясцовая нацыяналістычная буржуазія канчаткова ідзе на здзелку з рускай буржуазіяй і з самадзяржаўем, імкнучыся толькі выгандляваць для сябе лепшыя ўмовы. Як нельга лепш, гэты паварот адлюстравалі нацыяналісты БСГ у газетах «Наша доля» і «Наша ніва». Гэтыя газеты, хоць і не з'яўляліся спецыяльнымі органамі БСГ, але кіраўніцтва БСГ у 1905 годзе і журналаў «Наша доля»—«Наша ніва» пасля рэволюцыі складалася з тых самых асоб: Луцкевіча Антона, Станкевіча, Луцкевіча Івана, Матусевіча, Власава і т. д.

Найбольш характэрнай для пазіцыі нацыяналістаў з'яўляецца газета «Наша ніва», якая пачала выходзіць у 1907 годзе і праіснавала да 1915 г

Які-ж твар «Нашай нівы»? Ужо адно яе легальнае існаванне ва ўмовах самай жорсткай рэакцыі паказвае, што царскі ўрад не лічыў патрэбным закрываць гэту газету, бо бачыў, якую велізарную карысць для яго яна прыносіць. І сапраўды, рэволюцыйны рух 1905 года газета «Наша ніва» ацэньвае, як «процізаконнае» выступленне рабочых і сялян, а барацьбу супроць памешчыкаў называе «рабункам, падпалам» і т. п. Так, у № 19 за 1907 год «Наша ніва» піша: «Мала

мужыкам было карысці ад таго бесталковага зямельнага руху (справа ідзе аб 1905 годзе. — *А. З.*) іменна дзякуючы таму, што вельмі многа псавалася дабра, ва многіх месцах і мужыкам даводзілася дрэнна, не было дзе купіць хлеба або насення, не было заработку, а пустыя землі ўсёроўна нельга было ўзяць, дый наогул усе падобныя рабункі канчаліся крывавымі расправамі над сялянствам».

І гэта не абмоўка і не выпадкова. І ў іншых нумарах газеты выступленні сялянства ў 1905-6 гг. «Наша ніва» называе рабункамі і падпалам (напр., у № 23 за 1908 год і інш.).

Для «Нашай нівы» рэволюцыя 1905 года—гэта «завіруха», а цёмныя гады рэакцыі—гэта «спакой», час «мірнай і творчай» работы. Газета «Наша ніва» пісала: «Пасля той завірухі, якая паднялася ў 1905 годзе, настаў па ўсёй Расіі спакой, і народ узяўся за мірную творчую работу».

«Наша ніва» выступіла супроць уздыму рэволюцыйнага руху пасля расстрэлаў на Лене ў 1912 годзе. Газета пісала: «Залп, які прагрымеў у далёкай сібірскай тайзе і глухім рэхам прагучэў ва ўсіх канцах аграмаднай краіны, ускалануў гэты спакой, і кожнага грамадзяніна ахапляе горкі жаль к таму, што рвецца спакойная культурная работа, якую даўно чакае народ, якая так усім неабходна» («Наша ніва» 1912 год №№ 15—16).

«Наша ніва» адмаўляла класавае дзяленне беларускай нацыі, прапаведвала адзінства «ўсяго беларускага народу». Адхіляючы класавую барацьбу, «нашаніўцы» высунулі лозунг: «Мірнай барацьбой (!) і лягчэй і карысней дабівацца палепшання жыцця».

Тут ярка выступае буржуазна-кулацкі контррэволюцыйны твар нацыяналістычнай газеты «Наша ніва».

У нацыяналістычным пытанні «Наша ніва» высоўвала патрабаванне нацыянальна-культурнай аўтаноміі, і то гэта патрабаванне фармулявалася, як вельмі і вельмі далёкая перспектыва. Як аб самай блізкай перспектыве, газета «Наша ніва» лапатала аб неабходнасці вырашыць школьную аўтаномію і выкладанне на беларускай мове ў ніжэйшых школах.

Але-ж супроць гэтага не выступаў і чорнасоценец Пурышкевіч. Ён быў не супроць гэтага патрабавання да таго часу, пакуль захоўвалася «адзіная і недзялімая» Расія.

Але і «нашаніўцы» жадалі захавання «адзінай і недзялімай» Расіі. Аб гэтым гавораць іх выказванні па пытанню аб будучым дзяржаўным ладзе Беларусі. Ідэалам для іх служыла Англія, гэта найвялікшая прыгнятальніца каланіяльных народаў. Асабліва нацыянал-дэмакратам падабалася становішча англійскіх калоній.

Яны пісалі ў «Нашай ніве»: «Цяпер калоніі добраахвотна (!) бяруць на сябе кошт будаўніцтва ваенных караблёў для Англіі (Аўстралія і Канада), даюць на абарону добраахвотна (!) падаткі (Новая Зеландыя). Але і незалежныя дзяржавы, якія будуюць ваенныя караблі для Англіі, тым самым паказваюць, што яны не хочуць адрывацца ад саюза з ёю. З Англіяй ім добра, бо яны могуць свабодна развівацца, у выпадку крыўды з боку непрыяцеля, за іх заступіцца Англія».

У другім нумары «Наша ніва» піша: «Пры такой палітыцы свабоднага развіцця нацый падуладных Англіі, сілы і багацце гэтых нацый хутка растуць, а разам з тым расце і сіла англійскай дзяржавы, якой не варта баяцца, што хто-небудзь захоча аддзяліцца ад яе».

Тут падана крэдо нацдэмакратаў. Ідэалам для іх было каланіяль-

нае становішча, якое існавала ў Н. Зеландыі, Аўстраліі, Індыі і іншых калоніях і поўкалоніях Англіі. Гэтую-ж ролю калоніі нацдэмы рыхтавалі і для Беларусі.

Напалоханыя падзеямі 1905 года і рэволюцыйнымі выступленнямі рабочых і сялян, яны прама прагаварваюцца аб тых прычынах, якія прымушаюць іх шукаць саюза з Расіяй: «каб ніхто не пакрыўдзіў». Лепш быць у складзе «адзінай і недзялімай» Расіі, але мець паліцэйска-казацкую абарону ад рэволюцыйнага руху рабочых і сялян Беларусі.

І сапраўды, галоўнага, непрымірымага праціўніка беларуская буржуазія бачыла ў асобе рабочых і сялян Беларусі. Вось якраз супроць гэтага праціўніка і імкнулася «Наша ніва» выкарыстаць рэакцыйныя сілы памешчыцка-буржуазнай Расіі. І таму беларуская буржуазія ідзе на здзелку з расійскай буржуазіяй. Таму нашаніўцы выхваляюць партыю кадэтаў, як партыю «справядлівага» парадку.

Не выпадкова пасля 1917 г. беларускія нацдэмы гандлявалі Беларуссю, прапануючы Беларусь, як калонію, і германскім, і польскім, і англійскім, і нават амерыканскім імперыялістам. Не выпадкова беларускія нацфашысты з'яўляюцца вернымі псамі польскіх і германскіх фашыстаў па зняволенню Заходняй Беларусі і выкананню дыверсійна-шпіёнскіх заданняў у Совецкай Беларусі ў цяперашні час.

Пазней нацыянал-дэмакраты імкнуліся прадставіць «нашаніўцаў» як «рабоча-сялянскую інтэлігенцыю». Але сапраўдны буржуазна-кулацкі контррэволюцыйны твар «нашаніўцаў» асабліва ярка паказвае іх пазіцыя ў пытанні аб сталыпінскай рэформе.

У артыкуле «Зямельныя справы ў Беларусі» «Наша ніва» высоўвае аграрную праграму, якую павінна правесці ў жыццё Дума. Гэта праграма складаецца з наступнага: «знішчыць усе законы, якія не дазвалялі і не дазваляюць вольна купляць і прадаваць зямлю. І, па-другое,—знішчыць цераспалосіцу і аддаленасць зямлі з тым, каб разбіць землі на гаспадаркі, дзе зямля знаходзілася-б у адным кавалку і блізка ля сядзібы». Аб пераходзе да сялян памешчыцкай зямлі «Наша ніва», вядома, ні слова не пісала. Яна абараняла памешчыцкія землеўладанні.

Так «нашаніўцы» высоўваюць «патрабаванні», якія падтрымліваюць сталыпінскую рэформу і хутарскую гаспадарку, што насаджалася Сталыпіным. «Наша ніва» вітала гэты сталыпінскі рабунак сялянства. Увесь час, аж да 1914 года, «нашаніўцы» ўсялякім чынам услаўлялі выхад сялян на хутары. Газета «Наша ніва» выпусціла цэлы нумар, прысвечаны апісанню кулацкага хутара Бабоўня ў Слуцкім павеце. Рэдактар Власаў пісаў: «Мы апісалі для паказу хутар Бабоўня і жадаем, каб гэткія хутары з'явіліся ў Беларусі тысячамі. Усё гэта дапаможа хутчэй вырашыць аграрную справу».

І гэта агітацыя за хутары была не выпадковай для «Нашай нівы». Агітацыяй за выхад на хутары прасякнуты ўсе нумары гэтай газеты аж да пачатку імперыялістычнай вайны. Такім чынам *«нашаніўцы» былі прамымі агентамі Сталыпіна, папулярызатарамі мерапрыемстваў царскага ўрада.*

Але сялянства не ішло па ўказанай Сталыпіным і нац.-дэмакратамі дарозе. Яно бачыла, што гэта рэформа карысна толькі для кулацкай верхавінкі. Сялянства ўсіх беларускіх губерній выступала супроць сталыпінскай рэформы. Так, напрыклад, у вёсцы Магуны Віленскага павету ў 1912 г. зямельная камісія прымушала сялян рассяляцца на

хутары. Сяляне адмаўляліся рассяляцца. Была выклікана паліцыя. Але і гэта не спалохала сялян, і яны з коллямі і віламі выступілі супроць паліцыі. Паліцыяй адзін селянін быў на смерць засечаны шашкай, некалькі забіта выстраламі, многа паранена. Многія сяляне пасля гэтага паліцыяй былі арыштаваны, кінуты ў турмы і сасланы ў Сібір.

Яшчэ ў 1910 г. у вёсцы Лыканцы Магілеўскай губерніі сяляне ўсёй вёскі выступілі супроць высялення 4-х кулакоў на хутары. Для ўсмірэння сялян была выслана паліцыя, якая 20 чалавек арыштавала і пасадзіла ў турму.

У вёсцы Грушаўцы Рэчыцкага павету 200 сялян з віламі і стрэльбамі зрабілі нападзенне на хутары. Хутары былі разнесены ўшчэнт. На дапамогу кулакам прыбыла паліцыя. Арыштавана было больш 50 чалавек.

Аб гэтых, далёка не адзінкавых, выступленнях сялян «Наша ніва», вядома, не пісала. Наадварот, «Наша ніва» выступала супроць тых куцых мерапрыемстваў, якія абмяркоўваліся ў Дзяржаўнай Думе.

«Наша ніва» пісала: «Калі нават Дума і міністэрства выпрацавалі-б самыя лепшыя рэформы, калі-б нават мы атрымалі свабоду, самакіраўніцтва і т. д., мы не справіліся-б з імі, не ведалі-б, каго выбіраць, бо ніколі і нідзе мы разам не працавалі».

У гэтым ярка праявілася ўся баязнь рэволюцыі, уся баязнь якога-б там ні было рэволюцыйнага выступлення сялянства. «Наша ніва» баялася нават рэформ, бо гэтыя рэформы могуць штурхнуць сялянства на рэволюцыйны шлях. Гэта ўстаноўка «Нашай нівы» ярка паказвае, што пазіцыя «нашаніўцаў» была пазіцыяй чорнасоценцаў, пазіцыяй Маркава 2-га і Пурышкевіча, пазіцыяй контррэволюцыі. Зараз, у перыяд разгорнутага дэмакратызма, у перыяд Сталінскай Канстытуцыі, асабліва агідна выглядае подленькая пазіцыя беларускіх нацфашыстаў, гэтых былых прыслужнікаў царызма.

Газета «Наша ніва» была напоўнена самым разлютаваным нацыяналізмам. Чытачам удаўбліваласе, што беларусы—«адна сям'я». Так, у 1912 годзе ў перадавіцы «Нашай нівы» мы чытаем: «Не гледзячы на ўсякія падзелы, спрэчкі, усе беларусы—гэта родныя брацці, гэта адна сям'я. 9-ці мільённае грамадства, раскінутае на вялікіх прасторах Беларусі—гэта адзін агульны народ».

Класы і класавая барацьба—гэта словы, якія ніколі не ўжываліся «Нашай нівай».

«Наша ніва» сцвярджала, што народы гінуць у выніку ўнутранай (чытай: класавай) барацьбы. Яна пісала: «Народы гінуць не ад навальніцы, а... гінуць ад унутранага развалу. Гэта павінны памятаць усе, павінны ведаць мы, беларусы».

каб адцягнуць рабочыя і сялянскія масы ад рэволюцыйнай барацьбы, выцягваюцца старадаўнія казкі, апавяданні, адцягваецца ўвага ўсялякімі раскопкамі, вышуканнямі ў мове ў самых глухіх закутках Беларусі.

Гэты прыём нац.-дэмакраты скарысталі і пазней, ужо пры совецкай уладзе, маючы багаты вопыт «Нашай нівы». Калі тут усё «старажытнае» было накіравана супроць социялістычнага будаўніцтва, то ў часы царызма гэта «старажытнае» накіроўвалася супроць рэволюцыйнага руху рабочых і сялян.

Гэтай-жа мэце—«нацыянальнага прабуджэння» і адцягнення ад рэволюцыйнай барацьбы—служылі ў «Нашай ніве» ўсе літаратурныя артыкулы, вершы і т. п.

У 1915 г. гэта подленькая нацыяналістычная газетка спыніла сваё існаванне. У перыяд імперыялістычнай вайны мы бачым прымяненне беларускімі нацдэмамі своеасаблівай тактыкі «раздзялення працы». Сутнасць гэтай тактыкі заключаецца ў тым, каб мець у двух змагаючыхся лагерах «сваіх людзей». Пазней, пры совецкай уладзе, гэта нацдэмаўская тактыка «раздзялення працы» з'яўлялася асноўнай у барацьбе супроць большэвіцкай партыі і совецкай улады.

Гэта тактыка неабходна была нацдэмам для таго, каб адна частка нацдэмаў праводзіла сваю падрыўную контррэволюцыйную работу супроць совецкай улады зне, знаходзячыся за мяжой, а другая частка, пранікнуўшы ў партыю і совецкія органы, праводзіла гэту-ж работу знутры.

Вось як фармуляваў гэту тактыку адзін з віднейшых прадстаўнікоў беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыі—Ігнатоўскі, выкрыты ў 1930 г.:

«Я прызнаю, што з моманту ўступлення ў партыю я вёў свядомую падвойную палітычную гульню ў інтарэсах ажыццяўлення ідэалаў беларускай контррэволюцыйнай інтэлігенцыі. Іменна выходзячы з гэтага, я напярэдадні ўступлення ў большэвіцкую партыю з віднейшымі лідэрамі нацыянал-дэмакратычнага беларускага руху, маімі сябрамі па эсэраўскай партыі, у прыватнасці з Крычэўскім Пятром перад яго уходам з Менска за кардон, умовіўся на розных палітычных участках, дзе мы будзем працаваць, дапамагаць трыумфу беларускай справы. Таму я пацвярджаю паказанні А. Цвікевіча, што я з Крычэўскім разышоўся па формуле: «Ты ідзі працаваць для Беларусі на Захад, а я пайду працаваць на Ўсход». Таксама пацвярджаю наступнае месца з паказанняў І. Цвікевіча, чутае ім за мяжой ад маіх палітычных сяброў па эсэраўскай партыі: «Калі мы пакідалі Менск, то Ігнатоўскі гаварыў нам: «нічога, хлопцы, мы будзем тут лаяць вас, а вы з-за мяжы лайце нас, а ад гэтага агульная беларуская справа толькі выйграе».

Такою была тактыка нацдэмаў пры совецкай уладзе.

Але ў 1915 годзе гэта-ж тактыка «раздзялення працы» прымянялася нацдэмамі з іншай мэтай. Немцы наступалі. Царская армія, церпячы паражэнне за паражэннем, дзякуючы гніласці ладу і здрадніцтву, адыйшла на лінію Рыга—Баранавічы—Пінск і т. д. Прадбачыць, у чыіх руках застанецца тэрыторыя Беларусі,—немагчыма. Вось чаму ў Вільні, занятай немцамі, ствараецца група беларускіх нацдэмаў з «германскай арыентацыяй». Гэта група атрымоўвае грошы ад штаба германскай усходняй арміі і выдае газетку «Гоман». Газетка «Гоман» з'яўляецца рупарам таго-ж штаба і служыць мэце прымірэння беларусаў з тым катаржным ладам, які быў устаноўлены германцамі ў заваяваных абласцях.

Другая група нацдэмаў застаецца ў Расіі, развіваючы дзейнасць ва ўсялякіх «бежанскіх камітэтах», «дапамогі раненым» і т. п. У 1916 г. быў утвораны «беларускі бежанскі камітэт», дзе канцэнтравала свае сілы беларуская буржуазія.

Пасля звяржэння рабочымі і салдатамі пад кіраўніцтвам большэвікоў самадзяржаўя ў лютым 1917 г., беларуская буржуазія і памешчыкі спрабавалі выкарыстаць рэволюцыю, каб узяць уладу ў свае рукі. З гэтай мэтай ствараюцца «агульнанацыянальныя» арганізацыі: «Беларускі нацыянальны камітэт», а пазней «Беларуская рада».

Буржуазна-дэмакратычная рэволюцыя ў Расіі акрыліла надзеі розных нацыяналістаў.

«Права нацый на самавызначэнне тлумачылася як права нацыянальнай буржуазіі на ўскраінах узяць уладу ў свае рукі і скарыстаць Лютаўскую рэволюцыю для стварэння «сваёй» нацыянальнай дзяржавы.

Далейшае развіццё рэволюцыі не ўваходзіла і не магло ўваходзіць у разлікі ўпомненых вышэй буржуазных інстытутаў [1]).

Ї сапраўды, няма чаго і гаварыць аб тым, што ўсе нацыянальныя партыі, як БСГ, беларускія эсэры і т. д., якія складалі асноўныя кадры розных «беларускіх камітэтаў» і пазней «Беларускай рады», нават і не ставілі (ды і не маглі ставіць) пытання аб далейшым разгортванні рэволюцыі. Усе беларускія, як і наогул усе буржуазныя і дробнабуржуазныя, вялікадзяржаўныя і нацыяналістычныя партыі, сходзіліся на тым, што рэволюцыя скончана. Цяпер асноўным было для ўсіх нацыяналістаў—дабіцца як мага большай самастойнасці па шляху да ўтварэння сваёй буржуазнай дзяржавы.

Якава-ж была праграма беларускіх нацыяналістаў? Асноўнай іх мэтай было захаванне капіталізма. Гэтай мэты нацдэмы дабіваліся ўсялякімі шляхамі, скарыстоўваючы ў прыватнасці фальшыва-нацыянальны сцяг, атручваючы масы ядам нацыяналізма.

Беларускія нацыяналісты аб'ядналіся 25 сакавіка 1917 г. на з'ездзе нацыянальных арганізацый ў адзіны «Нацыянальны камітэт». Тут былі прадстаўнікі БСГ, лічыўшыя сябе левымі, і памешчык Скірмунт і ксёндз Гадлеўскі. Грашыма дапамагаў «на беларускія справы» і князь Радзівіл.

У сваёй дэкларацыі «Нацыянальны камітэт» першым пунктам паставіў пытанне аб «аўтаноміі ў межах Расіі», другім—аб свабодзе рэлігіі, унёсшы ў гэты пункт і заклік да стварэння «адзінай беларускай культуры». І толькі трэцім пунктам стаяла пытанне аб зямлі, ды і то з агаворкай, што «аграрнае пытанне вырашыць Установчы сход». Такім чынам, адно з галоўнейшых для сялян пытанняў «Нацыянальны камітэт» адкладваў на доўгі час. Пра вайну гаварылася глуха—«без анексій і кантрыбуцый», а пра тое, калі яе скончыць,—ні слова. У звароце да Часовага ўрада беларускі нацыянальны з'езд выказаў сваё жаданне працягваць вайну: «З'езд... выказвае сваю гатоўнасць падтрымаць Часовы расійскі ўрад у яго барацьбе са знешнім ворагам за свабоду Расіі»... [2]

Сяляне Беларусі выступілі супроць «Беларускага нацыянальнага Камітэта». Аб гэтым гаворыць рэзалюцыя Менскага камітэта сялянскага саюза, на чале якога быў большэвік тав. Фрунзе:

«1. «Беларускі нацыянальны камітэт» ні ў якім разе не можа быць прызнан выказальнікам думкі ўсяго беларускага народу і не мае права гаварыць ад яго імя, бо беларускі народ у асобе сваіх працоўных класаў—сялян і рабочых—у работах нацыянальнага з'езда ніякага ўдзелу не прымаў.

2. «Беларускі нацыянальны камітэт», з'яўляючыся па свайму складу арганізацыяй слаёў землеўладальнікаў, а па характару сваіх выступленняў чыста нацыяналістычным, пагражае інтарэсам сялян і рабочых,

---

1) І. Сталін. „Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне", стар. 51.
2) „Новое Варшавское Утро" ад 3 чэрвеня 1917 г.

імкнецца адарваць іх, на глебе ўзмоцнена падаграваемага нацыяналізма, ад працоўных мас усёй Расіі і падначаліць ідэйнаму кіраўніцтву памешчыкаў».

Далей Камітэт сялянскага саюза заяўляе, што будзе весці бязлітасную барацьбу з «Нацыянальным камітэтам», бо дзейнасць яго можа павесці да «розні ў радах працоўнага народу і тым перашкодзіць яму дабіцца карэнных змен яго эканамічнага і палітычнага становішча» [1]).

Падобныя рэзалюцыі выносіліся сялянскімі сходамі на месцах.

Недалёка ад «Нацыянальнага камітэта» адышла і «Беларуская соцыялістычная грамада».

На сваёй канферэнцыі 7 красавіка (25 сакавіка) БСГ выказалася за падтрыманне Часовага ўрада. Па пытанню аб вайне канферэнцыя БСГ, верная інтарэсам памешчыкаў і капіталістаў, выказалася за прадаўжэнне вайны:

«Канферэнцыя БСГ лічыць вайну ў сучасны момант вайной рэвалюцыйнай Расіі з германскім мілітарызмам, маючай на мэце абараніць здабытую вялікай рэволюцыяй свабоду ад замахаў звонку».

Такім чынам БСГ і па пытанню аб вайне і па пытанню аб «Часовым урадзе» выказалася ў тым-жа духу, што і «Нацыянальны камітэт» з памешчыкам Скірмунтам на чале.

Тое самае і з аграрным пытаннем: канферэнцыя выказалася за тое, каб «неадкладна прыняцца за дэтальную распрацоўку аграрнага пытання». Каб не было сумнення ў тым, на чыю карысць будзе «распрацоўвацца» аграрная праграма, канферэнцыя пастанавіла, што «канчаткова вырашыць зямельнае пытанне і спосаб (!) пераходу зямлі к народу Краевы сойм аўтаномнай Беларусі». А каб «народ» не адабраў ад памешчыкаў зямлі сам, раней, чым «вырашыць» аграрнае пытанне краёвы сойм, канферэнцыя БСГ дапісала:

«У сучасны момант канферэнцыя арганізацый БСГ асуджае неарганізаваныя (!) анархічныя выступленні на глебе аграрных адносін, лічачы неабходным прыняць усе захады да хутчэйшай арганізацыі сялянства» (г. зн. спыненне захвату зямлі) [2]).

Так беларуская буржуазія і яе лакеі-нацдэмы (дакладней—фашысты) адразу-ж пасля буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі выступілі супроць далейшага разгортвання рэволюцыйнага руху, супроць канчатковага знішчэння ўсіх феадальных рэштак.

Але беларускіх рабочых і сялян нацдэмам не ўдалося ашукаць. Рабочыя і сяляне Беларусі ішлі пад кіраўніцтвам большэвікоў. Рыхтаваліся сілы для новай рэволюцыі, рэволюцыі соцыялістычнай [3]).

---

[1]) „Минский голос“ № 2396 ад 6 красавіка 1917 г.

[2]) Газета „Единство“ № 12 ад 13 красавіка 1917 г.

[3]) У наступных №№ „Большэвіка Беларусі“, як працяг, будуць змешчаны артыкулы аб контррэволюцыйнай дзейнасці беларускіх нацдэмаў у далейшыя гады (1917—1937).

С. Уранаў

# Аб некаторых каварных прыёмах вярбовачнай работы замежных разведак

*Шпіянаж, шкодніцтва, дыверсія з'яўляюцца выпрабаванымі сродкамі ў арсенале буржуазных дзяржаў. Сродкі гэтыя ўжываюцца не толькі для барацьбы з магчымымі праціўнікамі, але і з так званымі прыязнымі дзяржавамі.*

Засылаючы сваіх шпіёнаў да нас, імкнучыся насадзіць сваіх людзей на важнейшых участках, нашы ворагі не абмяжоўваюцца гэтым. Яны прыкладаюць таксама ўсе намаганні да таго, каб уцягнуць у свае шпіёнскія сеці няпоўнацэнныя і няўстойлівыя элементы з грамадзян Совецкага Саюза; імкнуцца аблытаць іх сваім шпіёнскім павуціннем, штурхаюць іх на шлях здрады радзіме, дзейнічаючы шантажом, подкупам, абманам, пагрозамі прымушаюць іх служыць справе ворагаў Совецкага Саюза. Неабходна памятаць, што шпіён, дыверсант, шкоднік небяспечны тым, што, прыкрываючыся лічынаю «свайго» чалавека, ён пранікае ў нашы рады, выкарыстоўвае нашу бесклапотнасць і лёгкавер'е для таго, каб, выконваючы загад сваіх гаспадароў, нанесці нам удар у спіну, пагубіць масу совецкіх людзей, выклікаць няшчасці і беды і палегчыць дасягненне перамогі ворагу.

Каб затрудніць ворагу яго работу, не дазволіць раскрываць нашу дзяржаўную тайну і наносіць шкоду нашай абароназдольнасці і соцыялістычнаму будаўніцтву, мы абавязаны зрабіць неабходныя вывады з атрыманых намі ўрокаў, мы павінны аб'явіць барацьбу лёгкавер'ю, бесклапотнасці, якія з'яўляюцца шчылінамі для пранікнення ворагаў. Мы павінны ўскрыць хітрыя і звілістыя шляхі, карыстаючыся якімі замежныя разведкі ўцягваюць у свае сеці часам нядрэнных людзей, якія не жадаюць стаць здраднікамі сваёй радзімы, але пападаюць у шпіёны толькі дзякуючы адсутнасці пільнасці і няўменню адрозніць ворага і яго подлых замыслаў, скрытых пад маскай зычлівасці і прытворства.

Замежныя разведкі імкнуцца рознымі спосабамі перакінуць на чужую тэрыторыю свае падрыхтаваныя кадры шпіёнаў. Гэтыя кадры праходзяць старанную падрыхтоўку ў сябе дома і накіроўваюцца ў цікавячую разведку краіну для правядзення шпіёнскай работы.

З перыяду сусветнай вайны нам вядомы выпадак, калі англійскі агент «ДН-27», які скончыў школу агентуры ў Дэваншыры, яшчэ да вайны пранік у Германію, паступіў там дабравольцам у германскую армію і неўзабаве атрымаў годнасць лейтэнанта. Уладаючы дасканала нямецкай, французскай і англійскай мовамі, ён быў пераведзен у штаб Баварскага прынца Рупрэхта, камандуючага Баварскім корпусам пад

Лілем. «ДН-27» усю вайну меў перапіску з англійскай разведкай. Нават у 1918 годзе, калі германскай разведцы ўдалося атрымаць спісы агентаў саюзнай разведкі, гэты афіцэр, які камандаваў ужо тады ў немцаў палком, імі не быў выяўлен. Ён сам раскрыў сябе ў Спа, куды быў пасланы ў якасці германскага дэлегата па перагаворах аб перамір'і і дзе адкрыта далучыўся да англійскай дэлегацыі.

Засылка шпіёнаў у іншыя краіны з задачай іх трывалага ўкаранення ў арганізм адпаведнай дзяржавы практыкуецца ўсімі замежнымі разведкамі. Адначасова праводзіцца работа па вывучэнню грамадзян суседняй краіны з мэтай выяўлення ўсіх тых, хто можа быць з той ці іншай прычыны, тым ці іншым метадам уцягнут у шпіёнскую работу. Вядома, што амаль усе асобы, якія атрымліваюць дазвол на выезд з Германіі, абавязаны папярэдне з'явіцца ў знешне-палітычны аддзел нацыянал-сацыялісцкай партыі, дзе пераважная большасць з іх атрымлівае разведвальныя заданні, а таксама ўказанні па вывучэнню людзей, з якімі ім прыдзецца сустрэцца за граніцай.

Такі-ж парадак існуе ў Японіі. **Вывучэнне замежных грамадзян разведкай вядзецца толькі пад адным кутом погляду—як найбольш паспяхова ўцягнуць іх у разведвальную шпіёнскую работу.** Як і давайны, нямецкая разведка распрацавала спецыяльную картатэку, якая разбіваецца па гарадах пражывання, галінах работы, індывідуальных адзнаках людзей, якія намячаюцца для ўцягнення ў шпіёнскую сець [1]).

Гэтыя спісы «кандыдатаў» у шпіёны, вельмі часта нявольных афяр шпіёнскага шантажу, складаюцца па розных адзнаках, у першую чаргу, вядома, прымаюцца пад увагу палітычна няўстойлівыя, хістаючыяся элементы, затым людзі з усякага роду слабасцямі і парокамі, схільнасцямі да выпіўкі, скажэнняў, заўважаныя ў нячэсных адносінах да дзяржаўных сродкаў, робячыя растраты і т. д.

Маючы такі спіс у той ці іншай меры скампраметаваных людзей, замежныя разведкі карыстаюцца выездам гэтых людзей за граніцу для прыцягнення да шпіёнскай работы. Для вярбоўкі людзей, якія жывуць у сваёй краіне, пасылаюцца спецыяльныя агенты-вярбоўшчыкі. Шпіёны, пасылаемыя ў Совецкі Саюз, праходзяць старанную падрыхтоўку. Іх удасканальваюць у веданні мовы, прымушаюць чытаць мясцовую совецкую прэсу ў залежнасці ад таго месца, куды шпіён накіроўваецца, навучаюць радыёсправе, прымушаюць штодзенна ў працэсе падрыхтоўкі слухаць совецкія радыёперадачы. У польскай разведцы, напрыклад, для ўсіх шпіёнаў, якія падрыхтоўваюцца для работы ў СССР, існуюць спецыяльныя «рэкамендацыйныя спісы мінімум» літаратуры, якую шпіён павінен абавязкова прачытаць і ўмець талкаваць у духу совецкай крытыкі. У гэтыя спісы ўваходзяць такія кнігі, як «Паднятая цаліна», «Чапаеў», «Брускі», «Як гартавалася сталь». У апошні час польскіх разведчыкаў таксама прымушаюць вывучаць новую совецкую Канстытуцыю, гісторыю партыі, матэрыялы па стаханаўскаму руху. Ад іх патрабуюць умення карыстацца совецкай тэрміналогіяй.

Падрыхтаваныя такім чынам шпіёны-вярбоўшчыкі пад выглядам замежных турыстаў, транзітных пасажыраў адпраўляюцца ў СССР або

[1]) Да вайны нямецкая разведка мела картатэку на 47 тыс. грамадзян Расіі, Англіі, і Францыі. Гэтыя людзі былі рэзервам для ўцягнення ў шпіёнскую работу. Для вярбоўкі гэтых людзей, у залежнасці ад іх асабістых якасцей, выкарыстоўваліся рознастайныя спосабы шантажу, падкупу, пагроз, правакацыі.

проста нелегальна перакідваюцца ў Совецкі Саюз, маючы задачу вербаваць людзей для сваёй шпіёнскай работы.

Усякі шпіён, пасланы да нас з капіталістычных краін, імкнецца як найхутчэй акліматызавацца ў совецкіх умовах, сходзіць за совецкага чалавека, прыстроіцца на работу. Асабліва гэта палягчаецца поўнай адсутнасцю ў нас беспрацоўя. Шпіён імкнецца пранікнуць на завод, паступіць у совецкую ўстанову, завесці там знаёмства, паглядзець, каго і якім чынам можна ўцягнуць у сваю сець. З гэтай мэтай шпіён забяспечвае сябе падложным або крадзеным пашпартам, часам нават партыйным білетам, усякага роду спраўкамі і рэкамендацыямі. Для сваёй легалізацыі шпіён не спыняецца ні перад якімі сродкамі. Ён пачынае, напрыклад, вышукваць даверлівых жанчын або вядомых на заводзе дзяўчын-стаханавак з сямей старых кадравых рабочых з тым, каб, парадніўшыся з імі, адразу ўвайсці ў моцнае і вядомае на заводзе асяроддзе, як «мужу такой-то», «зяцю або сваяку такога-то». Для выканання шпіёнскіх задач усе сродкі добрыя: і «актыўнасць» у грамадскім жыцці, і «стаханаўская работа», і падхалімства, і ўгодніцтва, і ліслівасць, і нарэшце,—неаднаразовыя «жаніцьбы» і «разводы» з мэтай падшукання больш падыходзячай партыі.

Такім чынам, карыстаючыся прытупленнем пільнасці або поўнай яе адсутнасцю, вораг пралазіць у нашы рады, становіцца «сваім» чалавекам. Абаснаваўшыся на прадпрыемстве або ва ўстанове, шпіён пачынае паступова развіваць вярбовачную работу сярод людзей нашай краіны, імкнучыся ператварыць іх у здраднікаў радзімы і прымусіць працаваць на замежную разведку.

Як паказалі апошнія працэсы, трацкісты, зіноўеўцы і правыя адшчапенцы—ворагі народу хутка адгукнуліся на заклік сваіх гаспадароў з фашысцкага лагеру і не за страх, а за сумленне стараліся працаваць для японa-германскага фашызма. Суд над трацкісцка-японанямецкай агентурай паказаў, што гэтыя брудныя здраднікі—трацкісты, шкоднікі, шпіёны, дыверсанты з такой-жа энергіяй шукалі гаспадароў сярод фашысцкіх разведак, як апошнія шукалі трацкістаў у якасці сваіх агентаў.

Складаней вербаваць для шпіёнскай работы людзей, якія нічога агульнага не маюць з трацкісцкімі здраднікамі. Такіх раней чэсных людзей фашысцкія разведчыкі не выпускаюць з поля сваёй увагі і, карыстаючыся ўсемагчымымі бруднымі метадамі, імкнуцца іх уцягнуць у сваю шпіёнскую работу, заблытваючы іх у матэрыяльных і маральных адносінах, прымяняючы шантаж і запалохванне.

Калі шпіён не знаходзіць гатовых людзей сярод пакрыўджаных, палітычна няўстойлівых, бязвольных, балбатуноў і людзей парочных, ён намячае сабе афяры і штучна развівае ў іх тое, што яму трэба—крыўды, нездаволенасць, парокі, а часам наўмысна кампраметуе іх у вачах акружаючых.

Напрыклад, вядомы выпадкі, калі па адрасу аблюбаванага замежнаю разведкай чалавека пасылаюць антысовецкую лістоўку, потым уважліва наглядаюць, як будзе рэагаваць атрымаўшы яе. Калі ён нікому аб атрыманні контррэволюцыйнай лістоўкі не паведаміў, не давёў да ведама партыйных або совецкіх органаў, нават знішчыў ліс тоўку, тады да яго праз некаторы час з'яўляецца шпіён-вярбоўшчык, схіляючы яго на работу ў карысць замежнай разведкі. Калі грамадзянін пачынае абурацца атрыманнем такой прапановы, пагражае паведаміць уладам, шпіён-вярбоўшчык спакойна парыруе гэта фактам ат-

рымання і скрыцця антысовецкай пракламацыі, указваючы на тое, што гэты факт лёгка даказаць праз паштальёна, які прынёс пісьмо і т. д. Не атрымаўшы ў першы раз згоды на работу, шпіён не супакойваецца. Праз некаторы час ён зноў звяртаецца да таго-ж чалавека, цяпер ужо застрашваючы яго тым, што даны грамадзянін не выдаў яго ўладам у першы раз. Шпіён патрабуе толькі мінімальных, амаль не сакрэтных звестак, якія яму, моў, вельмі патрэбны, прапануе грошы, абяцае пасля атрымання гэтых даных больш не прыставаць. А далей усё ідзе як па пісанаму: «паслухаўшы» у першы раз трапляе ў балота, з якога яму ўжо не выбрацца, як ужо запэцканаму, і робіцца марыянеткай у руках лоўкага шпіёна.

Для таго, каб бліжэй і інтымней зыйсціся з намечаным для вярбоўкі чалавекам, шпіёны практыкуюць розныя спосабы. Нярэдка, калі гаспадарнік едзе ў камандзіроўку або на курорт, яго ў вагоне «пазнае» абрадаваны нечаканай сустрэчай вярбоўшчык, які, «аказваецца, мае агульных знаёмых» і т. п. У працэсе доўгай дарогі вярбоўшчык прашчупвае з усіх бакоў сваю афяру, улоўлівае слабыя месцы і пачынае плесці сваё павуціннe. Нярэдка з гэтай-жа мэтай карыстаюцца сустрэчай на курорце, дзе часу злішак, дзе ёсць магчымасці прагулак, дзе лёгка сходзяцца, асабліва з цікавымі і дагодлівымі людзьмі, якія на першы погляд не выклікаюць сумненняў.

Вядомы рад выпадкаў, калі шпіёны-вярбоўшчыкі падстаўлялі наіўным людзям жонак. Гэтыя жоны «чула» праяўлялі павышаны інтарэс да работы сваіх мужоў, выведвалі іх службовыя сакрэты. Атрымаўшы дастаткова матэрыялаў, каб палітычна скампраметаваць «мужа», такая жонка раскрывала карты, прапануючы ў лоб перайсці на прамую, добра аплачваемую службу «сваёй» разведкі. Не ва ўсіх знаходзілася дастаткова мужнасці для чэснага выхаду з такога становішча. А гэтым якраз і карысталіся шпіёны і ператваралі сваю несвядомую і бесклапотную афяру ў здрадніка сваёй радзімы.

На самай-жа справе кожны чэсны совецкі грамадзянін мае поўнасцю магчымасць адвесці ад сябе брудныя шпіёнскія замеры, вызваліцца ад павуціны, якая яго аблытвае, і прынесці карысць сваёй радзіме, выкрыўшы надаедліва прыстаючых шпіёнаў. Для гэтага трэба толькі зразумець, што ўсякае дапушчэнне памылкі або праступку, нават цяжкога злачынства, калі іх прызнаць, не скрываць, давесці да ведама органаў совецкай улады, складае менш цяжкую віну, чым сакрэтны згавор з ворагам радзімы і выкананне шпіёнскіх заданняў. Трэба заўсёды мець на ўвазе, што чалавек, які стаў на шлях згавору з замежнай разведкай, больш ніколі ўжо не ўладае сабою, паступова, пачынаючы з нявінных даручэнняў, яго прымушаюць спачатку стаць шпіёнам, а потым патрабуюць пакорлівага выканання дыверсій і тэрарыстычных актаў. Варта толькі падаць шпіёну палец, як ён заўладае ўсёй афярай да канца і зробіць з раней чэснага чалавека здрадніка і забойцу.

Так, напрыклад, было з маладым інжынерам Страілавым, асуджаным па апошняму працэсу шпіёнаў-трацкістаў. Гэтага чалавека выхавала совецкая ўлада, вывучыла, зрабіла спецыялістам. Трапіўшы ў рукі шпіёнаў, ён паступова ператварыўся ў здрадніка радзімы, шкодніка і дыверсанта. Спачатку Страілаву ў час яго прабывання ў камандзіроўцы ў Германіі нямецкія шпіёны далі пачытаць кнігу Троцкага, потым сталі частаваць іншай контррэволюцыйнай літаратурай, а скончылі тым, што сталі яго шантажыраваць, пагражаючы выдаць совецкім уладам, выкарыстоўваючы таксама такі матыў, што самая сувязь

Страілава з тыпамі накшталт нямецкага шпіёна Берга ўжо яго дастаткова кампраметуе. Страілаў замест таго, каб па-чэснаму ўскрыць гэтыя махінацыі нямецкіх шпіёнаў і тым выратаваць сябе ад іх праследвання, палічыў за лепшае замаўчаць свае праступкі і за абяцанне не выдаваць яго совецкай уладзе выдаў нямецкай разведцы распіску з абяцаннем даваць цікавячыя яе звесткі, і, такім чынам, цалкам, з усімі патрахамі трапіў у лапы Гестапо. Калі Страілаў вярнуўся на радзіму, яго ўжо не пакідалі ў спакоі і прымусілі займацца шкодніцтвам і дыверсіяй. Такім чынам Гестапо перакінуў мост паміж шпіёнам Страілавым і трацкісцкімі агентамі ў Кузбасе. Тым часам для ўсіх ясна, што Страілаў мог не толькі пазбегнуць свайго ганебнага лёсу здрадніка-шпіёна і дыверсанта, але мог, своечасова ўскрыўшы подлыя інтрыгі агентаў Гестапо, прынесці карысць сваёй радзіме і застацца верным яе сынам.

Калі на нашай совецкай тэрыторыі шпіёнам прыходзіцца дзейнічаць з найвялікшай асцярожнасцю, каб унікнуць правалаў і выкрыцця з боку нашай совецкай і партыйнай грамадскасці і органаў НКУС, то на сваёй фашысцкай радзіме, у адносінах да прыехаўшых туды совецкіх грамадзян, яны трымаюць сябе цынічна і напорыста. Ужо пры праездзе праз тэрыторыю Польшчы або Германіі ў паяздах падсаджваюць да совецкіх грамадзян спадарожнікаў, якія ўсяляк імкнуцца прашчупаць едучых і пад усякімі прадлогамі зацягнуць іх у свае сеці.

Рад выпадкаў, узятых з жыцця, паказвае, наколькі пільнымі павінны быць нашы інжынеры, гаспадарнікі і іншыя асобы, якія едуць па справах за граніцу, для таго, каб не трапіць у лоўка расстаўленыя сеці замежнага шпіянажу.

Нейкі совецкі работнік «Л», прыехаўшы за граніцу, рашыў вывучаць замежную мову. Даў аб'яву ў газеце, што шукае настаўніка. Сярод шматлікіх атрыманых ім пісем было адно пісьмо, дзе чулліва расказвалася аб цяжкім матэрыяльным становішчы аўтара, а іменна: нейкая настаўніца, з'яўляючыся кармільцам сям'і з трох чалавек, просіць не даваць канчатковага рашэння другім настаўнікам, пакуль у асабістых перагаворах не пераканаецца, што па веданню мовы і метаду выкладання даная настаўніца заслугоўвае перавагі перад усімі астатнімі. «Л» быў халасцяком, сярод таварышоў слыў за добрага партыйца, грамадскага работніка, скромнага ў быту чалавека. Участак яго работы быў хоць і тэхнічны, але вельмі адказны, бо па характару работы яму былі вядомы многія важныя дзяржаўныя сакрэты. «Л» адказаў згодай і прасіў «нуждающуюся» настаўніцу прысці да яго для перагавораў. У вызначаны час з'явілася маладая, 26 год, прыгожая дзяўчына, назвала сябе Меры і з першай-жа гутаркі зачаравала «Л» сваім скромным выглядам і расчуліла яго аповесцю аб сваім цяжкім матэрыяльным становішчы.

Спачатку урокі праходзілі на кватэры «Л» на працягу некалькіх месяцаў нармальна. За гэты час «Л» падружыўся са сваёй настаўніцай, пачаліся сумесныя прагулкі за горад, хаджэнні ў кіно і т. д. Адносіны рабіліся ўсё больш сяброўскімі. За ўвесь час сумесных заняткаў Меры ні разу не задавала якіх-небудзь пытанняў, якія маглі-б выклікаць падазрэнні. У пытаннях палітыкі яна разбіралася мала, хоць і гаварыла, што тайком ад маткі, фанатычна веруючай жанчыны, яна чытала кнігі аб Совецкім Саюзе і, бясспрэчна, калі-б яна мела больш вольнага часу, яна падзяляла-б погляды большэвікоў. Аднойчы ўвечары, у час звычайнага урока, Меры адчула сябе дрэнна. Яна папра-

сіла выклікаць урача—яе далёкага сваяка «Н». К прыезду ўрача Меры стала горш, прышлося яе пакласці на канапу. Прыехаўшы ўрач устанавіў сільнаеператамленне і аслабленне сардэчнай дзейнасці. Урач даў парашкі, сказаў, што яна хутка супакоіцца і засне, прапанаваў «Л» не трывожыць Меры, даць ёй спакойна паляжаць і паехаў. Праходзілі гадзіны, Меры не прачыналася, і калі падышла трэцяя гадзіна ночы, «Л» рашыў, што калі нават яна і прачнецца, то ў гэты час ўжо нязручна выпускаць яе з кватэры. Стомлены «Л» хутка і сам заснуў. Прачнуўшыся раніцой, «Л» на сваё здзіўленне, не знайшоў Меры на канапе, не аказалася таксама яе і ў кватэры. Ён быў яшчэ больш здзіўлены, калі ён не знайшоў ключоў ні ад параднага, ні ад чорнага ходу сваёй кватэры. Ключы зніклі, і колькі іх «Л» ні шукаў, знайсці іх не мог. Прышлося па тэлефону выклікаць слесара ламаць замок. Замест таго, каб пайсці да сваіх таварышоў і расказаць аб тым, што здарылася, «Л» стаў апасацца, як-бы хто-небудзь не падумаў, што справа была не так, як ён раскажа, што паміж ім і Меры адбылося што-небудзь, што ніхто не паверыць гісторыі са знікненнем ключоў і што ў рэзультаце ўсяго адбыўшагася аб ім пачнуць гаварыць, пераварнуць факты і могуць пачацца размовы, ад якіх, апрача непрыемнасці, чакаць няма чаго. «Змаўчаць,—рашыў «Л»,—бо акрамя мяне ніхто-ж нічога не ведае». Справа-ж заключалася ў тым, што «Л» і не падазраваў, што контрразведка, агентам якой была Меры, усе свае планы пабудавала іменна на тым псіхалагічным момансе, што «Л» пабаіцца расказаць каму-небудзь аб начоўцы Меры ў яго на кватэры, зніксненні ключоў і зламаных дзверах.

Калі прайшоў некаторы час, і «Л» пачаў забываць ужо адбыўшаеся, аднойчы ўвечары да яго на кватэру з'явіўся незнаёмы чалавек і, прадставіўшыся агентам мясцовай контрразведкі, сказаў, што мае даручэнне ад шэфа контрразведкі сустрэцца з ім і перагаварыць аб адбыўшымся паміж ім і Меры. Па словах агента, Меры падала ў контрразведку заяву, што яе вучань—супрацоўнік такой-то савецкай установы за граніцай, з якім яна займалася многа месяцаў, які трымаў сябе добрапрыстойна, у час апошняга ўрока прапанаваў ёй чай з піражным. У час яды яна адчула галавакружэнне. «Л» выклікаў урача, які даў ёй парашкі. Пасля парашкоў яна адчула сябе крыху лягчэй і заснула. Ноччу яна нечакана прачнулася ад нейкага цяжару і моцнага фізічнага болю. Прышоўшы ў сябе, яна ўбачыла ў сябе на канапе «Л», які быццам-бы спрабаваў яе згвалціць, прычым спробы свае суправаджаў садысцкімі мучэннямі і пакусаў яе не менш як у 15 месцах. Пасля нядоўгага супраціўлення ёй удалося вырвацца і ўцячы ў другі пакой. Аднак і там «Л» яе насціг, і барацьба паміж імі аднавілася. У момант бязвыхаднасці Меры схапіла кубак з соллю, які стаяў на стале, і высыпала яе ў вочы «Л». Баючыся, што «Л», знаходзячыся ў стане вар'яцтва, будзе яе праследваць, Меры выбегла і замкнула парадны і чорны ход кватэры. Да сваёй заявы Меры прыклала звязку ключоў і сведчанне доктара «Н», які быў выклікан на кватэру да «Л» і які пацвердзіў, што «Л» угаварваў яго не ўвозіць Меры дамоў і лепш пакінуць яе ў яго на кватэры. У сведчанні доктар указаў, што на наступны дзень Меры з'явілася да яго ў моцным расстройстве і на целе яе былі выяўлены 15 укусаў з кровепадцёкамі.

Слухаючы агента, «Л» ужо знаходзіўся ў стане трансу, не мог сабраць сваіх мыслей. Адно ён пачаў ясна разумець, што знаходзіцца на краі прорвы і ўвесь ва ўладзе гэтага незнаёмага яму чалавека. Ён быў паглынуты мыслю аб выратаванні сябе, не разумеючы, што

адзіны шлях—пайсці і ўсё расказаць блізкім прыяцелям, другое-ж рашэнне—неадкладная пагібель. План контрразведкі быў распрацован старанна. Вярбоўка «Л» была намечана так, каб псіхалагічна прадставіць яму контрразведку не ў ролі яго душыцеля, які зацеяў усю гэту справу, а ў ролі збавіцеля, які ў мінуту жыцця цяжкую прышоў яму на дапамогу, і таму такім добрым людзям з контрразведкі можна аказаць сякія-такія «дробныя» паслугі.

Агент указаў, што контрразведка не зацікаўлена ў яго кампраметацыі і скандале, бо справа ідзе не аб радавым чалавеку, а аб адказным супрацоўніку краіны, з якою яго ўрад знаходзіцца ў нармальных дыпламатычных адносінах. Але пакольні заява паступіла, контрразведка абавязана весці дазнанне і перадаць справу пракурору. Па гэтай справе яны ўжо выклікалі Меры, дапытвалі яе і па сваёй ініцыятыве прапанавалі ёй не паднімаць скандалу і пайсці на міравую. Меры доўга не згаджалася, але пад націскам контрразведкі дала згоду, але пры ўмове, што ў 5-дзенны тэрмін яна атрымае 5 тыс. залатых рублёў. «Л» спачатку не згаджаўся, потым згаджаўся на меншую суму, але агент заявіў, што ён не ўпаўнаважаны весці такія перагаворы. На працягу наступных дзён «Л» сустракаўся з агентам, даказваючы яму, што грошай не мае і дастаць іх не можа. На трэці дзень на спатканне з «Л» прышоў іншакраінец, які назваў сябе памочнікам начальніка контрразведкі. Ён даў зразумець «Л», што гатоў дапамагчы яму дастаць у банку грошы, аднак, узамен гэтай паслугі ён спадзяецца атрымаць ад «Л» некаторую кампенсацыю. Контрразведка многа не просіць, яна зацікаўлена, каб у краіне быў мір і парадак, а да яе паступае шмат даносаў. Часта праўду ад хлусні цяжка адрозніць, і таму контрразведка просіць толькі даваць свае заключэнні і думку аб цікавячых яе асобах.

«Л» чакаў значна горшага. Яму гэта патрабаванне здалося нявінным. Ён нават пачаў сябе пераконваць у тым, што ён робіць вельмі добрую справу—будзе ратаваць совецкіх людзей ад магчымага паклёпу з боку ворагаў Совецкага Саюза. Яшчэ адзін крок—і «Л» стаў-бы на пагібельны шлях здрадніцтва радзімы.

Аднак ворагу не ўдалося радавацца. Знешнія паводзіны «Л» не прайшлі непрыметна для яго таварышоў па рабоце. Дайшлі чуткі аб гісторыі са ўзламанымі дзвярмі, заўважылі, што «Л» пазбягае сяброў, прападае невядома дзе вечарамі, хлусіць, адказваючы на пытанні. Звярнула на сябе ўвагу, што «Л» узмоцнена займаецца продажам некаторых рэчаў, спрабуе пазычаць грошы. З ім рашылі пагаварыць па-таварыску, і «Л» знайшоў у сабе ў апошні момант мужнасць аб усім расказаць.

Мы знарок падрабязна спыніліся на гэтым прыкладзе, каб паказаць, як адсутнасць пільнасці, здавалася-б у такім простым пытанні, як падбор настаўніка замежнай мовы, убаюкванне сябе тым, што вораг не такі каварны, як яго малююць, маладушша і адсутнасць усведамлення свайго доўгу перад радзімай прывялі, да таго чэснага, нічым не заплямленага грамадзяніна, якім раней быў «Л», у лапы злейшага ворага нашай радзімы, які, як правіла, заўсёды пачынае з просьбы аб аказанні дробных паслуг, з тым, каб пазней прымусіць рабіць забойствы, падпалы і шпіянаж.

Вядомы таксама рад іншых выпадкаў, калі вораг, карыстаючыся распушчанасцю некаторых совецкіх грамадзян, трапіўшых у замежную камандзіроўку, падстаўляў ім жанчын, затым прымушаў даваць задавальненне аб'явіўшамуся «зняважанаму мужу» і пад выглядам

кампенсацыі за тое, што справу замялі, не давялі да скандалу, схіляў лёгкаверных і распушчаных людзей да шпіянажу, да здрады радзіме. З адным совецкім грамадзянінам, раней быццам-бы бездакорным, здарылася такая бяда, калі ён быў у камандзіроўцы ў Японіі. Ён стаў часта наведваць рэстараны і іншыя весяліцельныя месцы, пры гэтым ён зблізіўся там з адной з наведвальніц гэтых месц, з выгляду «арыстакраткай», даволі прыгожай жанчынай. У час адной з яго сустрэч з гэтай жанчынай у прытульным кутку фешэнебельнага рэстарана нечакана з'явіўся японец у ваеннай форме, назваўся «мужам» гэтай жанчыны і накінуўся на совецкага грамадзяніна, патрабуючы задавальнення за знявагу гонару яго сямейнага ачага. Справа скончылася-б скандалам, калі-б тут-жа не з'явіўся другі чалавек, даволі ветлівы з выгляду, таксама японец, але ў штацкім, які стаў угаварваць ваеннага японца не падымаць скандалу і паканчыць справу мірам. Совецкі грамадзянін, які адчуваў сябе ў адчайным становішчы, ухапіўся за «прымірыцеля», як за якар выратавання. Справа скончылася «мірам», але якою цаной? Совецкі грамадзянін даў распіску даваць «прымірыцелю» «інфармацыю» аб некаторых справах у СССР, цікавых для «прымірыцеля», які аказаўся агентам японскай разведкі. Але, даўшы распіску, ён аказаўся ў лапах у «прымірыцеля». Баючыся выкрыцця з боку «прымірыцеля», ён усё больш і больш заблытваўся, выконваючы ўсё новыя і новыя шпіёнскія даручэнні. Ён ператварыўся ў японскага шпіёна і ворага сваёй радзімы.

Вядомы выпадак, калі нейкі совецкі работнік «Н», знаходзячыся ў замежнай камандзіроўцы, трапіў пад удар замежнай контрразведкі пры наступных акалічнасцях. Аднойчы «Н», захапіўшы партфель, пайшоў у кафэ. Паколькі ў партфелі ніякіх дзелавых бумаг не было, «Н», выпіўшы некалькі шклянак кавы, пакінуўшы на стале партфель, пайшоў пагаварыць па тэлефону. Калі ён звярнуўся назад да свайго століка, ён знайшоў свой партфель на месцы, і, пасядзеўшы яшчэ некаторы час, накіраваўся да выхаду. Ля выхаду з кафэ яго спыніў малады чалавек іншакраінец, які звярнуўся да «Н» з наступным пытаннем: «Вы з'яўляецеся такім-то?» «Н» адказаў сцвярджальна. Тады іншакраінец папрасіў «Н» адыйсці ў бок і паведаміў яму: «Вы, пане «Н», з'яўляецеся совецкім шпіёнам, парушаючым законы данай дзяржавы. Пра гэта яшчэ невядома паліцыі, але вы знаходзіцеся цалкам у маіх руках. Я магу вас выратаваць, калі вы мне акажаце некаторую паслугу». Калі «Н», абураны, стаў адмаўляць узведзены на яго паклёп, іншакраінец папрасіў яго не гарачыцца, бо «Н» увярнуцца не зможа, з прычыны таго, што ў яго ў партфелі ляжыць шпіёнскі дакумент, накіраваны супроць данай краіны. «Н» ведаў, што ў яго ў партфелі нічога адмоўнага не можа быць, тут-жа адчыніў партфель і паміж усякіх сваіх бумаг выявіў на свой жах укладзены туды, відаць у час яго перагавораў па тэлефону, дакумент на замежнай мове з сакрэтным грыфам. Калі «Н» стаў абурацца, абвінавачваць незнаёмца ў тым, што ён падкінуў яму гэты дакумент, незнаёмец адказаў: «Супакойцеся, пане «Н», я не ведаю, як вы выйдзеце з гэтага становішча. У мае намеры ўваходзіла выручыць вас, а калі вы ад гэтага ўхіляецеся, я неадкладна, у гэту-ж хвіліну перадам вас у мясцовую паліцыю». Каротка кажучы, «Н», замест таго, каб тут-жа спыніць падобнага роду размовы і, з'яўляючыся чэсным, незаплямленым чалавекам, неадкладна самому звярнуцца да паліцыі, стаў шукаць кампрамісаў з незнаёмцам і ў канчатковым выніку з мэтай «пазбегнуць скандалу» даў згоду навесці спраўку аб адным чалавеку, які пражывае ў Совецкім Саюзе.

Але шпіён, які зацягнуў у сваё павуцінне «Н», гэтым не абмежаваўся. Ён не пажадаў выпусціць «Н» са сваіх рук, не атрымаўшы ад яго пісьмовага пацверджання аб згодзе выканаць данае яму даручэнне. Паколькі «Н» не бачыў іншага спосабу адвязацца ад праследваўшага яго шпіёна, ён зрабіў фатальную памылку і выдаў апошняму распіску з абавязацельствам выканаць данае яму даручэнне, і распіска гэта з'явілася фатальнай для «Н» на ўсё яго жыццё. Карыстаючыся гэтай распіскай і пагражаючы яе апублікаваннем, агенты фашысцкай разведкі насцігалі яго ўсюды, дзе-б ён ні знаходзіўся, і, пераходзячы ад даручэнняў на першы погляд нявіннага характару, «загрузілі» «Н» сапраўднай шпіёнскай работай, прымусілі яго здрадзіць сваёй радзіме і стаць ганебным наёмным шпіёнам у руках фашысцкай разведкі.

Вядомы таксама і іншыя выпадкі, калі шпіёны ў свае сеці ўцягвалі людзей, якія прыязджалі за граніцу, карыстаючыся іх маральнай няўстойлівасцю. Так, адзін камандзіраваны за граніцу работнік у парадку службовых узаемаадносін пазнаёміўся з радам чыноўнікаў замежных консульстваў. Адзін з іх, выдаючы сябе за заможнага чалавека, часта запрашаў грамадзяніна «Т» на розныя відовішчы—скачкі, у тэатры, весяліцельныя месцы, шантаны, кабарэ і т. п. весяліцельныя завядзенні. Пры гэтым іншакраінец заўсёды шукаў выпадку заплаціць за ўсе забавы, якімі ён карыстаўся разам з «Т». Такім чынам, «Т» сістэматычна стаў праводзіць час са сваім новым шчодрым знаёмым, наведваў розныя злачныя месцы, уцягнуўся ў вясёлае жыццё. Але ў адзін цудоўны дзень «дабрадзей» паведаміў «Т», што ён збанкроціўся, што з яго патрабуюць неадкладнай уплаты па рахунках, таму ён просіць звярнуць яму ўсе зробленыя на «Т» выдаткі па сумесных куцяжах. Калі «Т» пачуў належачую з яго суму, ён абамлеў, бо ніколі такіх грошай разам з іншакраінцам не патраціў. Але іншакраінец настойваў на неадкладным звароце зробленых выдаткаў. Натуральна, «Т» не было адкуль дастаць вялікую суму грошай, і вось яго сябра па выпіўцы прапануе знайсці выхад са становішча, які можа «выратаваць» іх абодвух, а іменна: неабходна, каб «Т» даваў скромныя інфармацыі аднаму вельмі саліднаму чалавеку, які з гэтых інфармацый можа спажыць камерцыйную карысць. Калі «Т» адмовіўся, яго «прыяцель» стаў яму пагражаць тым, што ён неадкладна паведаміць начальству «Т» аб распуснасці «Т», аб усіх іх сумесных паходжаннях, да рэчы кажучы, і аб тых сакрэтных даных, якія, нібыта, яму ўжо «Т» выбалтаў. «Ці не лепш вам даць гэту няшкодную інфармацыю,— заявіў шпіён «Т»,—чым рыскаваць вашым добрым імем, а можа быць, нават і жыццём, а таксама поўным разарэннем сваёй сям'і, бо жонка ваша вам не даруе вашых распусных паходжанняў. Ці не лепш аддаць забыццю ўсё, што адбылося, цаной паведамлення майму прыяцелю некаторых звестак, разгалошанне якіх не прынясе нікому ніякай шкоды». Не знайшоўшы ў сабе мужнасці прызнацца перад сваімі таварышамі ў сваіх недапушчальных паводзінах, у змычцы з варожым акружэннем і тым самым захаваць сябе ад далейшага падзення, «Т» даў падпіску аб згодзе даваць прасімыя звесткі, атрымаўшы ўзамен ад свайго знаёмага нічога не вартую распіску ў тым, што ён абавязваецца не патрабаваць з яго ніякіх грошай і не шантажыраваць яго. Кончыў-жа «Т» тым, што спрабаваў па патрабаванню сваіх новых гаспадароў сцягнуць сакрэтны дакумент і на гэтай спробе быў злоўлен.

Вядомы выпадак, калі нямецкая разведка спрабавала прымяніць супроць камандзіраванага за граніцу савецкага грамадзяніна наступны

нязграбны прыём вярбоўкі. Прыехаўшы шукаў для сябе кватэру. Ён аглядзеў некалькі памяшканняў і нарэшце рашыў спыніцца на адным пакоі, які здавала пажылая жанчына. У час іх гутаркі з гаспадыняй кватэры прысутнічала маладая дзяўчына, якая адрэкамендавалася знаёмай гаспадыні. Пагаварыўшы з уласніцай кватэры аб умовах найму пакоя, таварыш умовіўся зайсці праз два дні для канчатковых перагавораў; і вось з'явіўшыся ў назначаны тэрмін у абраную ім кватэру, ён сустрэў зноў тую-ж гаспадыню кватэры, якая заявіла, што павінна прасіць яго трохі пачакаць, бо павінна аб канчатковай здачы параіцца са сваімі сваякамі, якія жывуць у суседнім доме. Кватэранаймальнік стаў, пакурваючы, чакаць у гасцінай. Праз некалькі мінут з'явілася гаспадыня кватэры разам з паліцэйскім інспектарам і паліцэйскім вахмістрам. Інспектар паведаміў, што да яго паступіла заява ад данай грамадзянкі, што нібыта пры першым наведванні і аглядзе кватэры ўкралі ў гаспадыні два залатыя кольцы. Паколькі нікога ні да, ні пасля наведвання гэтым таварышом данай кватэры ў гаспадыні не было, то падазрэнне падае на совецкага грамадзяніна. Інспектар запрасіў яго ў камісарыят для складання пратаколу. Не гледзячы на рэзкія пратэсты таварыша, яму ўсё-ж прышлося пайсці ў паліцыю, дзе яго падверглі зняважліваму допыту і нават спрабавалі зрабіць вобыск. Калі інспектар пераканаўся ў сур'ёзным намеры абвінавачанага запрацівіцца вобыску, ён раптам перайшоў на ветлівы тон і сказаў: «Магчыма, што грамадзянін і не павінен у гэтай справе, але ўлікі ў наяўнасці, ён абавязан падвергнуць грамадзяніна вобыску або скласці пратакол і перадаць справу ў пракуратуру, а да разбору справы прыдзецца яго затрымаць. Але паколькі ён, інспектар, разумее, якая гэта скандальная справа для паважанага пана, ён гатоў за маленькую суму на «пакрыццё непрыемнасці» замяць усю справу і адпусціць «злодзея» на ўсе чатыры бакі. На бяду, таварыш імкнуўся як найхутчэй выпутацца з нялоўкага становішча, у якое ён трапіў, і, не падумаўшы аб выніках, вынуў бумажнік і палажыў на стол інспектару 20 марак. Якраз у гэты час дзверы адчыніліся і ўвайшоў прыстойна, але скромна апрануты малады чалавек, яўна афіцэрскага выгляду, але ў штацкай адзежы. Увайшоўшы заявіў, што, знаходзячыся ў суседнім пакоі, ён чуў, як затрыманы прапанаваў паліцэйскаму інспектару хабар. Як старшы, ён павінен аб гэтым скласці пратакол. Распытаўшы ў інспектара аб прычыне затрымання совецкага грамадзяніна, афіцэр заявіў, што дача хабару з'яўляецца прамым пацверджаннем віноўнасці затрыманага, і патрабаваў неадкладнага складання пратаколу з указаннем, што затрыманы спрабаваў вызваліцца пры дапамозе хабару. Затрыманага-ж афіцэр загадаў неадкладна адправіць у турму. Пасля таго, як пратакол быў напісан, а затрыманы адмовіўся яго падпісаць, афіцэр, адаслаўшы інспектара і застаўшыся сам-на-сам з затрыманым, заявіў, што ён з'яўляецца афіцэрам контрразведкі, наглядаючым за дзейнасцю паліцыі. Ён упаўне разумее ўсю скандальнасць адбыўшагася і гатоў дапамагчы трапіўшаму ў бяду совецкаму грамадзяніну. Аднак, ён не можа гэтага зрабіць, не атрымаўшы з яго боку ніякай паслугі. У даным выпадку яго прапанова зводзілася да таго, каб совецкі грамадзянін аказаў яму ўзаемную паслугу, а іменна: навёў спраўку аб адным чалавеку—другім совецкім грамадзяніне, які пражывае ў сябе на радзіме. Наш прастачок, нічога не падазраваючы, запісаў у сябе ў кніжцы названае яму прозвішча і адрас, потым па просьбе афіцэра запісаў яму ўласнай рукою ў яго-ж запісную кніжку гэта-ж самае прозвішча на рускай мове. Потым, мяркуючы, што ён

зусім танна адчапіўся, па пратэкцыі афіцэра контрразведкі пакінуў паліцыю і накіраваўся к сабе.

Па дарозе наш знаёмы многа думаў аб тым, што адбылося, разважаў, ці варта яму расказаць пра гэта сваім таварышам, але, апасаючыся таго, што над ім пасмяюцца, ён аб сваёй прыгодзе нікому не сказаў і пастараўся аб ёй забыць. Аднак, праз 15 дзён да яго на кватэру пазванілі па тэлефону і паведамілі, што яго жадае бачыць афіцэр контрразведкі для перагавораў па вядомай яму справе. Толькі пасля гэтых тэлефонных званкоў прастачок зразумеў, чым пахне справа. Ён рашыў неадкладна далажыць аб адбыўшымся свайму начальніку і гэтым выратаваў сябе ад пагібелі, якая чакала яго ў выпадку далейшых зацягванняў гэтай зацеянай контрразведкаю гнуснай камедыі. Калі агент разведкі стаў націскаць і пагражаць выкрыццём яго, наш таварыш яго быстра адшыў, заявіўшы, што ён сам аб усім далажыў ужо свайму начальніку і контрразведцы трэба лічыцца з пратэстам супроць тых подлых прыёмаў шпіянажу, якія яна дапускае ў адносінах чэсных совецкіх грамадзян. Контрразведка доўга яшчэ не супакойвалася, не жадаючы выпусціць з рук намечаную афяру, спрабуючы прымяніць новыя метады запалохвання. Але нічога з гэтай справы не вышла, дзякуючы прамой і чэснай пазіцыі совецкага грамадзяніна.

Прыведзеныя прыклады толькі часткова прыадкрываюць заслону брудных і гнусных прыёмаў, якія прымяняюцца замежнымі, асабліва фашысцкімі, разведкамі для ўцягнення ў сваю шпіёнскую сець ні ў чым непавінных людзей. Праўдзівасць, чэснасць перад совецкай дзяржавай, усведамленне доўгу перад сваёй радзімай, пільнасць, добрасумленнае выкананне даручанай справы, самакантроль павінны засцерагчы кожнага совецкага грамадзяніна ад гэтых гнусных замераў з боку ворагаў.

Скарыстоўваючы самыя брудныя метады ў сваёй шпіёнскай рабоце, фашысцкія разведкі разумеюць, што метады, якія прымяняюцца імі, могуць быць скарыстаны таксама і іншымі буржуазнымі разведкамі і ў той-жа ступені могуць быць прыменены супроць іх. Каб прывіць пэўную супраціўляемасць сваім падданым, фашысты выпускаюць адзін за другім кінофільмы, якія маюць мэтай знаёміць з метадамі і прыёмамі замежных разведак. Шырока рэкламуюцца такія карціны, як Мата Хары (вядомая германская шпіёнка ў Парыжы), «Порт Артур», «Наташа», «Здраднік». У апошняй карціне паказана работа шпіёнаў замежных дзяржаў на тэрыторыі Германіі. Асабліва ў гэтай карціне падкрэсліваецца, як германскі лётчык, аблытаны сецямі шпіёнаў, знайшоў у сабе сілы, не спалохаўшыся сфабрыкаваных і выкрываючых яго дакументаў, расказаць пра ўсё свайму начальніку, за што быў, у канчатковым выніку, узнагароджан падзякай перад строем. З другога боку, фашысты ўсяляк ідэалізуюць сваіх шпіёнаў. Створана цэлая серыя наскрозь хлуслівай літаратуры аб іх геройствах.

Усё гэта праследуе мэту ўцягнення моладзі ў шпіёнскую «рамантыку». Асноўныя кадры гэтых фашысцкіх «рамантыкаў» рыхтуюцца для работы супроць замежных дзяржаў. Іх разлік—пралезці праз шчыліны расхлябанасці, бесклапотнасці і прытуплення пільнасці, для таго, каб рабіць сваю гнусную справу забойстваў, дыверсій і шпіянажу.

Для выканання сваіх функцый шпіянаж мае магутны апарат, які выкарыстоўвае ўсе легальныя і нелегальныя магчымасці пранікнення ў арганізм суседніх дзяржаў. Вопыт сусветнай вайны, пасляваенны

і цяперашні прадваенны перыяд, не гледзячы на заслону тайны, якой заўсёды прыкрываецца шпіёнская работа, дае вялікую колькасць фактаў, шырокага размаху шпіёнскай дзейнасці. Шпіянаж працягвае свае шчупальцы ў дзяржаўныя ўстановы, буйныя прадпрыемствы абароннага значэння, на транспарт, маючы мэтай пранікнуць у дзяржаўную тайну, выведаць абаронныя сакрэты, раскрыць тэхнічныя ўдасканаленні, насадзіць на важнейшых пастах сваіх людзей і арганізаваць шкодніцтва, дыверсію і здрадніцтва. Шпіянаж—гэта непарыўная скрытая вайна, якая вядзецца арміяй шпіёнаў і не спыняецца ні на мінуту. Аб гэтым гавораць шматлікія судовыя працэсы пры закрытых дзверах, маючыя месца за апошні час у Амерыцы, Англіі, Францыі, Чэхаславакіі, Румыніі, Іспаніі.

---

# ЖЫЦЦЁ МЯСЦОВЫХ ПАРТАРГАНІЗАЦЫЙ

**Р. Соскін**

*Сакратар Аршанскага РК КП(б)Б*

## Далей разгортваць большэвіцкую крытыку і самакрытыку

Справаздачы і выбары кіруючых партыйных органаў ў Аршанскай партарганізацыі праходзілі пры высокай актыўнасці партыйных мас. У большасці партарганізацый (мясакамбінат, паравознае дэпо, хлебакамбінат, вагоннае дэпо, швейпромзбыт, вучгас Смаляны, механічны завод і інш.) сходы працягваліся па 2—3 дні, бо ўсе камуністы жадалі выступіць па справаздачы парткома або парторга. У партарганізацыі завода «Чырвоны барацьбіт» выступілі ўсе 11 прысутных, у партарганізацыі паравознага дэпо з 78 выступіла 40, Белдрэса—з 67 выступіла 59, мясакамбіната—з 31 выступіла 22 і т. д. Камуністы прымалі актыўны ўдзел у абмеркаванні не толькі справаздач, але і ў абмеркаванні і прыняцці рэзалюцый па справаздачах, у абмеркаванні кандыдатур для выбараў у кіруючыя партыйныя органы.

Камуністы, узброеныя рашэннямі Пленума ЦК ВКП(б) і ўказаннямі таварыша Сталіна—па-дзелавому, глыбока ўскрывалі недахопы і памылкі ў арганізацыйна-партыйнай рабоце, у пастаноўцы прапаганды і палітагітацыі, рэзка крытыкавалі свае ўласныя памылкі.

Камуністы самі дапаўнялі справаздачы сакратароў парткомаў і парторгаў, калі яны былі несамакрытычны ў ацэнцы ўнутрыпартыйнай, партыйна-масавай работы і ўласных памылак. Камуністы востра крытыкавалі партыйных кіраўнікоў за адрыў ад рабочых мас, за заседжванне ў кабінетах.

Выступаўшыя адзначалі выключную запушчанасць партыйна-палітычнай работы. На хлебакамбінаце паліт'інфарматары і агітатары нічога не рабілі, бо прыклад ў гэтым паказвалі ім самі кіраўнікі. Ніякай агітацыйнай работы не вялі прымацаваныя да брыгад сакратар парткома Шаўцоў, дырэктар камбіната Слонім, нам. дырэктара хлебазавода Дрознік, Даніленка, старшыня заўкома Французаў. Радавы член партыі тав. Кавалёў, раней мала актыўны, рэзка крытыкаваў работу сакратара парткома тав. Шаўцова, які не дапамагаў камуністам у партыйнай вучобе, ні разу не наведаў палітшколу, не цікавіўся і не кантраляваў яе работу. У рабоце партарганізацыі паравознага дэпо былі выяўлены сур'ёзныя недахопы. Сакратар парткома тав. Давідзюк фармальна адносіўся да кіраўніцтва палітшколамі, не дапамагаў агітатарам. Тав. Сталуліс заявіў: «Я з'яўляюся чытчыкам газет у цэху, але са мной ніхто ні разу не пагаварыў, не накіра-

ваў маю работу». Тав. Лагойскі, як-бы працягваючы гэту думку, адзначыў: «Тав. Давідзюк увесь час адседжваўся ў кабінеце. Я группарторг, але да мяне ў цэх Давідзюк ні разу не прышоў пагутарыць і зусім не гутарыў з рабочымі. Партком фармальна вылучаў чытчыкаў і агітатараў, але не правяраў іх, не дапамагаў у рабоце».

Комуністы будаўніцтва ільнакамбіната, бічуючы дрэнную работу парткома, унеслі практычныя прапановы: аб'яднаць партарганізацыі ільначасальнай фабрыкі і будаўніцтва ільнакамбіната ў адну, што дасць магчымасць лепш паставіць партыйна-палітычную работу на фабрыцы і на будаўніцтве.

У цэнтры ўвагі выступаючых было павышэнне рэволюцыйнай пільнасці. Дзякуючы разгортванню большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі на справаздачна-выбарчым сходзе партарганізацыі вагоннага дэпо была ўскрыта злачынная практыка ашуканства дзяржавы і партыі, грубага вочкаўцірацельства з боку начальніка вагоннага ўчастка члена партыі Рахубенка і начальніка вагона-рамонтнага пункта Савіцкага. У кіраўніцтва чыгункі яны пасылалі ілжывыя данясенні аб выкананні дзяржаўных заданняў, прыпісвалі з квартала ў квартал на 80—90 вагонаў больш, чым на самай справе выпушчана з капітальнага рамонту.

З далейшых выступленняў выявіўся такі абураючы факт.

На партыйным сходзе, які абмяркоўваў матэрыялы лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б), нам. начальніка вагоннага ўчастка тав. Гадуленка (старшыня партсходу) атрымаў ад начальніка вагоннага ўчастка Рахубенка наступную запіску:

«Калі ты пасядзіш тут яшчэ адну гадзіну ці нават менш, то крымінальшчыны не мінаваць. Намечаная работа не робіцца, а гэта ўжо не да крытыкі. Неадкладна згортвайся і закончы сваю намечаную работу, хоць гэта будзе да раніцы».

Сэнс гэтай запіскі быў расшыфраваны на справаздачным сходзе. Справа ў тым, што да сходу, прысвечанага рашэнням Пленума ЦК ВКП(б), з Масквы прыбыў інспектар і пачаў правяраць дэпо капітальнага рамонту. У параўнанні з паданаю зводкай у гэты дзень нехапала 90 вагонаў, нібыта выпушчаных з капітальнага рамонту. Што рабіць? Вочкаўцірацелі рашылі перакаціць вагоны з дэпо бягучага рамонту ў дэпо капітальнага рамонту, а ў выпадку, калі інспектар захоча праверыць дэпо бягучага рамонту, перакаціць туды гэтыя-ж вагоны. Аднак пры ўсёй гэтай махінацыі не хапала 20 вагонаў. Ашуканцы дзяржавы хутка вырашылі і гэту задачу. Пакуль інспектар будзе спаць, за ноч паставіць каробкі вагонаў, часова прыкрыць іх, а ў выпадку выявіць—выдаць за няскончаны капітальны рамонт. Але жулікі Рахубенка і К° пралічыліся. Яны былі выкрыты на справаздачна-выбарчым сходзе комуністамі дэпо.

Падобныя шкодніцкія, антыдзяржаўныя дзеянні маглі мець месца толькі таму, што ў партарганізацыі існавала групаўшчына, сямейственасць, падхалімства, узаемнае апякунства і патуранне злачынству.

Пастановай агульнага партыйнага сходу начальнік вагоннага ўчастка Рахубенка выключан з радоў партыі.

Партыйны сход даў суровую ацэнку рабоце парткома за палітычную слепату і страту рэволюцыйнай пільнасці, а сакратара не абраў у новы склад партыйнага камітэта.

На партыйным сходзе партарганізацыі будаўніцтва ільнакамбіната выявілася, што на камбінаце да канца не выкрыты паследышы Ка-

зелева—былога дырэктара камбіната, ворага народу, выключанага з партыі ў час абмену партдакументаў. У праектаванні камбіната выяўлена шкодніцтва. Газы з хімічнай вежы меркавалася накіраваць прама ў ткацкі корпус. Вентыляцыя рабілася так, што ў выпадку загарання адной кард-машыны немінуча павінен быў загарэцца ўвесь корпус. Тт. Новікаў, Севасценка, Баду, Касаткін, Сліжоў, Семашка абвінавачвалі гаспадарчае кіраўніцтва і асабліва начальніка будоўлі тав. Авербаха ў тым, што яны культывавалі сямейственасць, падхалімства, пакрывалі антыдзяржаўныя ўчынкі работнікаў апарата будканторы і т. п.

Факты грубейшага заціску крытыкі і самакрытыкі, сямейственасць, падхалімства, угодніцтва мелі месца і ў партыйных арганізацыях хлебакамбіната, мясакамбіната, з-да «Чырвоны Кастрычнік».

Член партыі тав. Цыкар, ініцыятар стаханаўскага руху на хлебакамбінаце, расказваў аб тым, які лёс спаткаў яго заметку аб зрыве стаханаўскага руху на камбінаце. «Як толькі з'явілася ў насценгазеце мая заметка, мяне выклікаў дырэктар камбіната тав. Слонім і пачаў папракаць у тым, што я пішу няпраўду. Гэта ў цябе не выйдзе,—гаварыў Слонім. А дырэктар завода № 1 Дрознік дакараў мяне тым, што я нібы зазнаўся і спекулюю на стаханаўскім руху. І вось я, пакуль не з'явілася рашэнне Пленума ЦК ВКП(б), увесь час маўчаў, бо ўсёроўна ніякіх мер па заметцы не прымалі».

Кандыдат партыі тав. Жукава, члены партыі тт. Дубяга, Даніленка Ф. прыводзілі факты абураючага падхалімства, угодніцтва, важдзізма. Дырэктара хлебакамбіната Слоніма называлі «Наш Мікаян», і гэтай пошласці ніхто не даваў адпору.

Не менш абураючыя факты грубейшага заціску крытыкі, нечувана бяздушных адносін да людзей прыводзіліся на справаздачным сходзе партыйнай арганізацыі гваздзільнага завода «Чырвоны Кастрычнік».

Кандыдат партыі стаханаўка тав. Мацулевіч, вылучаная партарганізацыяй завода ў майстры, ускрыла рад фактаў грубага заціску крытыкі начальнікам цэха Таранком. Варта было Мацулевіч падаць заяву на імя дырэктара аб тым, што ў цэху творацца бясчынствы, як Таранок з выключнай грубасцю заявіў: «Я цябе вон праганю з цэха, разлічу». Сакратар парткома тав. Зарэцкін, да якога звярнулася Мацулевіч, аднёсся да яе бяздушна і амаль месяц пратрымаў яе заяву ў парткоме. Аб тым, што Зарэцкін і дырэктар завода тав. Слонім нячула адносяцца да рабочых, да комуністаў, гаварылі таксама комуністы тт. Масальская і Корбан.

У слабой рабоце парткомаў, парторгаў, у адсутнасці большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі вінаваты таксама раённы камітэт партыі і яго кіраўнікі, якія праз меру захапляліся гаспадарчымі пытаннямі, нярэдка падмяняючы сабой совецка-гаспадарчыя органы.

Райком партыі і яго кіраўнікі павінны зрабіць сур'ёзныя палітычныя вывады з выступленняў комуністаў на справаздачна-выбарчых сходах і перабудаваць сваю работу ў адпаведнасці з рашэннямі Пленума ЦК ВКП(б) і ўказаннямі таварыша Сталіна.

* * *

Тайныя выбары павысілі адказнасць кожнага члена партыі. Пры абмеркаванні кожнай кандыдатуры комуністы выступалі па некалькі раз, стараючыся выявіць, ці заслугоўвае выстаўлены ў спіс для

тайнага галасавання таварыш палітычнага давер'я, ці здолее ён па-дзелавому ажыццявіць на практыцы пастаўленыя перад ім адказнейшыя задачы.

Даволі ўказаць, што з намечаных у спісах 25-ці арганізацый 117 кандыдатаў у выніку ўважлівага абмеркавання было адведзена 45 чалавек.

У склад парткома мясакамбіната было намечана 17 чалавек, а пры выбарах адведзена 8.

Раней выбіралі па становішчу, якое комуніст займаў на прадпрыемстве, ва ўстанове, падыходзілі, так сказаць, з ведамственага пункту погляду, па прынцыпу—трыкутнік павінен быць у парткоме. Пры тайных выбарах крытэрыем было адно—калі не годны, то хто-б ты ні быў, у партком цябе не выберуць.

На мінулых выбарах дырэктар мясакамбіната Васільеў быў упэўнены ў тым, што трапіць у склад парткома, а цяпер, пры новых выбарах, кандыдатура Васільева не была ўнесена нават у спіс для абмеркавання. Ці заслужыў Васільеў такіх адносін да сябе? Так, заслужыў. Дый як магло быць інакш, калі ён груба заціскаў крытыку, нячула адносіўся да людзей, акружыў сябе падхалімамі і яўнымі ворагамі, дапусціў рад злоўжыванняў на камбінаце.

Да выбараў комуністы падыходзілі свядома. Выбіралі лепшых, дастойных, правераных таварышоў.

Справаздачна-выбарчыя сходы ўпершыню далі зразумець таварышам, работа якіх была падвергнута рэзкай крытыцы, дзе карэняцца недахопы ў іх рабоце і як яе перабудаваць у духу рашэнняў Цэнтральнага Камітэта і ўказанняў таварыша Сталіна.

Тт. Здановіч, Шаўцоў і Юсічаў пераважнай большасцю галасоў выбраны зноў у склад парткома. Выбары з'явіліся для іх школай большэвіцкага выхавання.

У склад партыйнага камітэта мясакамбіната ўвайшлі тт. Ракін—адзін з лепшых прапагандыстаў, Радкевіч—лепшая стаханаўка, узнагароджаная граматай ЦВК БССР. У партком хлебакамбіната выбраны тт. Цыкар—ініцыятар стаханаўскага руху на камбінаце, Даніленка Матвей—дырэктар хлебазавода, вылучэнец з рабочых, правераны, аўтарытэтны таварыш.

На ўсіх без выключэння справаздачна-выбарчых сходах комуністы па-большэвіцку крытыкавалі недахопы работы сакратароў РК, членаў бюро, кіруючых работнікаў раённых арганізацый. Райком партыі крытыкавалі галоўным чынам за тое, што ён недастаткова дапамагаў партарганізацыям у наладжванні партыйнай і палітмасавай работы, што сакратары тт. Соскін і Леановіч, культпроп тав. Хаўкін, інструктары РК былі слаба звязаны з пярвічнымі партарганізацыямі, што райком партыі мала ўвагі ўдзяляў непасрэднаму кіраўніцтву і разгортванню партыйна-палітычнай работы ў масах.

* * *

Рэволюцыйная пільнасць яшчэ не знаходзіцца ў нас на патрэбнай вышыні, да канца не ліквідаваны вынікі шкодніцтва на радзе прадпрыемстваў раёна. Кожны комуніст шляхам штодзеннай сувязі з масамі павінен дабіцца шырокага і смелага разгортвання большэвіцкай дзелавой крытыкі і самакрытыкі, не гледзячы на асобы, павінен забяспечыць выкананне рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна.

Крытыка і самакрытыка на справаздачна-выбарчых сходах— толькі пачатак разгортвання сапраўднай крытыкі. Задача новаабранага раённага камітэта партыі—мабілізаваць усю партарганізацыю на далейшае разгортванне большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, на выкараненне недачотаў і прарываў у партыйна-палітычнай і гаспадарчай рабоце, на ўзмацненне рэвалюцыйнай пільнасці і выкрыццё ўсіх паследышаў контррэвалюцыйнага трацкізма—агентаў японагерманскага фашызма і іх пасобнікаў—правых.

---

**М. Чаускі**

# На Кагановіцкай райпартканферэнцыі

Гістарычны даклад і заключнае слова таварыша Сталіна, рашэнні лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) выклікалі вялікую хвалю палітычнай актыўнасці ўсіх партыйных арганізацый, усіх комуністаў.

Справаздачна-выбарчыя сходы ў Кагановіцкім раёне на аснове шырокага разгортвання большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі ператварыліся ў сур'ёзную школу выхавання і большэвіцкай загартоўкі.

Пераважная большасць партыйных сходаў праходзіла пры высокай актыўнасці комуністаў, разгортванні сапраўды большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі. Выступаўшыя не толькі выяўлялі недахопы партыйнай работы, але і ўносілі канкрэтныя прапановы для іх выпраўлення, ускрывалі факты шкодніцтва, падрыўной работы ворагаў народу, па-дзелавому падыходзілі да абмеркавання кандыдатур пры выбарах кіруючых партыйных органаў.

Выбары паказалі велізарную сілу партыйнай дэмакратыі. На выбарчых сходах выяўлен новы, здольны на справе змагацца за лінію партыі, актыў і выкрыта многа людзей непрыгодных, а часта і ворагаў. Выключна ўважлівыя адносіны да абмеркавання кандыдатур у кіруючыя органы забяспечылі моцны і працаздольны склад партыйных камітэтаў.

Большасць пастаноў, прынятых па дакладах сакратароў і парторгаў, з'яўляецца канкрэтнаю праграмай работы пярвічных арганізацый на падставе рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна.

Рэзкай і зусім правільнай крытыцы падвяргалася работа райкома. Выступаючыя ўказвалі, што райком працаваў кабінетна, члены бюро мала бывалі на прадпрыемствах, інструктары па-дзелавому не дапамагалі нізавым партарганізацыям і ў большасці займаліся зборам матэрыялаў. Правільна ацэнена была і работа культпропа, які выключна дрэнна паставіў прапаганду і палітагітацыю, не ўдзяляў патрэбнай увагі партарганізацыям вышэйшых навучальных устаноў, партарганізацыям з малай колькасцю членаў партыі.

Аб актыўнасці на справаздачна-выбарчых сходах сведчаць наступныя даныя: усяго па 133 пярвічных партарганізацыях налічваецца 2119 членаў і кандыдатаў партыі, з якіх прысутнічала 2.009 чал. або 94,8 проц. Астатнія 110 чал. не з'явіліся па ўважлівых прычынах. Па справаздачах выказалася 1.527 членаў і кандыдатаў партыі або 76 проц. прысутных.

У спісах кандыдатаў, вылучаных для абмеркавання, значылася 765 чал. Па 106 пярвічных партарганізацыях атрымалі адвод 200 чал., як нявартыя быць выбранымі ў склад парткомаў. Па 49 партыйных арганізацыях пры абмеркаванні кандыдатур выказалася 837 чал.

Справаздачна-выбарчыя сходы далі магчымасць выявіць рад новых таварышоў, палітычна-актыўных, здольных кіраваць партыйнай работай, стаць на чале мас, вучыць масы і вучыцца ў мас.

У выніку выбараў па 145 пярвічных партарганізацыях (48 парткомаў і 97 партгруп) у 32 адноўлены сакратары парткомаў, што складае 66,6 проц. Процант беларусаў у складзе сакратароў парткомаў павялічыўся на 9 чалавек. Колькасць членаў парткомаў складае 218 чал., з якіх адноўлена 51,9 проц.

У парткомы абрана 6 ордэнаносцаў і 24 стаханаўцы. Сакратаром парткома фабрыкі «Кастрычнік» абраны ордэнаносец тав. Галавач, членамі парткома: тт. Гурыновіч Л. А.,—рабочы-стаханавец член партыі з 1927 года, Фагенбоген А. О.—рабочы-стаханавец член партыі з 1931 года. У партком шклозавода «Пролетарий» увайшлі трое новых таварышоў, рабочых-стаханаўцаў. З 97 парторгаў новаабранымі з'яўляюцца 41 чал.

Значна аднавіўся склад парткомаў тых партарганізацый, работу якіх агульныя сходы прызналі нездавальняючай. Так, у парткоме НКСувязі з 5 абраных—4 новыя члены, у інстытуце права з 7 абраных—5 новых, партком завода імя Мяснікова адноўлен на 100 проц.

Характэрна, што ў радзе выпадкаў аказаліся не абранымі ў партком кіраўнікі прадпрыемстваў, наркаматаў, устаноў (нарком унутргандлю тав. Гурэвіч, былы ўпаўнаважаны камітэта па справах мастацтва тав. Пасюкевіч, нам. пракурора тав. Глезераў і інш.). На справаздачна-выбарчых сходах высветлілася, што гэтыя таварышы адарваліся ад мас, ад партыйнага жыцця.

Не абранымі аказаліся былыя сакратары парткомаў і парторгі тт. Рудкоўскі (Наркоммясцпром), Смоляр (абойная фабрыка), Пінскі (Дзяржплан), Шындлер (ЦНХУ), бо яны як след не забяспечылі работу ў партыйных арганізацыях.

Справаздачна-выбарчыя сходы ў большасці партарганізацый выявілі запушчанасць партыйнай работы, грубае парушэнне статута партыі і ўнутрыпартыйнай дэмакратыі. Многія парткомы па тры гады не адчытваліся перад агульнымі сходамі, шырока практыкавалі кааптацыю ў склад парткомаў, не разгортвалі бальшэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, недастаткова мабілізавалі ўвагу комуністаў на павышэнне рэволюцыйнай пільнасці ў адносінах ворагаў народу—трацкістаў, правых рэстаўратараў і беларускіх нацфашыстаў.

Справаздачна-выбарчыя сходы, ускрыўшы сур'ёзныя недахопы, намецілі канкрэтныя шляхі перабудовы партыйнай работы на аснове рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна.

* * *

Партыйная канферэнцыя Кагановіцкага раёна ўліла новы, свежы струмень ў работу партыйнай арганізацыі, узняла яе на новую, вышэйшую ступень. З выключнай бальшэвіцкай прынцыповасцю абмяркоўвалі комуністы дзейнасць райкома.

Практыка паказала, што стварэнне райкома і раённай партарганізацыі поўнасцю сябе апраўдала. За справаздачны перыяд партарганізацыя палітычна ўмацавалася, павысіла свой аўтарытэт сярод шырокіх мас працоўных. Набліжэнне кіруючага партыйнага органа да партыйных мас садзейнічала ўзмацненню партыйнага ўплыву на рабочых і совецкую інтэлігенцыю раёна.

Але агульны ўзровень партыйна-палітычнай работы ў раёне ўсё яшчэ застаецца нізкім. Асноўныя недахопы партработы, адзначаныя таварышом Сталіным на апошнім Пленуме ЦК ВКП(б), цалкам і поўнасцю адносяцца да партарганізацый Кагановіцкага раёна і да раённага камітэта партыі.

Ускрытыя на справаздачна-выбарчых сходах і дэлегатамі канферэнцыі буйнейшыя недахопы сведчаць аб тым, што бюро райкома не здолела забяспечыць кіраўніцтва партарганізацыямі адпаведна з іх асаблівасцямі і вытворчай спецыфікай, што захапленне бягучай гаспадарчай работай у радзе выпадкаў прывяло да палітычнай бесклапотнасці і блізарукасці.

У складзе ўсёй партарганізацыі Кагановіцкага раёна пераважнае месца па колькасці комуністаў займаюць партарганізацыі цэнтральных совецкіх устаноў, наркаматаў і вышэйшых навучальных устаноў. Комуністам гэтых арганізацый партыя даверыла выкананне важнейшых палітычных задач. Ад іх патрабуецца асаблівая пільнасць, палітычная празарлівасць, моцная сувязь з масамі, бо шпіёнская, шкодніцкая і дыверсійная дзейнасць ворага накіроўвалася на падрыў работы гэтых арганізацый.

У райкоме была пашырана шкодная думка, што паколькі на чале наркаматаў стаяць кіруючыя работнікі, паколькі там ёсць многа старых членаў партыі, то райкому, уласна кажучы, няма чаго асабліва непакоіцца. У выніку такога няправільнага погляду ў наркаматах і вышэйшых навучальных установах працвіталі зазнайства, палітычная бесклапотнасць, благадушша, комуністы страцілі густ да партыйна-палітычнай масавай работы. Іменна таму партарганізацыі Наркамзема, Наркомасветы, ВПІ не здолелі своечасова выкрыць ворагаў народу, якія пралезлі ў іх рады.

Раённы камітэт партыі недастаткова працаваў з партактывам, рэдка склікаў сходы, не вёў работы па вырошчванню, выхаванню і вылучэнню новых партыйных кадраў.

Канферэнцыя ўказала на слабую сувязь райкома з радавымі членамі партыі. Асабліва слаба пастаўлена была палітыкавыхаваўчая работа ў партарганізацыях з малой колькасцю членаў. Інструктары райкома рэдка бывалі ў нізавых партарганізацыях, а калі наведвалі іх, то займаліся толькі збіраннем паасобных матэрыялаў.

Асаблівую ўвагу дэлегатаў канферэнцыі прыцягнула работа культпропа, які абавязан быў па-большэвіцку арганізаваць прапаганду марксізма-ленінізма. Культпроп аказаўся няздольным прывесці ў рух агромны партыйны актыў раёна, навучыць яго працаваць, арганізаваць вучобу, наладзіць работу парткабінетаў.

Таварыш Сталін у сваім гістарычным дакладзе на лютаўскім Пленуме ЦК ВКП(б), гаварыў:

> «Неабходна дапоўніць стары лозунг аб аўладанні тэхнікай, які адпавядае перыяду шахцінскіх часоў, новым лозунгам аб палітычным выхаванні кадраў, аб аўладанні большэвізмам...
>
> Неабходна ўзняць палітычную работу нашай партыі на належную вышыню, паставіўшы ў цэнтр увагі задачу палітычнай асветы і большэвіцкай загартоўкі партыйных, совецкіх і гаспадарчых кадраў».

Райком партыі лічыў асноўнай сваёй задачай—стварыць як мага больш гурткоў, каб ахапіць імі ўсіх комуністаў, кандыдатаў партыі і спачуваючых. На якасць выкладання гісторыі партыі, на дыферэнцыяванае кіраўніцтва партпрапагандай у розных партарганізацыях, на вучобу паасобных комуністаў райком звяртаў мала ўвагі.

У параўнанні з 1936 годам сёлета значна вырасла колькасць гурткоў і слухачоў партыйнай сеткі. Калі ў 1936 г. было ўсяго 114 розных гурткоў, то ў гэтым годзе—151, колькасць слухачоў павялічылася адпаведна: комуністаў—з 866 да 1.723, кандыдатаў партыі—з 239 да 361 і спачуваючых—з 84 да 398. Гэтыя лічбы сведчаць аб велізарным імкненні комуністаў да партыйнай вучобы.

Захапляючыся лічбамі ахопу вучобай, райком мала клапаціўся аб яе якасці, аб пасъяховасці слухачоў. Дэлегаты канферэнцыі не мала гаварылі аб тым, што выкладанне ў радзе гурткоў вядзецца схематычна, адцягнена, што камплектаваліся яны без уліку ведаў і запатрабаванняў слухачоў. У гурток па вывучэнню гісторыі партыі па падручніку Кнорына (фабрыка імя Тэльмана) залічаны людзі з неаднолькавым узроўнем ведаў. Напрыклад, тав. Цырлін з-за недастатковай граматнасці не засвойвае матэрыялу, але лічыцца ў гуртку.

На шчотачнай фабрыцы ўсе комуністы, незалежна ад іх падрыхтоўкі, займаліся ў адным гуртку.

Прапагандысцкія кадры мала звязаны з той галіною вытворчасці, дзе яны кіруюць гурткамі. Такія прапагандысты адарваны ад мясцовага жыцця, не вывучаюць і не ведаюць сваіх слухачоў, выкладаюць без большэвіцкай завостранасці, часта зрываюць заняткі, бо трацяць час на раз'езды. На фабрыцы «Кастрычнік» прапагандыст тав. Хейфец сістэматычна зрывае вучобу. На фабрыцы імя Куйбышэва прапагандыст тав. Селоў (Наркомасветы) таксама часта зрывае заняткі. Такія адносіны прапагандыстаў да заняткаў расхалоджваюць слухачоў, культывуюць сярод іх недысцыплінаванасць, несур'ёзныя адносіны да вучобы.

Райком партыі не клапаціўся аб вырошчванні прапагандысцкіх кадраў з тых комуністаў, якія працуюць на вытворчасці. Больш таго—райком не скарыстоўваў на рабоце таварышоў, якія скончылі курсы прапагандыстаў, без усякіх на тое падстаў баючыся, што яны з работай не справяцца.

Прапагандысты ў большасці працуюць без вучэбных планаў, слухачы не ведаюць, калі яны павінны закончыць праграму.

Члены бюро райкома самі не кіруюць гурткамі і не прыцягваюць да прапагандысцкай работы кіруючых работнікаў наркаматаў, устаноў і т. д.

У выніку слабога кіраўніцтва прапагандай значная колькасць гурткоў працуе дрэнна, праграма засвойваецца нездавальняюча.

У Наркомасветы існуе гурток па вывучэнню гісторыі ВКП(б). Ён ужо трэці раз набліжаўся да матэрыялаў XV з'езда партыі і ўсё пачынаў спачатку. Не лепш пастаўлена работа ў гуртку Наркоммясцпрома (кіраўнік тав. Малінковіч), на фабрыцы імя Тэльмана (кіраўнік тав. Базыленка) і інш.

Ёсць прапагандысты, якія адносяцца да сваёй работы, як да адбыцця нейкай павіннасці, не рыхтуюцца да заняткаў. Прапагандыст тав. Базыленка пры вывучэнні матэрыялаў Пленума ЦК ВКП(б) няправільна асвятліў пытанне аб дэмакратычным цэнтралізме. Прапагандыст Наркоммясцпрома тав. Урыс пачынае заняткі без уступнага слова і адразу задае слухачам пытанні, не выпраўляючы іх няпра-

вільныя фармуліроўкі. Слухачы з-за непадрыхтаванасці да заняткаў па заданай тэме не могуць ясна выявіць твар правых рэстаўратараў капіталізма, як дапаможнікаў вайны і інтэрвентаў. Слухач тав. Астроўскі палітычна зусім не падрыхтован і знаходзіцца ў гуртку павышанага тыпу толькі дзякуючы займаемай ім пасадзе.

Кіраўнік гуртка пры 32-й школе тав. Хейфец часта зрывае заняткі. Лекцыю аб Канстытуцыі БССР правёў на вельмі нізкім ідэйна-палітычным узроўні, абышоў стрыжнёвыя пытанні ўзнікнення БССР і развіцця яе Канстытуцыі, змоўчаў аб гістарычнай ролі таварыша Сталіна ў арганізацыі БССР і КП(б)Б.

Кіраўнік гуртка пры Наркамземе тав. Савостаў не напамінае слухачам аб змесце папярэдніх заняткаў, лекцыі чытае проста з кнігі.

Райком партыі слаба кіруе прапагандыстамі. Бюро райкома, як і большасць парткомаў, рэдка ставіла справаздачы прапагандыстаў аб іх рабоце.

Сур'ёзнейшым недахопам у падборы прапагандыстаў з'яўляецца тое, што нават і пасля праверкі сярод іх аказаліся яўныя ворагі партыі, контррэвалюцыянеры, трацкісты (Мельцэр, Башкевіч, Агульнік і інш.). Партарганізацыі па-сапраўднаму не ўзяліся за арганізацыю вучобы. У перыяд паміж заняткамі гуртkoў ніхто з комуністамі не гутарыць, не цікавіцца, як яны рыхтуюцца да заняткаў, ці здавальняе іх вучоба. Культпроп не кантраліруе становішча вучобы, не бывае на занятках. Работа ўсё яшчэ праводзіцца кампанейскі.

Гісторыя партыі і ленінізм вывучаюцца адарвана ад пытанняў бягучага дня, вучоба нярэдка ператвараецца ў горшы від школьнага зазубрывання формул і цытат. Кіраўнікі партыйных арганізацый самі не правяралі становішча партыйнай прапаганды, поўнасцю перадаверыўшы гэту справу прапагандыстам.

Калі групавая агітацыя стала, у асноўным, сістэмай партыйна-масавай работы на радзе буйных прадпрыемстваў, то ў навучальных установах, на дробных прадпрыемствах і ў арцелях палітагітацыя пастаўлена надзвычай дрэнна. Гэтаму ўчастку райком амаль зусім не ўдзяляў увагі.

Асноўнай формай дапамогі і кіраўніцтва агітатарамі сталі агіткалектывы, якімі кіруюць сакратары парткомаў. Аднак раённы камітэт не сочыць за планамернасцю работы з агітатарамі, за абагуленнем вопыту работы лепшых агітатараў для перадачы слабейшым.

Скаргі на дрэннае кіраўніцтва агітатарамі ідуць з раду прадпрыемстваў нашага раёна. Агітатары тав. Зарэцкі (фабрыка імя Тэльмана) гаворыць: «Я ўладаю картай дрэнна. Ведаю толькі тое, што атрымаў на курсах агітатараў пры райкоме партыі. Я гавару рабочым, што па новай Канстытуцыі ў нас 11 рэспублік, а паказаць па карце, дзе яны знаходзяцца,—не магу».

Такавы асноўныя недахопы работы райкома, ускрытыя партыйнай канферэнцыяй.

Справаздачна-выбарчыя партыйныя сходы і раённая партканферэнцыя паказалі, што партыйная маса пачала актывізавацца ў разгортванні большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, узмацніўся пульс партыйнай работы.

Дэлегаты партканферэнцыі падкрэслівалі, што раённая партарганізацыя, як і ўся КП(б)Б, працуе ва ўмовах пагранічнай рэспублікі, у некалькіх дзесятках кілометраў ад фашысцкай Польшчы. У гэтай абстаноўцы нязмерна вырастае для нас значэнне мудрага папярэ-

джання таварыша Сталіна аб тым, што «пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы, засылаемыя ў нашы тылы агентамі замежных дзяржаў».

Наша задача—на уроках прарываў і памылак, дапушчаных у рабоце, навучыцца сапраўды большэвіцкай пільнасці, ні на хвіліну не аслабляць бязлітаснай барацьбы з япона-германа-трацкісцкімі агентамі фашызма і іх прамымі пасобнікамі—правымі, з беларускімі нацыянал-фашыстамі, з усімі ворагамі соцыялізма.

А. Казіміраў

## Пад знакам разгортвання крытыкі

Даклад сакратара парткома Крычаўскага цэментнага завода на справаздачна-выбарчым сходзе не выклікаў ніякага хвалявання ў комуністаў, бо яны ведалі, што партыйная арганізацыя завода працуе дрэнна ўжо шэсць год. За гэты час змянілася дзевяць сакратароў парткома і ні адзін з іх не адчытваўся ў сваёй рабоце, не выбіраўся на партыйным сходзе. Тры гады таму назад у сакратары парткома трапіў нават беспартыйны нехта Лабар, які аказаўся ворагам народу.

Масавай работы на заводзе не існавала. У заняпадзе была работа абаронная, работа комсамольскай арганізацыі, дрэнна пастаўлена партыйная вучоба.

На заводзе знайшлі сабе прытулак варожыя элементы.

Дырэктар завода Цімафееў, былы старшыня заўкома Казельскі ўзялі пад сваю апеку трацкіста Барскага, прэміравалі яго і нават далі рэкамендацыю і характарыстыку для аднаўлення ў партыі.

Ярыя трацкісты Іваноў і Гурэвіч пад бокам комуністаў вялі антысовецкую работу, пакуль не былі выкрыты праз галаву партарганізацыі і заводакіраўніцтва як ворагі народу.

Здавалася-б, што сакратар парткома Карпекін у сваёй справаздачы павінен быў даць палітычную ацэнку работы парткома, раскрытыкаваць прарывы і памылкі, мабілізаваць комуністаў на разгортванне сапраўды большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі. Аднак гэтага ён не зрабіў. Комуністы праслухалі бяззубы і несамакрытычны даклад сакратара і зусім для яго нечакана выступілі з вострай крытыкай, называлі канкрэтных віноўнікаў прарываў у рабоце парткома, вызначалі меры для палепшання работы ў далейшым.

«За тры гады, што знаходжуся ў гэтай партарганізацыі,—заявіў кандыдат партыі тав. Чэрненкоў,—я выступаю ўпершыню. Ужо мінула шэсць год, як я з'яўляюся кандыдатам партыі, а прымалі мяне з шасцімесячным кандыдацкім стажам. Партком не зацікавіўся гэтай акалічнасцю, не дапамагаў у павышэнні майго палітузроўню. Райком партыі не кіруе масава-палітычнай работай, а больш займаецца гаспадарчай».

Спрэчкі працягваліся 4 дні. Выступілі ўсе 35 прысутных на партсходзе комуністаў, нават «маўчальнікі», якіх партком раней не заўважваў.

Пастанова была выпрацавана тут-жа, на сходзе. Комуністы патрабавалі, каб у далейшым партком на кожным партыйным сходзе інфармаваў аб выкананні гэтай пастановы.

У новы склад парткома намечана было 17 кандыдатур. У выніку ўважлівага абмеркавання было адведзена 12 чалавек. У спісе для тайнага галасавання засталіся лепшыя людзі, якія выраслі на заводзе.

Справаздачна-выбарчы сход на цэментным заводзе ператварыўся ў сапраўдную школу выхавання. Не дарма комуністы гаварылі: «Пабольш-бы такіх партсходаў на нашым заводзе. Палепшылася-б партыйная і палітвыхаваўчая работа, лепш працаваў-бы і завод».

На-жаль, у іншых партарганізацыях Крычаўскага раёна падобных сходаў праведзена мала.

У большасці партарганізацый (РВК, дэпо, Эмануілаўскага спіртзавода, кааперацыі, горсовета і інш.) парторгі і сакратары парткомаў зрабілі бяззубыя расплывчатыя даклады.

Парторг РВК тав. Цімашэнка спрабаваў затушаваць прарывы ў рабоце райвыканкома і яго аддзелаў, утоіць антыпартыйныя паводзіны членаў партарганізацый. Тав. Цімашэнка ўмаўчаў пра тое, што Рагайка, будучы старшынёю Крычаўскага РВК, цягаў за сабою «хвасты»: на пасаду адказнага сакратара пасадзіў свайго знаёмага былога кантара Вясёлага, выключанага з партыі, судзімага. Не расказаў Цімашэнка і аб тым, што былы сакратар парткома Радзіонаў, страціўшы рэволюцыйную пільнасць, дапусціў у апарат РВК ворагаў народу—жулікаў, трацкістаў, эсэраў, шпіёнаў—Зайцава, Чэшко, Ганчарова, Вясёлага, Жэлезоўскага і інш, што Радзіонаў прыстроіў на адказныя работы сваіх знаёмых Шумейка і Вакушка, судзімых за растраты і раскрадванне дзяржаўнай маемасці (памолзбору і інш.), што ён наладжваў з імі папойкі і нават даваў ім рэкамендацыі ў спачуваючыя.

Аб усім гэтым гаварылі і выступаўшыя ў спрэчках комуністы, але няпоўным голасам, што сведчыць аб неразуменні імі рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна.

На партыйным сходзе Эмануілаўскага спіртзавода парторг Карнееў зусім адмовіўся крытыкаваць свае недахопы. «Няхай другія мяне крытыкуюць»,—заявіў ён. У гэтай партарганізацыі за мінулы год было праведзена ўсяго 6 партсходаў. Комуністы (7 чалавек) не наведвалі партвучобы, не вялі масава-палітычнай работы сярод рабочых завода і калгаснікаў.

Дырэктар завода Немалякін зацiскаў крытыку. Рабочыя баяліся крытыкаваць, і нават комуністы ні ў чым не пярэчылі дырэктару, калі ён рабіў няправільна. На справаздачна-выбарчым сходзе комуністы расказалі аб недастойных звання комуніста паводзінах Немалякіна, які тут-жа імкнуўся ўзвесці на іх паклёп. За дырэктарам Немалякіным лічыцца шмат злоўжыванняў, што правяраецца зараз пракуратурай, КПК і КСК.

Зусім дрэнна прайшоў справаздачна-выбарчы сход у партарганізацыі асветнікаў. Дырэктар дашкольнага тэхнікума Шумілёў, крытыкуючы работу парторга, звёў сваё выступленне да асабістых з ім разрахункаў, папракаючы парторга ў тым, што ён не даў цвікоў.

Несамакрытычны, хвалебны даклад зрабіў парторг Вертліб на справаздачна-выбарчым сходзе каапераңыйных работнікаў. Ён ні словам не абмовіўся аб дрэннай рабоце кааперацыі Крычаўскага раёна, аб засмечанасці яе жулікамі, растратчыкамі і чужакамі (Шаршнёў, Айзенштат, Сондзік, Шнейдэрман і інш.), аб сямейственасці і падхалімстве ў сістэме раённай кааперацыі. Партарганізацыя зрабіла правільна, што больш не выбрала Вертліба парторгам.

Ажыўлена прайшлі партыйныя сходы на чыгуначным вузле, дэпо, станцыі і дыстанцыі. Комуністы жорстка крытыкавалі сакратароў

парткомаў за адсутнасць работы з кандыдатамі партыі і спачуваючымі, за дрэнную пастаноўку партыйнай вучобы. Комуніст тав. Шахаў раскрытыкаваў парочны метад работы сакратара парткома дэпо Голасава, які больш займаўся гаспадарчымі справамі, а людзей не вывучаў. Ён не ведаў аб тым, што Бакуменка і Макарэвіч жульніцкім спосабам зрабілі сябе стаханаўцамі і атрымлівалі наркомаўскія прэміі за «безаварыйную» работу. Комуніст тав. Лешчынскі крытыкаваў начальніка палітаддзела Магілеўскага аддзялення тав. Завістоўскага за тое, што ён амаль ніякай увагі не звяртаў на Крычаўскі чыгуначны вузел.

* * *

Райком партыі дрэнна кіраваў выбарамі, і таму быў дапушчан рад скажэнняў інструкцыі ЦК ВКП(б). Так, у партарганізацыі РВК сакратара парткома абралі комуністы на агульным сходзе, а не на паседжанні парткома. Прышлося выбары адмяніць і правесці паўторныя. Ва многіх пярвічных партарганізацыях на справаздачна-выбарчых сходах вельмі слаба была разгорнута крытыка і самакрытыка. Райком фактычна самаўхіліўся ад кіраўніцтва выбарамі, спакойна назіраў за імі, паддаўшыся ложнай дэмакратыі, пусціў гэту важнейшую справу на самацёк.

Выбары ў пярвічных партарганізацыях закончыліся. Закончыла сваю работу і райпартканферэнцыя. Яны вынеслі пастановы з указаннем канкрэтных мер па перабудове ўсёй работы ў раёне на аснове рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна. Задачы новаабраных парткомаў, парторгаў і райкома КП(б)Б—арганізаваць работу сапраўды па-новаму.

---

## Ельскі райком партыі са спачуваючымі не працуе

Пры пярвічных партарганізацыях Ельскага раёна налічваецца 10 груп спачуваючых. Усяго ў раёне 62 спачуваючыя.

Сярод спачуваючых—лепшыя, знатныя людзі раёна: тт. **Каўдзерка** Марыя—даярка соўгаса «Дабрынь», узнагароджаная ордэнам Леніна; **Тарынскі**—памочнік машыніста вузкакалейкі, перавыконвае вытворчыя нормы, працуе без аварый, прымае актыўны ўдзел у грамадскай рабоце, карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод рабочых; **Каваленка** Міхаіл—брыгадзір калгаса (Скараднянскі сельсовет), удзельнік грамадзянскай вайны, яго брыгада вось ўжо некалькі год трымае пяршынства; **Куліч** Міхаіл—загадчык фермы калгаса імя Варашылава, кіруе гуртком зоатэхмінімума і ўжо два гады захоўвае пагалоўе рагатай жывёлы без адыходу. Ёсць і рад іншых растучых таварышоў.

З гэтымі людзьмі трэба працаваць. Іх трэба вучыць, выхоўваць, рыхтаваць да ўступлення ў партыю Леніна—Сталіна.

Снежаньскі Пленум ЦК ВКП(б) (1935 год) у сваіх рашэннях аб падрыхтоўцы да прыёму ў партыю запісаў:

> Ва ўсёй рабоце па прыёму ў партыю партыйныя арганізацыі павінны сур'ёзнейшую ўвагу звярнуць на групы спачуваючых, як на важнейшы рэзерв для папаўнення радоў ВКП(б). Неабходна ў найкарацейшы тэрмін знішчыць недахопы, а нярэдка і забыццё работы са спачуваючымі. Партыйныя арганізацыі ў першую чаргу павінны выправіць зусім нецярпімае становішча, калі работу са спачуваючымі, у лепшым выпадку, зводзяць да ўцягнення іх у гурткі палітграматы і калі самі кіраўнікі пярвічных і раённых арганізацый зусім не звязаны са спачуваючымі, не ведаюць іх і з імі не працуюць».

Як-жа выконваецца гэта рашэнне Пленума ЦК ВКП(б) ў Ельску?

Праведзенай АКПО ЦК КП(б)Б праверкай выяўлена, што Ельскі райком КП(б)Б не зразумеў усёй палітычнай важнасці работы са спачуваючымі, як з важнейшым рэзервам партыі. За апошні час, пасля абмену партдакументаў, работа са спачуваючымі ў Ельскай партарганізацыі не толькі не палепшылася, але зусім заглохла. Рост спачуваючых са снежня 1936 года зусім спыніўся. У 1937 годзе ў групу спачуваючых не прынята ні аднаго чалавека.

Работа з групамі спачуваючых у Ельскім раёне пастаўлена зусім нездавальняюча. Кіраўнікі пярвічных партарганізацый, сакратар, члены РК і інструктары райкома партыі не звязаны са спачуваючымі, не працуюць з імі, не ведаюць і не вывучаюць іх.

Абыякавыя адносіны да прыёму ў спачуваючыя, забыццё работы з імі прывяло ў радзе выпадкаў да засмечанасці груп спачуваючых чуждымі элементамі.

Партарганізацыя Рэмезаўскага сельсовета прыняла ў спачуваючыя Баруйка, які зараз выключан за кражу калгаснага жыта. Гуро Ісак—зоатэхнік, прыняты ў спачуваючыя пярвічнай партарганізацыяй калгаса «Дабрынь», аказаўся шкоднікам і зараз асуджан за вялікі адыход пагалоўя. Пярвічная партарганізацыя Ельскага райвыканкома прыняла ў групу спачуваючых інспектара гандлю Марозава, які раней быў выключан з партыі. Гэта-ж партарганізацыя прыняла ў спачуваючыя райурача Сервідовіча з адной рэкамендацыяй, бо другая рэкамендацыя была яму выдана трацкістам, якога райком выключыў з партыі. У соўгасе «Дабрынь» быў прынят у спачуваючыя нехта Нумерзіцкі, у мінулым дэзерцір Чырвонай Арміі.

Снежаньскі Пленум ЦК ВКП(б) указваў, што для таго, каб лепшыя са спачуваючых прышлі ў рады ВКП(б), неабходна «прыцягваць іх у адпаведнасці з патрабаваннямі статута партыі да выканання паасобных даручэнняў, даводзіць да іх ведама і растлумачваць ім важнейшыя рашэнні партыі і ўрада, паставіць са спачуваючымі сур'ёзную палітычную работу і выкоўваць у іх навыкі большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны».

Рэалізацыю і праверку выканання гэтых указанняў Пленума ЦК ВКП(б) Ельскі райком партыі не забяспечыў. Пярвічныя партарганізацыі калгасаў «Чырвоны араты», «Роза Люксембург» і «Кузмічы» ніякай палітычнай работы са спачуваючымі не праводзяць, не даюць ім ніякіх даручэнняў і ў партработу іх не ўцягваюць. Партарганізацыі вузкакалейкі і соўгаса «Дабрынь» усім спачуваючым далі аднолькавае даручэнне,—быць чытчыкамі газет у брыгадах. Даўшы спачуваючым такое даручэнне, ні пярвічная партарганізацыя, ні райком партыі ў рабоце ім не дапамагалі, не інструктавалі, не правяралі, як кожны спраўляецца з партыйным даручэннем.

Такі агульны, фармальны падыход да спачуваючых не толькі не выхоўвае іх, а наадварот—зніжае актыўнасць.

Ёсць нават і такія выпадкі, калі палітычна больш развітым таварышам даюць другарадныя даручэнні і наадварот, менш развітым, няграматным, даюць такія даручэнні, з якімі яны пры ўсім жаданні не здольны справіцца. Напрыклад, пярвічная партарганізацыя вузкакалейкі спачуваючаму тав. Голікаву дала даручэнне абвяшчаць слухачоў палітгуртка аб дні заняткаў, тым часам як тав. Голікаў па сваёй палітычнай падрыхтоўцы ўпаўне можа выконваць больш сур'ёзныя партыйныя даручэнні.

У соўгасе «Дабрынь» спачуваючай Каўдзерка Марыі даручылі чытку газет у брыгадзе. Пярвічная партарганізацыя і райком партыі не ўлічылі таго, што Каўдзерка Марыя зусім няграматная і чытаць не ўмее.

Многія няграматныя і малаграматныя спачуваючыя—калгасніца-актывістка Шынкарчык Ганна (калгас «Чырвоны араты»), Жыгадло Нікалай (партарганізацыя Скараднянскага сельсовета), ордэнаноска Каўдзерка Марыя (соўгас «Дабрынь») і інш.—пакінуты самі на сябе, іх палітычным ростам і вучобай ніхто не займаецца.

Наогул ахоп спачуваючых вучобай у Ельскім раёне вельмі слабы. З 62 спачуваючых лічыцца ў гуртках партпалітвучобы толькі 39 чалавек. 23 чалавекі нават не лічацца ў гуртках. Вярней будзе сказаць, што не вучацца амаль усе спачуваючыя. Пастаянныя дні вучобы не вызначаны. Гурткі збіраюцца ад выпадку да выпадку і ў сваёй большасці не займаюцца. У палітгуртку спачуваючых пры партарга-

нізацыі Махновіцкага сельсовета з 10 слухачоў на занятках бываюць усяго 5 чалавек. Не лепш становішча і ў іншых гуртках.

Вельмі рэдка спачуваючыя наведваюць адкрытыя партсходы. У Скараднянскай партарганізацыі за 1937 год праведзена 7 адкрытых партсходаў, а спачуваючыя былі на двух. Толькі два разы прысутнічалі спачуваючыя на сходах партарганізацыі вузкакалейкі.

Рашуча трэба асудзіць практыку, што да апошняга часу ў раёне існуюць яшчэ так званыя спачуваючыя-«адзіночкі». Такіх у Ельску на учоце райкома лічыцца 17 чалавек. Яны не вучацца. Ніхто ніколі іх не збіраў, ніякай работы з імі не праводзіў.

У калгасах раёна, сярод рабочых соўгаса «Дабрынь», на вузкакалейцы многа беспартыйнага актыва. Але палітмасавай работы з гэтым актывам райком партыі не праводзіць. Ні ў пярвічных партарганізацыях, ні ў райкоме учоту беспартыйнага актыва не знойдзеш.

Нават у планах работы і выпрацаваных райкомам мерапрыемствах па палітмасавай рабоце ў раёне нічога не сказана аб разгортванні работы з беспартыйным актывам.

У 1937 годзе Ельскі райком партыі гэтымі пытаннямі, відаць, яшчэ «не паспеў» заняцца.

---

# Ажывіць парткіраўніцтва комсамолам у Плешчаніцкім раёне

Паварот у палітычным жыцці краіны, рост палітычнай актыўнасці працоўных прад'яўляюць новыя, павышаныя патрабаванні не толькі да партыі, якая павінна ўзначаліць гэты паварот, але і да комсамола. Комсамол—першы памочнік партыі—павінен узначаліць растучую актыўнасць моладзі, яшчэ мацней згуртаваць яе вакол партыі і совецкай улады.

З гэтай важнейшай задачай комсамол паспяхова можа справіцца толькі пры ўмове штодзеннага партыйнага кіраўніцтва. Партыйныя кіраўнікі не павінны забываць, што выхаванне моладзі—справа не толькі комсамольскіх, але і партыйных арганізацый.

Нажаль, аб гэтым прыходзіцца напамінаць шмат каму з партыйных кіраўнікоў.

Характэрна, што на раённых партканферэнцыях у Менску, Гомелі, Магілеве і інш. ні дакладчыкі—сакратары райкомаў партыі, ні выступаўшыя па дакладах партыйныя работнікі не ўдзялялі патрэбнай увагі комсамолу.

Дапамога комсамолу да апошняга часу абмяжоўваецца вылучэннем «партпрымацаваных», так званых «партыйных дзядзек», якім перадаваяраецца парткіраўніцтва комсамолам.

Праверка становішча партыйнага кіраўніцтва комсамолам у Плешчаніцкім раёне, праведзеная АКПО ЦК КП(б)Б, толькі пацвердзіла гэту характарыстыку. Рад сур'ёзных недахопаў у рабоце комсамольскай арганізацыі сведчыць аб тым, што партарганізацыя амаль не займалася комсамолам.

У 49 пярвічных комсамольскіх арганізацыях—402 члены комсамола. З іх 119 прынята ў 1936 г. і 48—у 1937 годзе. Ва ўсей раённай арганізацыі толькі 84 комсамолкі, з якіх 10 прыняты ў 1937 годзе. Рост, як бачым, невялікі. Адсутнасць палітмасавай работы сярод несаюзнай моладзі, адарванасць раённых кіраўнікоў ад пярвічных арганізацый—вось прычыны зусім слабога росту. З 24 пагранічных калгасаў толькі ў 12 ёсць пярвічныя комсамольскія арганізацыі. РК ЛКСМБ вельмі марудзіць з разглядам заяў аб уступленні ў комсамол і яшчэ з 1936 года трымае неразгледжанымі 24 заявы.

Райком комсамола не знаёмы з жыццём несаюзнай моладзі, не ведае сваіх пярвічных арганізацый, бо работнікі райкома іх не наведваюць. Не былі яны ні ў мінулым, ні ў гэтым годзе нават у арганізацыях раённага цэнтра (РВК, райсаюз, МТС і інш.).

Райком комсамола зусім не клапоціцца аб росце комсамола, не вядзе работу сярод несаюзнай моладзі. Райком партыі ні разу не зацікавіўся ростам комсамола і не дапамог арганізаваць гэту важнейшую справу.

* * *

Вельмі дрэнна пастаўлена комсамольская палітвучоба. У раёне лічыцца 36 комсамольскіх палітшкол, а на справе працуюць нармальна і канчаюць праграму толькі 3, 5 палітшкол зусім на працуе, бо няма прапагандыстаў, 16 школ за ўвесь навучальны год прапрацавалі толькі дзве тэмы, і 12 школ—па 3—4 тэмы. 3 400 комсамольцаў 80 чалавек зусім не ахоплены вучобай. Ведаючы аб гэтым, райком партыі не палічыў неабходным прыняць адпаведныя меры. Заг. культпропам райкома партыі тав. Хурсік толькі праштампаваў прадстаўлены яму спіс прапагандыстаў комсамольскіх палітшкол, асабіста іх не ведаючы. Вылучаныя для прапагандысцкай работы ў комсамольскіх палітшколах 7 комуністаў нікім не правяраюцца і таму працуюць ад выпадку да выпадку. Кіраўнік комсамольскай палітшколы кастрычніцкай МТС тав. Кацман прапрацаваў толькі адну тэму. Прапагандыст соўгаса «Замошша» тав. Жукоўскі зусім не праводзіў заняткаў. Прапагандыст тав. Сымончык толькі раз займаўся ў палітшколе пры Плешчаніцкай МТС. Кіраўнікі палітшкол у калгасах імя Варашылава і «Спартак» комсамольцы Карповіч і Мядзведзева прапрацавалі ўсяго па дзве тэмы. Аналагічны малюнак і ў астатніх палітшколах.

У выніку якасць палітвучобы зусім нізкая. Большасць заняткаў праводзіцца «метадам» чыткі. У гуртках па вывучэнню гісторыі партыі не выкарыстоўваюцца першакрыніцы—творы Леніна і Сталіна. Матэрыялы не ўвязваюцца з бягучымі палітычнымі падзеямі міжнароднага і ўнутранага характару. За ўвесь час ні райком партыі, ні райком комсамола не абмеркавалі пытання аб становішчы палітвучобы, не праверылі работы ні адной палітшколы.

Яшчэ горш з агульнаадукацыйнай і тэхнічнай вучобай. У 1936 годзе былі арганізаваны 24 агульнаадукацыйныя школы, разлічаныя на 400 чалавек комсамольцаў і несаюзнай моладзі. Зараз працуе толькі 5 школ, астатнія распаліся. У калгасах раёна няма агратэхнічных гурткоў. Гурток па аўтамабільнай справе, створаны пры пярвічнай арганізацыі РВК, ні разу не збіраўся. Нават у МТС, якія маюць добрую базу для тэхнічнай асветы, нічога не зроблена для павышэння кваліфікацыі маладых трактарыстаў, механікаў і т. д.

Вучобай моладзі ў Плешчаніцах фактычна ніхто не займаецца. Райком комсамола спадзяецца на райана, райана—на комсамол, а райком партыі спакойна наглядае з боку. У Плешчаніцах многа яшчэ бяспечнасці ў адносінах партыйных і комсамольскіх кіраўнікоў да палітвучобы і прапаганды.

Агітацыя і масавая работа ў Плешчаніцах таксама нікуды нявартыя. За ўвесь перыяд спачатку мінулага года для комсамольцаў і моладзі не было прачытана ні адной лекцыі, ні аднаго дакладу. У соўгасе «Замошша»—60 чалавек несаюзнай моладзі, але з імі зусім не працуюць. Характэрна, што з 14 стаханаўцаў, якія меў соўгас у мінулым годзе, з-за бяздзейнасці начальніка палітаддзела тав. Петровіча і сакратара комсамольскага камітэта тав. Блох не засталося ніводнага стаханаўца.

Пра культурнае абслугоўванне рабочых соўгаса і калгаснікаў, можна сказаць, зусім забыліся. У пагранічныя калгасы «Большэвік» і імя Будзённага толькі адзін раз у мінулым годзе прыязджала кіно-перасоўка. Дамы соцкультуры і калгасныя хата-чытальні амаль зусім не працуюць.

* * *

Сярод комсамольцаў і моладзі не разгорнута ваенна-абаронная работа. У сельсоветах, калгасах не арганізавана здача норм на «Варашылаўскага стралка», «ПВХО», «ГСО». У калгасе «Чырвоны Кастрычнік», дзе 70 чалавек моладзі,—толькі 3 значкісты «ВС». У соўгасе «Замошша» на 60 чалавек моладзі толькі 6 значкістаў «ВС». У комсамольскай арганізацыі МТС няма ні аднаго «Варашылаўскага стралка». Зусім няма значкістаў «ПВХО», «ГСО», гурткоў санітарнай абароны. У раёне ёсць адзін планер. У планерную школу праведзен запіс, але заняткаў яшчэ не пачыналі.

У моладзі вялікая цяга да вывучэння стралковай, планернай справы, парашутызма. Яна хоча ўсебакова аўладаць ваеннай тэхнікай, каб быць заўжды гатовай абараняць сваю соцыялістычную радзіму. Аднак раённыя арганізацыі не забяспечылі пастаноўкі гэтай важнейшай работы ў пагранічным раёне.

* * *

Партыйнае кіраўніцтва комсамольскай арганізацыяй у Плешчаніцкім раёне вядзецца па-старынцы. Бывала, сакратар райкома партыі часам перакінецца парай слоў з сакратаром райкома комсамола і лічыць, што сваю місію выканаў цалкам. Другі сакратар райкома партыі тав. Кліноўскі, хоць і з'яўляецца членам бюро РК комсамола, але за паўтара гады пабываў там толькі 2 разы. Інструктары-ж райкома партыі дык і зусім не цікавяцца пярвічнымі комсамольскімі арганізацыямі і нічога аб іх не ведаюць. Інстытут «партпрымацаваных» ні ў чым не здолеў дапамагчы комсамолу. Партпрымацаваны да комсамольскай арганізацыі РВК тав. Шкель сам палітычна няграматны і ні разу не выступіў на комсамольскім сходзе. У астатніх арганізацыях таксама не было выпадку, каб партпрымацаваны зрабіў на комсамольскім сходзе даклад, або правёў гутарку з моладдзю.

Пленум ЦК ВЛКСМ паставіў перад комсамолам выключна адказныя задачы. Комсамол павінен цесна звязацца з шырокімі масамі моладзі, каб здолець па-большэвіцку правесці выбары комсамольскіх органаў, прыняць актыўны ўдзел у выбарах профсаюзных органаў, дастойна сустрэць выбары советаў на аснове Сталінскай Канстытуцыі. Комсамолу цяпер, як ніколі, патрэбна жывое сапраўднае партыйнае кіраўніцтва. Аднак яго няма яшчэ ў Плешчаніцах.

# Пасля справаздачна-выбарчых сходаў

Справаздачна-выбарчыя сходы пярвічных партарганізацый у Віцебску прашлі пры вялікай актыўнасці комуністаў і суровай крытыцы недахопаў работы партыйных камітэтаў. Аднак, новаабраныя партыйныя камітэты не ўзяліся за неадкладнае і энергічнае выпраўленне ўскрытых на гэтых сходах недахопаў, не змянілі старыя метады работы, не здолелі ўзначаліць узрослую актыўнасць комуністаў і ўтрымаць яе на той вышыні, якой яна дасягнула ў перыяд справаздачна-выбарчых сходаў. У некаторых партыйных работнікаў зноў з'явіліся настроі самасупакоенасці і дабрадушша. На крытыку, што разгарнулася на партыйных сходах, яны сталі глядзець як на з'яву часовую, як на мінулую кампанію: «пасамакрытыкаваліся і хопіць».

Уцягванне ўсіх членаў партыйнага камітэта ў работу парткомаў часта праводзіцца механічна. На швейнай фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» дырэктару, напр., даручана ведаць стаханаўскім рухам, рэдактару шматтыражкі—друкам, трэцяму члену парткома—праверкай выканання. Шкоднасць падобнага размеркавання абавязкаў, як вядома, ужо даўно асуджана ЦК ВКП(б). Партыйныя камітэты яшчэ не склалі планаў сваёй работы. Ужо больш месяца прайшло, як закончыліся справаздачна-выбарчыя сходы, але парткомы ні разу не адчыталіся перад арганізацыяй у тым, што яны зрабілі для таго, каб выканаць прынятыя сходамі рашэнні.

Такая практыка работы, калі партыйныя кіраўнікі, цураючыся мас, цішком вырашаюць пытанні, нічога агульнага не мае з указаннямі таварыша Сталіна:

«Што значыць правільна кіраваць?

Гэта зусім не значыць сядзець у канцылярыі і страчыць дырэктывы.

Правільна кіраваць—гэта значыць:

па-першае, знайсці правільнае рашэнне пытання. А правільнае рашэнне немагчыма знайсці без уліку вопыту мас, якія на сваёй уласнай спіне адчуваюць рэзультаты нашага кіраўніцтва;

па-другое, арганізаваць правядзенне ў жыццё правільнага рашэння, чаго, аднак, нельга зрабіць без прамой дапамогі з боку мас;

па-трэцяе, арганізаваць праверку выканання гэтага рашэння, чаго, зноў-такі, немагчыма зрабіць без прамой дапамогі мас».

Па прыкладу парткомаў не перабудоўваюцца і профсаюзныя арганізацыі.

Вось, напрыклад.

9 студзеня г. г. дырэктар швейнай фабрыкі выступіў на агульнафабрычным сходзе з дакладам аб выніках гаспадарчай дзейнасці фабрыкі за 1936 год. Па дакладу выступіла толькі 9 чалавек з 700 прысутных. Рабочых і служачых на фабрыцы амаль 5000.

Цэхавыя сходы на фабрыцы праводзяцца рэдка. Прычым, па дакладах спрэчак не адкрываюць. Зменныя сходы ўкладваюцца ў 30—50 мінут, у час абедзенага перапынку.

У другой палове лютага і першай сакавіка адбыліся сходы з поваду выбараў цэхкомаў. У змене «А» ватнага цэху сход працягваўся 45 мінут, у спрэчках выступіла 5 чалавек; у змене «Б» справаздачы і спрэчак не было, правялі толькі выбары. У закройным цэху сход заняў два абедзеныя перапынкі, выказалася ўсяго 2 чалавекі. У самым вялікім цэху—касцюмерным—сход змены «А» працягваўся 20 мінут, выказалася 3 чалавекі; у змене «Б» справаздач і спрэчак не адкрывалі, правялі толькі выбары.

Так прашлі выбары цэхавых профсаюзных камітэтаў. Прыкладна, раз у пяці-або дзесяцідзёнку праводзяцца кароценькія, на 10—15 мінут, нарады па ўнутраных пытаннях цэха.

Гэтыя факты сведчаць аб тым, што кіраўніцтва фабрыкі і профсаюзная арганізацыя не забяспечылі глыбокага, грунтоўнага масавага абмеркавання пастаўленых пытанняў. Кіраўнікі забылі, што яны павінны не толькі вучыць масы, але і вучыцца ў мас.

> «Мы, кіраўнікі,—гаворыць таварыш Сталін,—бачым рэчы, падзеі, людзей толькі з аднаго боку, я-б сказаў—зверху, наша поле зроку, стала быць, больш ці менш абмежавана. Масы, наадварот, бачаць рэчы, падзеі, людзей з другога боку, я-б сказаў—знізу. Іх поле зроку таксама, стала быць, у вядомай ступені абмежавана. Каб атрымаць правільнае рашэнне пытання, трэба аб'яднаць гэтыя два вопыты. Толькі ў такім выпадку кіраўніцтва будзе правільным.
>
> Вось што значыць не толькі вучыць масы, але і вучыцца ў мас».

Таварыш Сталін і ЦК ВКП(б) неаднаразова заклікалі «пакончыць з недаацэнкай партыйна-палітычнай работы і зрабіць рашучы паварот у бок усямернага ўзмацнення такой работы, у бок узмацнення палітычнай пільнасці».

За час, які прашоў пасля справаздачна-выбарчых сходаў, партарганізацыі ўсё яшчэ дрэнна клапоцяцца аб выхаванні ў комуністаў і беспартыйных рабочых палітычнай пільнасці, бальшэвіцкага падыходу да непаладак на вытворчасці, да памылак людзей.

У ветзоаінстытуце ў канцы красавіка органамі НКУС былі арыштаваны 3 навуковыя работнікі, якія аказаліся ворагамі народу. Партыйная арганізацыя, як зараз выяснілася, мела поўную падставу ўзяць пад сумненне гэтых людзей. Адзін з гэтых прахадзімцаў праводзіў у сваіх лекцыях махрова-фашысцкую агітацыю аб культурных і некультурных расах. Незадоўга да арышту партарганізацыя ўсклала на яго абавязкі рэдактара агульнаінстытуцкай газеты. Паасобныя навуковыя работнікі ў сваіх лекцыях рабілі антысовецкія выпады. Самы факт арышту аказаўся для партарганізацыі інстытута зусім

нечаканым. Гэта можна вытлумачыць толькі адсутнасцю большэвіцкай пільнасці. У інстытуце была створана абстаноўка беспакаранасці. Адносіны між навуковымі работнікамі будаваліся не на прынцыповай аснове, а на пошлай мяшчанскай маралі—«не пакрыўдзіць», якою карыстаўся класавы вораг. Рашучай барацьбы з такімі настроямі партыйная арганізацыя не вяла, фіксуючы сваю ўвагу на з'явах павярховых. У канцы красавіка адбыліся сходы студэнтаў. Студэнцтва выявіла цэлы рад фактаў, аб якіх не ведаў партыйны камітэт, бо быў адарваны ад студэнцтва.

А вось некалькі фактаў з работы швейнай фабрыкі. Новы начальнік закройнага цэха із'яў больш ста парфіровак (узораў для раскрою матэрыялаў), як шкодніцкі зробленых. Парфіроўкі былі зроблены так, што скроеная па іх рэч выходзіла меншага, чым гэта трэба, размеру. Тым часам той, хто гэтыя парфіроўкі рабіў, атрымліваў прэмію за эканомію матэрыялу. Па віне лабараторыі фабрыкі парфіроўка для целагрэек была зроблена без уліку швоў, з-за чаго ватны цэх прастаяў 5 гадзін.

Таварыш Сталін на Пленуме ЦК ВКП(б) прывёў урывак з закрытага пісьма ВКП(б), у якім гаварылася:

> «...усе нашы партыйныя арганізацыі, усе члены партыі павінны зразумець, што пільнасць комуністаў неабходна на любым участку і ва ўсякай абстаноўцы. Неад'емнай якасцю кожнага большэвіка ў сучасных умовах павінна быць уменне распазнаваць ворага партыі, як-бы добра ён ні быў замаскаваны».

Кожны партыйны работнік павінен рашуча адмовіцца ад дзяляцкага падыходу да падзей, перагледзець метады сваёй работы і сур'ёзна заняцца палепшаннем яе. Каб ліквідаваць запушчанасць партыйна-палітычнай работы, трэба перш за ўсё адмовіцца ад старых метадаў і перабудаваць яе ў адпаведнасці з рашэннямі Пленума ЦК ВКП(б) і ўказаннямі таварыша Сталіна.

* * *

Вывучэнне гісторыі нашай партыі заўсёды было важнейшым участкам партыйнай работы. У вядомым партыйным дакуменце—пастанове пленума Ленінградскага гаркома ад 29 сакавіка 1935 года—запісана: «Без глыбокага і ўсебаковага вывучэння гісторыі партыі нельга аўладаць ленінска-сталінскай тэорыяй, нельга зразумець і разабрацца ў бягучай палітыцы нашай партыі, нельга навучыцца па-большэвіцку выкрываць класавага ворага, якой-бы маскай вораг ні прыкрываўся».

Аднак, у радзе віцебскіх партарганізацый не прымячаецца палепшання работы сеткі партасветы.

На фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» яшчэ не зжыты сезонныя настроі. У школе па вывучэнню гісторыі партыі (кіруе тав. Каган) лічыцца 41 слухач. На занятках 27 лютага было 31; 7 сакавіка—21; 2 красавіка—16 і 21 красавіка—8. Заняткі першага курса партыйнай школы пры фабрыцы (з 24 слухачоў) наведала: 30 студзеня—20 чалавек; 12 лютага—15; 26 сакавіка—8; 6 красавіка—14; 23 красавіка—9; 28—13. У ветзооінстытуце заняткі гуртка бягучай палітыкі з 39 навуковых работнікаў наведала: 20 сакавіка—18 чалавек, 1 красавіка—19, 15 красавіка—23, 25 красавіка—23.

На справаздачна-выбарчых сходах многа гаварылася аб тым, што парткомы не сочаць за вучобай комуністаў і што некаторыя кіраўнікі гурткоў, карыстаючыся бескантрольнасцю, нядобрасумленна рыхтуюцца да заняткаў. Партыйныя камітэты і зараз яшчэ не займаюцца па-сапраўднаму справай пастаноўкі большэвіцкай прапаганды. Яны, відаць, не зразумелі гістарычнага пісьма таварыша Сталіна да складальнікаў падручніка па гісторыі ВКП(б), у якім сказана, што неабходна карэнным чынам змяніць выкладанне гісторыі партыі, падняць яго на належную навуковую і прынцыповую вышыню.

Па сутнасці нічога не зроблена і для рэалізацыі ўказання таварыша Сталіна аб тым, што:

> «Неабходна перш за ўсё павярнуць увагу нашых партыйных таварышоў, якія вязнуць у «бягучых пытаннях» па лініі таго або іншага ведамства,—у бок вялікіх палітычных пытанняў міжнароднага і ўнутранага характару».

Важнейшыя падзеі міжнароднага і ўнутранага жыцця своечасова не даводзяцца да шырокіх мас працоўных горада і раёна. Нават даклады робяцца рэдка. За апошнія паўтара месяцы быў пастаўлен толькі адзін даклад аб 1-м Мая.

Справаздачна-выбарчыя сходы ўскрылі рад памылак у галіне палітычнай агітацыі. Агітацыя часта перадавяраецца палітбяседчыкам і чытчыкам з нізкім культурна-палітычным узроўнем. Партком фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» не сочыць за работай палітбяседчыкаў. З 78 палітбяседчыкаў фактычна працуе чалавек 45—50. Палітгутаркі праводзяцца часта, але слухае іх невялікая група рабочых. Так, у касцюмным цэху швейнай фабрыкі антырэлігійную гутарку замест 40—50 слухала не больш 10—15 чалавек. Палітбяседчыкі звычайна выступаюць у абедзены перапынак, гавораць самі так доўга, што для пытанняў і адказаў часу не застаецца. Самі гутаркі бедны фактамі і нагадваюць мітынговыя прамовы.

Гурткі па вывучэнню Сталінскай Канстытуцыі працуюць з вялікімі перабоямі. На швейнай фабрыцы кіраўнікі гурткоў тт. Амбург і Штэйнцаг сістэматычна зрываюць заняткі. На акулярнай фабрыцы наведванне гурткоў дрэннае. 4 сакавіка на занятках было 205 чалавек, 26—118, 14 красавіка—165, 26—76, 4 мая—91. У цэху паліто (гурток тав. Бермана) 9 сакавіка было 14 чал., 9 красавіка—6, 19 красавіка 1, у касцюмным цэху (гурток тав. Горнера) 10 сакавіка на занятках было 20 чалавек, 21 сакавіка—8, 3 красавіка—7.

* * *

Пленум ЦК ВКП(б) указаў, што партыйныя кіраўнікі страцілі густ да друкаванага слова. Недаацэнка друку—самай вострай, самай моцнай зброі нашай партыі—усё яшчэ не рэдкая з'ява. У рабоце насценгазет не адчуваецца патрэбнага партыйнага ўплыву. На швейнай фабрыцы 232 члены рэдкалегіі насценгазет, але сярод іх толькі 9 комуністаў. З часу справаздачна-выбарчых сходаў парткомы ні разу не ставілі пытання аб рабоце шматтыражных і насценных газет, аб выхаванні газетных кадраў. Нават грубыя памылкі, дапушчаныя шматтыражкаю швейнай фабрыкі, не прыкавалі ўвагі парткома.

Газета гэтай фабрыкі незаслужана ахаяла прыёмшчыка тав. Крупеніна за тое, што ён падпісаў свой артыкул псеўдонімам. Адкрыўшы імя аўтара, рэдакцыя газеты рэкамендавала абмеркаваць паводзіны

тав. Крупеніна на цэхпартгрупе. Партгрупа абмеркавала і паставіла тав. Крупеніну на від. Партком не толькі не выправіў гэтай памылкі, але палічыў такія недапушчальныя адносіны да рабкора правільнымі.

Кіраўніцтва друкам адсунута на задні план. Газеты выключна дрэнна асвятляюць пытанні партыйнай работы. У 11 нумары шматтыражкі, які вышаў пасля справаздачна-выбарчага сходу на швейнай фабрыцы, няма ніводнага слова аб перабудове партыйнай работы, аб тым, як выконваюцца рашэнні сходу.

Партыйныя работнікі, як правіла, не пішуць у газету, і без іх удзелу газета не можа сістэматычна асвятляць пытанні партыйнай работы.

Пленум ЦК ВКП(б) асабліва завастрыў пытанне аб рабоце з гаспадарчымі кадрамі. Вопыт правядзення сходаў гаспадарча-вытворчага актыва паказаў, якое агромнае значэнне яны маюць у справе палітычнага выхавання кадраў, разгортвання большэвіцкай крытыкі і ліквідацыі вынікаў шкодніцтва.

Праведзеныя на прадпрыемствах Віцебска нарады гаспадарчых актываў былі дрэнна падрыхтаваны і не здолелі падняць рад вострых вытворча-гаспадарчых пытанняў.

Парткомы нічога не зрабілі для ўцягнення гаспадарча-адміністрацыйных работнікаў ў актыўнае палітычнае жыццё. На швейнай фабрыцы дзве трэці адміністрацыйна-гаспадарчых работнікаў цэха паліто і 32 работнікі з 44 касцюмнага цэху не маюць ніякіх грамадскіх даручэнняў. Далёка не ўсе таварышы з вытворчага актыва вучацца. Так, з 34 адказных работнікаў кіраўніцтва фабрыкі не вучыцца 22.

Пленум Цэнтральнага Камітэта ВКП(б), ускрыўшы недахопы партыйнай работы, паставіў перад усімі партарганізацыямі задачы каласальнай важнасці. Выкананне гэтых задач дыктуецца надыходзячымі выбарамі ў вярхоўныя органы нашай краіны па новай Сталінскай Канстытуцыі.

> «Правядзенне дэмакратычных выбараў—гэта справа вельмі сур'ёзная. Гэта вельмі сур'ёзны экзамен для нашай партыі ў сэнсе праверкі яе сувязі з масамі, працаздольнасці і аўтарытэту нашых партыйных арганізацый у масах. Правядзенне выбараў патрабуе агромнага напружання ўсіх сіл нашай партыі.
>
> Каб сустрэць гэты паварот у палітычным жыцці нашай краіны ва ўсеўзбраенні, наша партыя павінна стаць на чале гэтага павароту і забяспечыць сваю кіруючую ролю ў выбарах вярхоўных органаў краіны» **(Жданаў).**

# Аб партарганізацыях новастворaных саюзных рэспублік

*Пастанова Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)*

1. Пераўтварыць Казахскую краявую арганізацыю ВКП(б) у комуністычную партыю (большэвікоў) Казахстана і Кіргізскую абласную арганізацыю ВКП(б)—у комуністычную партыю (большэвікоў) Кіргізіі.

На надыходзячых чарговых партыйных з'ездах Казахскай і Кіргізскай рэспублік правесці выбары цэнтральных камітэтаў гэтых нацкомпартый.

2. Ліквідаваць Закаўказскі крайком ВКП(б) і падпарадкаваць непасрэдна ЦК ВКП(б)—ЦК КП(б) Азербайджана, ЦК КП(б) Грузіі і ЦК КП(б) Арменіі.

3. Уключыць Кара-Калпакскую абласную арганізацыю ВКП(б) у склад комуністычнай партыі (большэвікоў) Узбекістана, падпарадкаваўшы Кара-Калпакскі абком непасрэдна ЦК КП(б) Узбекістана.

*ЦК ВКП(б).*

23 красавіка 1937 года.

## Аб непасрэдным падпарадкаванні ЦК ВКП(б) партарганізацый аўтаномных рэспублік, якія ўваходзяць у РСФСР

*Пастанова Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)*

Устанавіць з 1-га ліпеня 1937 года парадак непасрэднага падпарадкавання Цэнтральнаму Камітэту ВКП(б) абкомаў ВКП(б) наступных партыйных арганізацый: Бурат-Мангольскай, Дагестанскай, Кабардына-Балкарскай, Калмыцкай, Карэльскай, Комі, Марыйскай, Мардоўскай, Немцаў-Паваложжа, Паўночна-Асецінскай, Удмурцкай, Чэчэна-Інгушскай і Чувашскай аўтаномных рэспублік.

*ЦК ВКП(б)*

23 красавіка 1937 года.

# Аб аўтарскіх кадрах газет „Правда Севера“ і „Горьковская коммуна“

*(Пастанова ЦК ВКП(б) ад 25 сакавіка 1937 г.)*

Заслухаўшы паведамленне Аддзела друку і выдавецтваў ЦК ВКП(б) аб аўтарскіх кадрах газет «Правда Севера» і «Горьковская коммуна», ЦК ВКП(б) адзначае грубейшыя бюракратычныя скажэнні ў рабоце гэтых газет, якія выражаюцца ў тым, што да супрацоўніцтва ў газетах амаль не прыцягваецца пазарэдакцыйны актыў з партыйных і совецкіх работнікаў, спецыялістаў, стаханаўцаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, настаўнікаў і іншых груп чытачоў. Газеты, як правіла, запаўняюцца пасрэдным матэрыялам штатных рэдакцыйных работнікаў, рэдакцыі надта слаба прыцягваюць да ўдзелу ў газетах новыя аўтарскія кадры, дрэнна працуюць з аўтарскім актывам і не садзейнічаюць адбору і вырошчванню новых аўтараў, у прыватнасці—з растучых рабселькораў, што прывяло да зніжэння ідэйнага і якаснага ўзроўню ўказаных газет.

ЦК ВКП(б) лічыць, што гэтыя бюракратычныя скажэнні з'яўляюцца рэзультатам і паказчыкам у корані няправільнай пастаноўкі работы рэдакцый газет і адсутнасці кіраўніцтва газетамі з боку Паўночнага і Горкаўскага крайкомаў, якія нясуць прамую адказнасць за дрэнную работу газет.

ЦК ВКП(б) указвае рэдактару газеты «Горьковская коммуна» т. Келлеру і ч. в. а. рэдактара газеты «Правда Севера» т. Матвееву на недапушчальнасць небальшэвіцкай практыкі адціравння ад работы ў газетах пазарэдакцыйнага аўтарскага актыва і прапануе ў далейшай рабоце выходзіць з таго, што адной з важнейшых задач газет з'яўляецца ўсямернае пашырэнне і ўмацаванне іх сувязей з масамі і прыцягненне да супрацоўніцтва ў газетах новых аўтарскіх кадраў.

ЦК ВКП(б) абавязвае рэдактароў газет «Горьковская коммуна» і «Правда Севера»:

1. перабудаваць работу газет, на аснове шырокага прыцягнення да актыўнага супрацоўніцтва ў якасці аўтараў артыкулаў, пісем, карэспандэнцый, партыйных, совецкіх і гаспадарчых работнікаў, стаханаўцаў—рабочых і калгаснікаў, прадстаўнікоў совецкай інтэлігенцыі (інжынераў, тэхнікаў, навуковых работнікаў, настаўнікаў, урачоў, аграномаў і т. д.);

2. арганізаваць сістэматычную работу з пазарэдакцыйным аўтарскім актывам газет (індывідуальныя і калектыўныя гутаркі, снабжэнне матэрыяламі, літаратурная кансультацыя і дапамога і т. д.),

старанна правяраючы аўтараў, прыцягваючы іх да папярэдняга абмеркавання планаў і мерапрыемстваў рэдакцый;

3. перыядычна склікаць аўтарскі актыў для крытычнага абмеркавання праводзімых газетамі кампаній і мерапрыемстваў, а таксама для практычнага разбору прапагандысцкіх артыкулаў, пісем і карэспандэнцый.

ЦК ВКП(б) указвае рэдактарам газет, што прыцягненне шырокага аўтарскага актыва да супрацоўніцтва ў друку з'яўляецца іх адказнейшай палітычнай задачай.

---

# Аб становішчы работы са спачуваючымі ў Ельскай райпартарганізацыі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Бюро ЦК КП(б)Б прызнае работу Ельскага РК КП(б)Б па кіраўніцтву і арганізацыі работы са спачуваючымі зусім нездавальняючай.

У выніку недаацэнкі работы са спачуваючымі з боку РК КП(б)Б гэты важнейшы ўчастак работы зусім закінуты і з снежня м-ца 1936 г. прыём у спачуваючыя спыніўся. Рост спачуваючых, які меўся, праходзіў самацёкам, без дастатковай праверкі прымаемых, аб чым сведчыць прыём у спачуваючыя асоб, неправераных і чуждых; значная колькасць прынятых з'яўляецца служачымі пры недастатковым прыёме рабочых і калгаснікаў.

РК КП(б)Б і пярвічныя партарганізацыі не арганізавалі работы са спачуваючымі. У выніку асноўная маса спачуваючых не ўцягнута ў работу пярвічных партарганізацый і грамадскую работу. Не арганізаваны дапамога і кантроль за палітычным выхаваннем і вучобай спачуваючых (23 спачуваючыя з 62-х зусім нідзе не вучацца). Інструктары РК пры выездах у пярвічныя партарганізацыі са спачуваючымі не гутарылі і не збіралі іх для правядзення гутарак па важнейшых палітычных пытаннях.

Такая запушчанасць работы са спачуваючымі і беспартыйным актывам тым больш недапушчальна ва ўмовах пагранічнага раёна.

Бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Прапанаваць Ельскаму РК КП(б)Б арганізаваць работу з беспартыйным актывам і стаханаўцамі ў калгасах, соўгасах і ўстановах, шляхам стварэння палітшкол беспартыйнага актыва, уцягнення беспартыйнага актыва ў работу сельсовета і яго секцый, дэпутацкіх груп, шляхам перыядычнай дачы ім канкрэтных даручэнняў.

2. Не пазней 10.6-37 г. забяспечыць ахоп усіх спачуваючых палітычнай вучобай як у сетцы партыйнай вучобы, так і шляхам стварэння асобых палітгурткоў пры пярвічных партарганізацыях, альбо куставых палітгурткоў. Забяспечыць гэтыя палітгурткі найбольш падрыхтаванымі і кваліфікаванымі прапагандыстамі. РК КП(б) і пярвічным партарганізацыям арганізаваць дапамогу і кантроль за вучобай спачуваючых.

Работу палітгурткоў пачаць з вывучэння спачуваючымі Канстытуцыі СССР і БССР, рашэнняў лютаўскага пленума ЦК ВКП(б), даклада і заключнага слова таварыша Сталіна.

3. Абавязаць сакратара Райкома КП(б)Б тав. Мелехава і інструктароў пры выездах у пярвічныя партарганізацыі абавязкова збіраць

спачуваючых і праводзіць з імі гутаркі як па пытаннях агульна-палітычных, так і па іх практычнай рабоце.

4. Не радзей аднаго разу ў паўтара месяцы практыкаваць скліканне спачуваючых у РК КП(б)Б на 1—2 дні для прапрацоўкі з імі важнейшых пытанняў міжнароднага і ўнутранага парадку. Гутаркі са спачуваючымі па гэтых пытаннях павінны праводзіць сакратар РК і члены бюро РК.

5. Увесці ў сістэму дачу канкрэтных перыядычных партыйных даручэнняў спачуваючым пярвічнымі партарганізацыямі і РК КП(б)Б, арганізаваўшы дапамогу спачуваючым у выкананні імі гэтых даручэнняў з тым, каб кожнае даручэнне з'явілася выхоўваючым і забяспечваючым палітычны рост спачуваючых.

6. У мэтах забеспячэння правільнага размеркавання даручэнняў спачуваючым прапанаваць сакратару РК т. Мелехаву правесці гутарку з кожным спачуваючым паасобку ў прысутнасці сакратара парткома або парторга.

7. Абавязаць РК забяспечыць прысутнасць і актыўны ўдзел спачуваючых на адкрытых партыйных сходах, для чаго загадзя азнаямляць спачуваючых з павесткаю дня партсходу, рэкамендаваць ім матэрыялы для падрыхтоўкі да партсходу і не радзей аднаго разу ў месяц праводзіць адкрытыя партсходы з удзелам спачуваючых.

8. На бюро РК КП(б)Б перыядычна заслухоўваць парторгаў аб рабоце са спачуваючымі і беспартыйным калгасным і соўгасным актывам.

9. Даручыць Мазырскаму АК праз два месяцы праверыць выкананне гэтага рашэння ЦК КП(б)Б Ельскім РК КП(б)Б і іншымі РК КП(б)Б.

10. Даручыць усім АК, ГК і РК абмеркаваць гэта рашэнне і прыняць практычныя меры па забеспячэнню работы са спачуваючымі.

# Аб ходзе прыёму ў партыю ў Гомельскай партыйнай арганізацыі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

1. Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад сакратара Гомельскага ГК КП(б)Б тав. Стакуна і паведамленне АКПО ЦК КП(б)Б т. Тавакаляна аб ходзе прыёму новых членаў у КП(б)Б у Гомельскай партарганізацыі,—Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што Гомельскі ГК КП(б)Б замест клапатлівай работы па арганізацыі прыёму новых членаў у партыю зусім спыніў усялякую работу па прыёму ў партыю. Пачынаючы з канца лютага 1937 г., пярвічныя партарганізацыі ў сваю чаргу перасталі займацца справай прыёму ў партыю (за сакавік—красавік 1937 г. па Гомельскай партарганізацыі паступіла заяў аб прыёме ў кандыдаты партыі тры і аб пераводзе з кандыдатаў у члены партыі—6). ГК КП(б)Б, пачынаючы з 1-га студзеня 1937 г., зусім спыніў разгляд спраў, прынятых у партыю і пераведзеных з кандыдатаў у члены партыі па пярвічных партарганізацыях.

Пярвічныя партарганізацыі дапусцілі рад сур'ёзнейшых скажэнняў і парушэнняў як статута партыі, так і ўказанняў ЦК ВКП(б) аб прыёме новых членаў у ВКП(б). Гэтыя скажэнні, галоўным чынам, ішлі па лініі: недастатковай праверкі прымаемых у партыю (Гомсельмаш), няправільнага афармлення спраў прымаемых, адсутнасці патрабуемых водзываў ад месца ранейшай работы (шклозавод), прыёму ў партыю без усялякага абмеркавання кандыдатур прымаемых і перавадзімых, адсутнасці рэкамендуючых пры прыёме ў партыю і т. д.

У практыцы ГК КП(б)Б наглядаецца недапушчальная валакіта з пытаннямі прыёму ў партыю. Замест дзелавога растлумачэння парадку прыёму, абмеркавання пытанняў, звязаных з прыёмам і афармленнем спраў прымаемых у партыю, ГК КП(б)Б пад відам няправільнага афармлення спраў бясконца звяртае іх у пярвічныя партарганізацыі.

У выніку гэтых сур'ёзных памылак, дапушчаных Гомельскім ГК КП(б)Б у справе прыёму ў партыю, за апошнія месяцы фактычна спынілася паступленне заяў аб прыёме ў партыю і аб пераводзе з кандыдатаў у члены партыі.

Бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Прапанаваць Гомельскаму ГК КП(б)Б неадкладна арганізаваць разгляд спраў прынятых у кандыдаты партыі і пераведзеных з кандыдатаў у члены партыі па пярвічных партарганізацыях, рашуча ліквідаваць існуючую ў гэтай справе недапушчальную валакіту.

2. Абавязаць Гомельскі ГК КП(б)Б абмеркаваць пытанне аб ходзе прыёму ў партыю па Гомельскай партарганізацыі, падвергнуўшы ра-

шучай крытыцы і самакрытыцы як памылкі, дапушчаныя пярвічнымі партарганізацыямі, так і ГК КП(б)Б у справе прыёму новых членаў у КП(б)Б.

3. Абавязаць ГК у далейшым забяспечыць сістэматычнае кіраўніцтва і дапамогу пярвічным партарганізацыям у іх рабоце па арганізацыі прыёму ў партыю.

4. ЦК КП(б)Б лічыць, што факт спынення паступлення заяў аб прыёме ў кандыдаты партыі амаль па ўсіх пярвічных партарганізацыях Гомеля сведчыць аб зусім недастатковай сувязі партарганізацыі з беспартыйнымі масамі, аб дрэннай агітацыйна-масавай рабоце комуністаў сярод беспартыйных, аб нездавальняючай рабоце са спачуваючымі і беспартыйным актывам. Абавязаць ГК неадкладна зніштчыць маючыяся ў гэтай справе буйнейшыя недахопы.

5. Даручыць усім АК, ГК і РК КП(б)Б абмеркаваць гэтае рашэнне і распрацаваць практычныя мерапрыемствы па палепшанню работы па прыёму ў партыю.

---

# Аб становішчы партыйнага кіраўніцтва комсамолам у Плешчаніцкай партыйнай арганізацыі

*Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б*

Бюро ЦК КП(б)Б прызнае кіраўніцтва комсамолам ў Плешчаніцкай партыйнай арганізацыі зусім нездавальняючым.

Плешчаніцкі райком КП(б)Б замест штодзеннага кіраўніцтва і канкрэтнай дапамогі райкому комсамола самаўхіліўся ад кіраўніцтва комсамолам, у выніку чаго работа комсамольскай арганізацыі і палітычнае выхаванне моладзі ў раёне застаецца зусім нездавальняючым.

Пярвічныя партыйныя арганізацыі да такога важнейшага пытання як кіраўніцтва комсамолам падышлі фармальна, абмежаваўшыся вызначэннем партпрымацаваных, якія ў сваёй большасці не забяспечылі неабходнай дапамогі комсамольскім пярвічным арганізацыям у справе комуністычнага выхавання моладзі.

У выніку нездавальняючага кіраўніцтва комсамолам з боку РК КП(б)Б і пярвічных партыйных арганізацый у большасці пярвічных комсамольскіх арганізацый сарвана палітычная вучоба комсамольцаў. Цалкам па раёну правалена абаронная работа сярод моладзі і не гледзячы на спецыяльнае ўказанне ЦК КП(б)Б, да гэтага часу не арганізавана культурна-масавая работа сярод моладзі.

Бюро ЦК КП(б)Б указвае Плешчаніцкаму РК КП(б)Б і сакратару РК т. Скараходу, што самаўхіленне райкома ад кіраўніцтва такім важнейшым палітычным участкам работы, як моладзь, сведчыць аб сур'ёзным прарыве ў рабоце Плешчаніцкай партарганізацыі.

Выходзячы з гэтага, Бюро ЦК прапануе Плешчаніцкаму РК правесці наступныя практычныя мерапрыемствы па ўзмацненню кіраўніцтва і дапамогі комсамольскай арганізацыі:

1) Да 10-га чэрвеня падабраць і зацвердзіць на бюро райкома 18 чалавек, найбольш падрыхтаваных і правераных комуністаў ў якасці кіраўнікоў комсамольскіх школ па вывучэнню гісторыі партыі. К гэтаму-ж тэрміну разглядзець і зацвердзіць на Бюро РК усіх кіраўнікоў комсамольскіх школ палітграматы. Устанавіць парадак, пры якім змена кіраўніцтва комсамольскіх школ па вывучэнню гісторыі партыі і школ палітграматы можа ўтварацца толькі па рашэнню райкома комсамола з абавязковым зацверджаннем РК КП(б)Б.

2) Абавязаць заг. культпропа РК узяць на сябе кіраўніцтва комсамольскім пропсемінарам, а бюро РК устанавіць найстражэйшы нагляд за рэгулярнай работай пропсемінара і якасцю прапрацоўкі кожнай тэмы на пропсемінары.

3) Абавязаць РК рэгулярна заслухоўваць справаздачы РК комсамола аб рабоце комсамольскіх школ, аказваючы канкрэтную дапамогу комсамолу ў палепшанні якасці работы комсамольскіх школ.

4) Абавязаць РК КП(б)Б не радзей аднаго разу ў месяц ставіць на комсамольскіх актывах даклады па міжнародных і ўнутраных пытаннях, забяспечыўшы гэтыя актывы лепшымі дакладчыкамі з членаў бюро РК КП(б)Б і ваенных работнікаў.

5) На працягу чэрвеня месяца райкому вызначыць і падрыхтаваць групу комуністаў у 6—7 чалавек, як дакладчыкаў па антырэлігійных пытаннях з тым, каб гэта група комуністаў правяла-б на сходах моладзі цыкл дакладаў на антырэлігійныя тэмы.

6) РК КП(б)Б у чэрвені м-цы разглядзець на бюро РК пытанне аб пастаноўцы культмасавай работы сярод моладзі, аказаўшы комсамолу канкрэтную дапамогу культурнымі сіламі і сродкамі ў арганізацыі гурткоў комсамольскай самадзейнасці (харавыя, драматычныя, музычныя і т. д.).

7) Даручыць РК КП(б)Б падабраць падрыхтаванага ў ваенных адносінах таварыша, якога прымацаваць да комсамола для дапамогі ў пастаноўцы абароннай работы сярод моладзі. Райкому КП(б)Б устанавіць кантроль за тым, як вызначаны райкомам таварыш дапамагае комсамолу ў пастаноўцы абароннай работы.

8) Адмяніць інстытут партпрымацаваных да комсамольскіх арганізацый, як не апраўдаўшую сябе форму партыйнага кіраўніцтва і ўплыву на комсамол і прыводзячую да самаўхілення кіруючых партыйных органаў (РК, парткомы, парторгі) ад непасрэднага штодзеннага кіраўніцтва і дапамогі комсамолу ў яго рабоце. Ажыццяўленне партыйнага кіраўніцтва комсамолам ускласці на бюро РК і першага сакратара РК, на парткомы і асабіста сакратароў парткомаў і на парторгаў.

9) Даручыць РК разглядзець на бюро пытанне аб выбарах кіруючых комсамольскіх органаў, аказаўшы комсамолу канкрэтную дапамогу, у асаблівасці партыйнымі кадрамі, у правядзенні гэтага важнейшага палітычнага мерапрыемства. Райкому КП(б)Б дапамагчы комсамольскім арганізацыям у падборы кіруючых комсамольскіх кадраў.

10) Даручыць т. Скараходу на райпартсходзе ў ліпені м-цы далажыць аб становішчы партыйнага кіраўніцтва комсамолам і аб выкананні гэтага рашэння ЦК.

11) Даручыць усім АК, ГК і РК абмеркаваць гэтае рашэнне на бюро, намеціўшы канкрэтныя мерапрыемствы па ўзмацненню парткіраўніцтва комсамолам.

# Аб перабудове работы парткомаў швейнай фабрыкі „Сцяг індустрыялізацыі“, акулярнай фабрыкі і ветзоаінстытута пасля выбараў па Віцебскай партарганізацыі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Адзначыць, што новаабраныя парткомы недапушчальна марудна рэалізуюць рашэнні лютаўскага пленума ЦК ВКП(б), указанні таварыша **Сталіна** і рашэнні, прынятыя сходамі па справаздачных дакладах парткомаў. Парткомы ўказаных арганізацый пасля выбараў самасупакоіліся, не ўзначалілі актыўнасці комуністаў і не забяспечылі далейшага разгортвання крытыкі і самакрытыкі.

Віцебскі гарком КП(б)Б не арганізаваў дапамогі пярвічным парт-арганізацыям у справе перабудовы партыйнай работы і не ўстанавіў кантролю за тым, каб парткомы выканалі рашэнні, прынятыя на партыйных сходах па іх справаздачных дакладах.

Бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Прыняць да ведама паведамленне Віцебскага ГК КП(б)Б, што ён адмяніў размеркаванне абавязкаў у парткомах швейнай і акулярнай фабрык, як няправільнае і фармальнае (дырэктару было даручана кіраваць стаханаўскім рухам, рэдактару шматтыражкі—работай па друку, аднаму з членаў парткома—праверкай выканання). Абавязаць партыйныя камітэты размеркаваць партыйныя даручэнні такім чынам, каб усе члены парткома актыўна ўдзельнічалі ў выкананні канкрэтных даручэнняў парткома і рэалізацыі плана работы партыйнага камітэта.

2. Абавязаць партыйныя камітэты швейнай і акулярнай фабрык і Ветзоаінстытута ў чэрвені адчытацца на агульнапартыйных сходах аб тым, як партыйны камітэт праводзіць у жыццё рашэнні, прынятыя справаздачна-выбарчымі сходамі.

3. Лічыць няправільнай практыку склікання рабочых сходаў на швейнай фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі», калі сходы рабочых па зменах укладваюцца ў 20—30 мінут, сходы рабочых па лентах (агрэгатах)—ў 10—15 мінут, і гэтыя сходы, як правіла, праходзяць без спрэчак, што не спрыяе разгортванню крытыкі і праверкі з боку беспартыйных мас работы сваіх гаспадарчых, прафесіянальных і іншых кіраўнікоў.

Прапанаваць парткомам арганізаваць рэгулярнае скліканне сходаў рабочых па агрэгатах, зменах і цэхах са справаздачамі гаспадарнікаў аб іх рабоце з тым, каб рабочым была забяспечана магчымасць шырокага абмеркавання пастаўленых пытанняў.

4. Абавязаць сакратароў парткомаў на працягу чэрвеня месяца правесці праверку выканання комуністамі партыйных даручэнняў і гутаркі з кожным комуністам з тым, каб комуністу было дана такое даручэнне, якое спрыяла-б яго росту. У час гутаркі сакратара парткома з комуністам намеціць канкрэтныя меры дапамогі комуністу ў выкананні ім партыйнага даручэння.

5. Прапанаваць парткомам вылучыць групу найбольш правераных і падрыхтаваных комуністаў, з якімі прапрацаваць цыкл дакладаў па канкрэтных тэмах міжнароднай і ўнутранай палітыкі. Скарыстаць гэтых таварышоў ў якасці дакладчыкаў не толькі на партыйных сходах, але і на шырокіх рабочых сходах. Парткомам зацвердзіць тэматыку дакладаў. Устанавіць, што на кожным занятку партшколы прапагандыст абавязан правесці гутарку са слухачамі па аднаму асноўнаму пытанню міжнароднай і ўнутранай палітыкі, для чаго павялічыць на гадзіну працягласць кожнага занятка партшколы. Парткомам зацвердзіць тэматыку гутарак па міжнародных пытаннях, якія будуць праводзіцца ў школах.

Віцебскаму гаркому КП(б)Б вылучыць групу найбольш правераных і падрыхтаваных таварышоў з партыйнага актыва, якія павінны падрыхтаваць цыкл лекцый па пытаннях міжнароднага і ўнутранага характару для прачытання іх партыйнаму актыву Віцебскай арганізацыі. У партыйных кабінетах арганізаваць вітрыны з літаратурай і дэманстрацыйныя карты аб падзеях у Іспаніі, аб праекце плана трэцяй пяцігодкі, аб заваяванні Паўночнага полюса і інш. пытаннях.

6. Даручыць Аддзелу друку і выдавецтваў ЦК КП(б)Б забяспечыць фабрычна-заводскія шматтыражкі невялікімі па аб'ёму, але шырокадаступнымі артыкуламі па міжнародных і ўнутраных пытаннях з тым, каб такога роду артыкулы маглі-б сістэматычна друкавацца ў паказаных газетах.

Прапанаваць парткомам, побач з існуючымі палітгутаркамі, якія праводзяцца ў абедзеныя перапынкі, арганізаваць не менш, чым раз у дэкаду, гутаркі ў свабодны ад работы час, вылучыўшы для гэтага больш кваліфікаваных таварышоў з тым, каб гэтыя гутаркі цягнуліся не 15—20 мінут, як гэта практыкуецца ў абедзеныя перапынкі.

7. Прапанаваць ГК партыі стварыць двухмесячныя курсы антырэлігійнікаў без адрыву ад вытворчасці на 25—30 чалавек з тым, каб даць ім неабходныя веды для вядзення кваліфікаванай антырэлігійнай прапаганды на прадпрыемствах. Прапанаваць Культпропу разаслаць гэтым курсам тэматыку і спіс рэкамендуемай літаратуры.

Прапанаваць Культасветаддзелу ЦК рэкамендаваць спіс кінокарцін і антырэлігійных п'ес для пастановак у рабочых клубах.

Прапанаваць Аддзелу друку ЦК забяспечыць фабрычна-заводскія шматтыражкі кваліфікаванымі і папулярнымі антырэлігійнымі артыкуламі.

8. Абавязаць партыйныя камітэты заслухоўваць і абмяркоўваць на парткомах выпуск слухачоў па скканчэнні работы кожнага гуртка і ў паасобку з тым, каб даць ацэнку работы як школе і прапагандысту, так і слухачам, і тут-жа вызначыць далейшую форму вучобы персанальна для кожнага слухача.

Лічыць зусім абавязковым для ўсіх малаграматных комуністаў вывучаць агульнаадукацыйныя дысцыпліны або шляхам увядзення іх у партыйныя школы, або шляхам наведвання комуністамі агульнаадукацыйных школ і курсаў.

Прапанаваць парткому Ветзоаінстытута вылучыць са слухачоў гуртка бягучай палітыкі для навуковых работнікаў, служачых канцэлярый і лабарантаў, стварыўшы для апошніх спецыяльны гурток.

9. Надаючы выключнае значэнне гістарычнаму пісьму таварыша Сталіна да складальнікаў падручніка па гісторыі партыі, Бюро ЦК абавязвае зараз-жа прыступіць да перабудовы выкладання гісторыі партыі ў адпаведнасці з указаннямі таварыша Сталіна. ЦК лічыць неабходным, каб прапагандысты перад праходжаннем кожнага перыяда ў гісторыі партыі ўвязвалі-б гісторыю партыі з гісторыяй СССР і азнаёмілі-б слухачоў у спецыяльнай лекцыі з палітычнай і эканамічнай абстаноўкай гэтага перыяда па творах Леніна і Сталіна.

Абавязаць Гарком партыі забяспечыць прапагандыстаў кваліфікаванымі інструкцыйнымі дакладамі і кансультацыяй у гэтым пытанні.

10. Абавязаць асабіста сакратароў парткомаў абагуліць факты шкодніцтва на швейнай фабрыцы і ў Ветзоаінстытуце з тым, каб пасля абагулення фактаў далажыць комуністам і беспартыйным рабочым аб метадах шкодніцкай работы, выкрытай на фабрыцы і ў інстытуце.

Прапанаваць ГК партыі абагуліць матар'ял аб метадах шкодніцкай работы на прадпрыемствах, у навучальных установах і ўстановах горада і далажыць партыйнаму актыву аб мэтах і метадах шкодніцка-шпіёнскай работы, выкрытай на прадпрыемствах горада.

Абавязаць ГК КП(б)Б арганізаваць для партактыва рад лекцый у мэтах выкрыцця варожай дзейнасці трацкісцка-шпіёнскай агентуры ў галіне літаратуры.

11. Прапанаваць парткомам не менш чым раз у месяц заслухоўваць на сваіх паседжаннях паведамленне рэдактара газеты аб становішчы рэагавання з боку партыйных, гаспадарчых, прафесіянальных і інш. работнікаў на змешчаныя ў газеце артыкулы, прымаючы меры партыйна-грамадскага ўздзеяння да тых работнікаў, якія не адказваюць на адносячыяся да іх заметкі і гэтым становяцца на шлях заціску крытыкі.

12. Прапанаваць парткомам спецыяльна абмеркаваць пытанне аб вучобе і грамадскай рабоце комуністаў з адміністрацыйна гаспадарчага актыва (дырэктары, кіраўнікі цэхаў, брыгадзіры і інш.), прыняўшы меры па ўцягванню іх у актыўную грамадска-палітычную работу і стварэнню для іх спецыяльных школ і гурткоў для аўладання імі марксісцка-ленінскай тэорыяй.

13. Абавязаць АК, ГК і РК абмеркаваць гэта рашэнне і намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па перабудове партыйнай работы ў пярвічных партарганізацыях АК, ГК і РК КП(б)Б.

---

## Пастанова ЦК КП(б)Б

Выключыць з партыі і з складу ЦК КП(б)Б Хадасевіча П. І., як дэзертыра Чырвонай Арміі і двурушніка.

Бюро ЦК КП(б)Б прызнае, што ў выніку адсутнасці неабходнай большэвіцкай пільнасці ў адносінах Хадасевіча пры наяўнасці сігналаў,—Хадасевіч П. І. астаўся нявыкрытым нават пры праверцы і абмене партыйных дакументаў.

**Сакратар ЦК КП(б)Б В. ШАРАНГОВІЧ.**

---

Уп. Галоўлітбела 437.
Тыраж 6.900 экз.
401.800 друк. зн. ($7^1/_2$ арк.)
Здана ў набор 17/V-37 г.
Падпісана да друку 9/VI-37 г.

*Рэдкалегія* Г. Рубінштэйн (адк. рэдактар), Л. Готфрыд, Н. Казюк

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 713.

ЦАНА 40 кап.






# УВАГА!

Рэдакцыя журнала „Большэвік Беларусі“ даводзіць да ведама ўсіх падпісчыкаў, што на падставе пастановы Бюро ЦК КП(б)Б журнал „Большэвік Беларусі“ з палітыка-эканамічнага штомесячніка рэарганізуецца ў журнал партыйнага будаўніцтва. Акрамя агульнага аддзела, у якім будуць асвятляцца пытанні арганізацыйна-партыйнага будаўніцтва, партыйнай прапаганды, палітагітацыі і пытанні большэвіцкага друку,—у журнале, пачынаючы з № 3, уводзяцца аддзелы: „У дапамогу прапагандысту“, „У дапамогу парторгу і сакратару парткома“, „Жыццё мясцовых партарганізацый“ і „У Цэнтральным Камітэце КП(б)Б“.

У аддзелах журнала „Большэвік Беларусі“: „У дапамогу прапагандысту“, „У дапамогу парторгу і сакратару парткома“ сістэматычна будуць давацца кансультацыі па пытаннях партыйнай прапаганды, палітагітацыі і арганізацыйна-партыйнага будаўніцтва, а ў астатніх двух аддзелах будзе асвятляцца жыццё мясцовых партарганізацый і паведамленні аб важнейшых рашэннях ЦК КП(б)Б па пытаннях партыйнага будаўніцтва і ўнутрыпартыйнага жыцця.

Назва журнала застаецца ранейшай—
„Большэвік Беларусі“

## УМОВЫ ПАДПІСКІ РАНЕЙШЫЯ

| | | |
|---|---|---|
| На 1 мес. | — | 40 кап. |
| „ 3 „ | — | 1 р. 20 „ |
| „ 6 „ | — | 2 „ 40 „ |
| „ 9 „ | — | 3 „ 60 „ |

## ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:

штомесячна ўсімі райбюро „Саюздруку“, упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, усюды на пошце і пісьманосцамі.